

*Адпачынак на шляху ў Егіпет.*
*Пасля 1519 г. Дрэва, алей. 121x177 см.*
*Музей Прадо. Мадрыд.*



# Удзячнасць

Табе, Найвышэйшы Божа,
Мая замалая ўдзячнасць
За шчодрую дарнасць збожжа,
За хлеба нябёснага смачнасць,
За шчасце зімовага снегу,
Пяшчоту вясновае руні,
За ласку прыйсці ў кругабегу
Жыцця да святой Камуніі.

Над марнасцю чалавечай
Льсніць тайная моц аплатка...
І радасна так укленчыць
Прад яселькамі з Дзіцяткам...

*Ірына Багдановіч*



У нумары 4/2009
НАША ВЕРА



# Ёахім Пацінір. Адпачынак на шляху ў Егіпет

Сярод майстроў старога нідэрландскага і фламандскага жывапісу імя Ёахіма Пацініра (1475/80–1524) не мае такой сусветнай славы, як, напрыклад, імя Яна ван Эйка, Рэмбрандта або Рубенса. Але на працягу ўжо пяцісот гадоў карцінныя галерэі і зборы ганарацца тым, што валодаюць творамі гэтага таленавітага жывапісца. Ягоная карціна «Адпачынак на шляху ў Егіпет» доўгі час знаходзілася ў калекцыі іспанскага манарха Філіпа II у Эскарыале, а потым стала сапраўднай перлінай мадрыдскага Прадо.

На пачатку XVI стагоддзя Ёахім Пацінір быў адной з галоўных постацяў нідэрландскага грамадства. Падчас сваіх падарожжаў у Нідэрланды (1520–1521 гг.) вялікі майстар нямецкага Рэнесансу Альбрэхт Дзюрэр зрабіў візіты да мясцовых славутасцяў — жывапісца Квінтэна Мэтсіса і мысляра Эразма Ратэрдамскага, а потым наведаў дом і майстэрню Пацініра. Мастакі пасябравалі. Пацінір запрасіў Дзюрэра на сваё вяселле і атрымаў ад сябра ў падарунак свой партрэт і гравюры, выкананыя Дзюрэрам. У адказ нідэрландзец падарыў госцю карціну «Лот і ягоныя дочкі».

Ёахім Пацінір нарадзіўся ў мястэчку Бувінь, непадалёк ад Дзінана ў цяперашняй Валоніі (Бельгія), але ўсё ягонае творчае жыццё прайшло ў Антвэрпене, адным з галоўных цэнтраў Паўночнага Рэнесансу. Ужо пры жыцці Пацінір набыў вядомасць як жывапісец-пейзажыст. Гэтая жанравая спецыфіка і сёння вызначае мастацтвазнаўчыя характарыстыкі ягонай творчасці. Можна проста сказаць, што мастак апантана любіў прыроду, захапляўся прыгажосцю навакольнага свету і хацеў перадаць гледачам свае пачуцці. Французскі мастацтвазнаўца Робэр Жэнэй цудоўна акрэсліў сутнасць творчага метаду мастака: «Краявіды Пацініра дазваляюць адчуць структуру зямлі, сувязь паміж стыхіямі, неабсяжнасць свету. Чалавечыя істоты ў іх паказаны ў сапраўдным іх памеры»[1]. Аднак, каментуючы творы мастака, усе даследчыкі аднагалосна падкрэсліваюць, што Пацінір выкарыстоўваў біблейскія і евангельскія сюжэты як дадатак да сваіх краявідаў. Нават прафесар Лювэнскага каталіцкага універсітэта (Бельгія) Валянтан Дэні паўтарае гэты стэрэатып: «Сапраўды ў яго карцінах заўсёды адкрываецца бязмежная прырода, пасярод якой шэраг персанажаў, звычайна маленькага памеру, нагадваюць пра нейкую біблейскую сцэну: але гэтая саступка на карысць рэлігійнай традыцыі ёсць, на наш погляд, не больш чым надта ж другасная падстава, каб на самай справе намаляваць краявід у адпаведнасці з існуючым матывам»[2]. Акадэмічны стыль гэтай цытаты груваскі, але на звычайнай мове стэрэатыпная думка фармулюецца надзвычай аднаначна: мастак пачатку XVI стагоддзя дадаваў рэлігійныя матывы ў свае карціны «дзеля адчапнога». Думка так спадабалася прафесуры, што яна сцвярджае яе ўжо паўтара стагоддзя (столькі існуе мастацтвазнаўчая навука).

Мадрыдскі твор Пацініра ў прынцыпе не мае патрэбы ў абароне. Яго чароўная сіла скарае душу кожнага чалавека, які любіць свет і яго Стваральніка. Мастак, якога заслужана называюць першым на Поўначы Еўропы майстрам панарамнага краявіду, разгортвае перад намі карціну прыроды, нібы цудоўны скрутак. Еўрапейскі жывапіс яшчэ не ведаў такога даверлівага мастакоўскага дыялогу з навакольным светам.

Уражвае універсалізм вобразу натуры. Ад асокі на беразе рачулкі, што на першым плане, да ярка асветленых сялянскіх дамоў на цэнтральнай гарызанталі кампазіцыі і да горных вяршыняў і далягляду на дальнім плане — вока не адразу ахоплівае багатую вобразамі панараму прыроды. Пацінір як першаадкрывальнік вызначае таксама і каларыстычную трактоўку краявіду, якая будзе існаваць у еўрапейскім жывапісе на працягу стагоддзяў да рэвалюцыі імпрэсіяністаў. Каларыстычны лад карціны мае тры планы, паўтараючы канструкцыю кампазіцыі ў цэлым. Колерная разнастайнасць праяўляецца толькі на першым плане, дзе мастак уважліва вымалёўвае шэраг дэталяў. Сярэдні план дае дамінантную гаму халодных зялёных адценняў (лістота дрэваў) у спалучэнні з цёплымі жоўта-карычневымі тонамі. А далягляд нібы ахутаны празрыстым блакітным вэлюмам. Натурныя назіранні мастака паслужылі асновай для вельмі асабістай трактоўкі прыроды. Даследчыкі пазнаюць у краявідзе берагі рэчак і палі роднага мастаку валонскага краю, з якіх ён маляваў сваю Палестыну. Як вядома, у Нідэрландах гораў няма, але ў краявідах нідэрландскіх мастакоў мы вельмі часта ўбачым выявы горных хрыбтоў і вяршыняў. Біёграф нідэрландскіх мастакоў, сваіх сучаснікаў, Карэл ван Мандэр (яго называюць нідэрландскім Вазары) з пэўнай інтанацыяй ахарактарызаваў гэтую з'яву: «Калі яны былі ў Італіі, то там так аб'еліся горамі, што доўга яшчэ ванітавалі імі...» Сапраўды, многія паўночныя мастакі выпраўляліся ў Італію — калыску Рэнесансу. Невядома, ці быў за Альпамі Пацінір, але ў ягонай творчасці адбілася агульная тэндэнцыя. Не будзем забывацца, што ён жыў у эпоху вялікіх геаграфічных адкрыццяў, калі адбываўся сапраўдны прарыў у прасторы, галавакружнае пашырэнне межаў свету для тагачасных людзей. Руіны ў карціне Пацініра — гэта таксама згадка пра велічныя парэшткі антычнай культуры. Такім чынам мастак узмацняе гістарычнае гучанне адлюстраванай падзеі.

А ў цэнтры карціны Пацінір гаворыць аб галоўным, аб чалавечай драме Мадонны і Немаўляткa. Святая Сям'я спынілася над рэчкай, стомленая ўцёкамі. Каля ног Марыі — няхітрыя пажыткі ўцекачоў. Фігуры Мадонны з Немаўляткам Хрыстом узвышаюцца на пагорку, як на алтары. Яны выкананы зусім у іншым каларыстычным ключы, чым усё наваколле. Светла-блакітны, амаль белы плашч Марыі шырока раскінуты ў хвалях ламаных гатычных складак. Фігурная група ярка выдзяляецца на цьмяным фоне. Кампазіцыйна яе падтрымлівае рытм вертыкальных элементаў: дрэваў на першым і другім плане, а таксама кур'ёзны фрагмент руіны справа: абколаная база з шарам наверсе (мастак дэманструе тут сваё захапленне архітэктурным рысункам).

На першы погляд, бяда Святой Сям'і не кранула душы людзей, якія заняты сваімі штодзённымі справамі. Сяляне барануюць і засяваюць раллю, пачынаюць жніво. Рэнесансавы мастак уводзіць гэтыя сцэны ў панарамны краявід з упэўненасцю ўважлівага назіральніка жыцця. Сярод фігурак сялянаў мы бачым хлопчыка-падлетка. Сялянам няма чаго баяцца. Яны ўпэўнены, што злачынны загад Ірада забіваць усіх немаўлятак іх не тычыцца. Ва ўсе часы пакрыўджаныя і гнаныя сустракаліся з раўнадушнасцю і неразуменнем. І ўсё ж мастак пакідае надзею на чалавечнасць і спагаду. Злева ад цэнтра карціны на другім плане мы бачым фігуру св. Юзафа. Стомлена нахіліўшыся, ён падымаецца па адхону на пагорак, абярэжна трымаючы ў руках посуд з ежаю для Сям'і. Ён сустрэў добрых людзей, якія паспачувалі ўцекачам і падтрымалі іх.

У трактоўцы краявіду Ёахім Пацінір ішоў слядамі сваіх вялікіх сучаснікаў Гераніма Босха і Герарда Давіда. Паўночныя мастакі адкрывалі прыгажосць і шматаблічнасць навакольнага свету з захапленнем Хрыстафора Калумба, таксама іх сучасніка. Але кожны з іх рабіў гэта па-свойму, шукаючы свой шлях да таямніцаў Натуры. Панарамныя краявіды Пацініра спалучаюць у сабе макракосм неабсяжнага свету і мікракосм, які адлюстраваны ў шэрагу ўважліва перададзеных фрагментаў. Мастак з любоўю вымалёўваў кожную травінку і кветачку, зямлю, што дыхае цяплынёй, і шурпатую паверхню каменняў, на якой святло гуляе з ценем. Лістота дрэваў намалявана з разуменнем прыроднай з'явы. Ва ўсім заяўляе пра сябе рэалістычны мастацкі метад.

Ёахім Пацінір маляваў свае карціны танюсенькімі пэндзлямі. Іх фарбавы слой далікатны і насычаны. Тонкія пералівы адценняў сведчаць пра майстэрства выдатнага каларыста. З якой лёгкасцю намаляваны воблакі і халодны блакіт неба!

Блакітныя нябёсы адгукаюцца ў постацях Мадонны з Хрыстом. Чалавечны вобраз Маці Божай з Сынам — цэнтр сусвету, адлюстраванага ў творы нідэрландскага мастака.

*Валеры Буйвал*

[1] Robert Genaille. Dictionnaire des peintres flamands et hollandaise. Paris, 1967. P. 159.
[2] V. Denis. La peinture flamande. XV – XVI – XVII siecles. Bruxelles, 1976. P. 165.

**Валеры Буйвал** – мастацтвазнаўца, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. Закончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1977). Даследуе беларускае і заходнееўрапейскае мастацтва. Пераклаў на беларускую мову асобныя творы М. дэ Сервантэса, Г. Г. Маркеса, Ж. Амаду, Б. Б'ёрнсана, А. Стрындбэрга, Дж. Вэргі, К. Чапэка і інш.



20 кастрычніка споўнілася 20 гадоў біскупскага пасвячэння Мітрапаліта Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Біскупскую сакру, якая адбылася 20 кастрычніка 1989 г. у базыліцы св. Пятра ў Рыме, узначальваў Папа Ян Павел ІІ. Яго Эксцэленцыя стаў першым за ўвесь пасляваенны час Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для католікаў Беларусі. Падчас свайго біскупскага служэння на радзіме біскуп Тадэвуш Кандрусевіч заснаваў Гродзенскую вышэйшую духоўную семінарыю, спрыяў вяртанню і адкрыццю каля 100 раней зачыненых касцёлаў, а таксама спрычыніўся да выдання «Парадку Імшы» і «Катэхізісу» на беларускай мове, распачаўшы такім чынам справу адраджэння Касцёла ў Беларусі.

13 красавіка 1991 г. Тадэвуш Кандрусевіч быў менаваны арцыбіскупам і прызначаны Апостальскім Адміністратарам для католікаў лацінскага абраду Еўрапейскай часткі Расіі...

Калі 11 лютага 2002 г. Ян Павел ІІ надаў Апостальскім Адміністратурам для католікаў лацінскага абраду ў Расіі статус дыяцэзій, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч быў прызначаны Мітрапалітам архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве. Дзякуючы яго намаганням у Расіі распачала працу дабрачынная арганізацыя «Caritas», былі створаны інфармацыйна-выдавецкі цэнтр «Истина и жизнь», салезіянскі і францішканскі выдавецкія цэнтры, а таксама Духоўная бібліятэка (выдадзена больш за 600 найменняў тэалагічнай, рэлігійнай, філасофскай і літургічнай літаратуры). Пры ўдзеле арцыбіскупа Кандрусевіча заснаваны штотыднёвая каталіцкая газета «Свет Евангелия», Літургічная камісія, якая рыхтуе пераклады літургічных тэкстаў на рускую мову, Катэхетычная камісія і Камісія па справах сям'і.

У 1991 г. у Маскве быў заснаваны Каледж каталіцкай тэалогіі імя св. Тамаша Аквінскага, тры філіялы якога дзейнічаюць у іншых гарадах (выдаецца часопіс «Puncta...», раней — «Theologia»); у Санкт-Пецярбургу ў 1993 г. была адкрыта Вышэйшая духоўная семінарыя «Марыя — Каралева Апосталаў» і заснавана «Радыё Марыя».

У лютым 1999 г. арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч быў выбраны Старшынёю новастворанай Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Расійскай Федэрацыі.

Ён уваходзіць у спецыяльную Раду па справах Еўропы пры Генеральным сакратарыяце Сінода Біскупаў, у Кангрэгацыю па справах духавенства, а таксама ў Папскую раду «Справядлівасць і Мір», з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам Еўразійскага аддзялення Міжнароднай асацыяцыі рэлігійнай свабоды (МАРС).

21 верасня 2007 г. Святы Айцец Бэнэдыкт XVI менаваў Тадэвуша Кандрусевіча арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім.

Вяртанне Яго Эксцэленцыі на радзіму з радасцю сустрэлі не толькі вернікі Каталіцкага Касцёла, але й многія прадстаўнікі іншых веравызнанняў, асабліва ў асяроддзі творчай і навуковай інтэлігенцыі, тыя, каму неабыякавы лёс духоўнага і рэлігійнага адраджэння ў нашым краі.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч заўсёды адкрыты для кантактаў з журналістамі, а мы, у сваю чаргу, стараемся не прапускаць нагоды паразмаўляць з надзвычай цікавым і мудрым чалавекам, нашым пастырам. На гэты раз размова з Яго Эксцэленцыяй адбывалася ў сувязі з 20-годдзем біскупскай сакры.

# Вялікае шчасце — служыць людзям

*— Ваша Эксцэленцыя, неўзабаве споўніцца 20 гадоў з таго часу, як Вы атрымалі паўнату святарства — сталі біскупам*. Згадайце, калі ласка, той асаблівы момант у Вашым жыцці. Як ён Вам памятаецца сёння, з дыстанцыі гэтых пражытых двух дзесяцігоддзяў?*

— Мяне вельмі моцна кранула сама кансэкрацыя ў базыліцы святога Пятра ў Рыме, якую здзейсніў Слуга Божы Ян Павел ІІ. Пасля літургіі ён падышоў да мяне, моцна ўзяў за рукі, сціснуў і сказаў: «Тадэвуш, не бойся, я малюся за цябе». Я заўсёды памятаю гэтыя словы, і калі мне вельмі цяжка, калі здаецца, што ўсё валіцца з рук, я ведаю, што ён сапраўды моліцца і выпрошвае ў Бога патрэбныя ласкі. А ўвогуле такіх момантаў было шмат, бо быць першым біскупам пасля двух пакаленняў людзей, а на ўсходніх тэрыторыях Беларусі і потым падчас працы ў Расіі пасля трох пакаленняў — азначае адраджаць Касцёл і вырашаць далёка не штодзённыя праблемы.

Вядома, што Божая Маці ў Фаціме прадказала навяртанне людзей да Бога на нашых землях. Калі ў размове з Янам Паўлам ІІ я гаварыў пра цяжкасці, ён заўсёды адказваў: памятай пра Фацімскую вестку.

І яшчэ адно. Апошні раз я бачыў Яна Паўла ІІ жывым і размаўляў з ім роўна за месяц да яго пахавання — 8 сакавіка 2005 года. Тады ў клініцы Джэмэллі ён сустрэў мяне пытаннем: «Што чуваць у Маскве?» Я ўпэўнены, што калі б працаваў у Беларусі, то ён бы спытаў: «Што чуваць у Мінску?» Гэта для мяне вельмі значны прыклад таго, як Пастыр Сусветнага Касцёла, нават будучы смяротна хворым, клапаціўся пра Касцёл.

*— «Шукаю крыніцы майго пакліканння» — так напісаў Папа Ян Павел ІІ на пачатку сваёй кнігі «Устаньце, хадзем!» Адкуль выплывае крыніца Вашага паклікання, Эксцэленцыя, дзе і ў чым яна бярэ пачатак?*

— Кліча Бог. Аднак трэба пачуць гэты голас. Таму не памылюся, калі скажу, што найперш мне дапамаглі яго пачуць мае бацькі. Ведаю, што бацька маліўся і не аднойчы мяне пытаўся, ці я не адчуваю паклікання да святарства. Але найбольшае ўражанне зрабіла мама. Аднойчы, калі працаваў у Вільні інжынерам, я прыехаў у Гродна. Была нядзеля. Узяў малітоўнік, думаючы, што гэта быў мой, бо ўсе яны выглядалі аднолькава. У касцёле, аднак, заўважыў, што гэта быў не мой, а мамін. У ім я знайшоў абразок з малітваю маці аб святарскім пакліканні для сына. Я зразумеў, што мама, якая не сказала мне пра гэта ніводнага слова, малілася ў гэтай інтэнцыі.

Дапамаглі таксама і сябры. Пробашч францішканскай парафіі ў Гродне айцец Аркадзь Вальтась часта хварэў і не мог цэлебраваць св. Імшу. Аднойчы, калі я прыехаў з Вільні, адзін з маіх сяброў са слязьмі на вачах усклікнуў: «Ратуй нас, ты жывеш у Літве, там жа ёсць семінарыя!» Я пачаў больш думаць пра гэта тады, калі колькасць святароў на Беларусі катастрафічна змяншалася. Доўга маліўся і падчас адпусту ў свята Маці Божай Вастрабрамскай прыняў рашэнне ісці ў семінарыю, давяраючы ўсе справы Марыі, — Маці святароў.

*— Другі Ватыканскі Сабор вучыць, што «праз ускладанне рук і словы пасвячэння ўдзяляецца ласка Духа Святога і адбіваецца святая пячаць, таму біскупы асаблівым і бачным чынам прымаюць ролю самога Хрыста, Настаўніка, Пастыра і Святара, і дзейнічаюць у Яго асобе (in Eius persona)». Што з гэтай трайной функцыі біскупа — навучаць, кіраваць і асвячаць — найбольш блізкае Вашаму сэрцу?*

— Адчуваючы сваю чалавечую слабасць і нявартасць, стараюся ўсе гэтыя функцыі выконваць як мага лепш. Аднак мне найбольш падабаецца навучаць. Я калісьці хацеў быць настаўнікам. Вучыўся нават у Гродзенскім педагагічным інстытуце на фізіка-матэматычным факультэце, але ў сувязі з нападамі за тое, што быў веруючым і хадзіў у касцёл, я сам

* *Размова з Мітрапалітам Тадэвушам Кандрусевічам адбылася напярэдадні юбілею біскупскай сакры.*

пакінуў інстытут і паступіў у Ленінградскі політэхнічны інстытут і такім чынам стаў інжынерам. Аднак мяне вабіла кар'ера настаўніка, выкладчыка ...

*— У Дагматычнай канстытуцыі Lumen Gentium запісана, што «сярод галоўных біскупскіх абавязкаў асабліваe месца займае абвяшчэнне Евангелля». У сваёй кнізе «Адплыві на глыбіню» Вы слушна зазначаеце, што «сёння з'яўляюцца ўсё новыя і новыя „арыяпагі", дзе сучаснаю і зразумелаю моваю трэба абвяшчаць Евангелле гэтак, як рабіў святы апостал Павел у Афінах». Якія найбольш значныя «арыяпагі» для прапаведавання Добрай Навіны Вы бачыце сёння ў беларускай рэчаіснасці?*

— Акрамя традыцыйнага абвяшчэння Евангелля праз катэхізацыю і гамілію трэба больш выкарыстоўваць сродкі масавай камунікацыі. Сучасны чалавек, асабліва малады, выхаваны на тэлебачанні, радыё, Інтэрнэце. Гэта яшчэ вельмі слаба выкарыстаны «арыяпаг». Мы зазвычай кажам, што ў касцёлах многа людзей, але фактычна — гэта толькі малая кропля ахопленых евангелізацыяй. Сучасныя сродкі масавай камунікацыі дапамогуць несці свет Евангелля непараўнальна большай колькасці людзей. Таму не пабаюся сказаць, што на сучасным этапе евангелізацыі, асабліва на фоне выклікаў сучаснага секулярызаванага свету, немагчыма эфектыўная евангелізацыя без сродкаў масавай камунікацыі.

Да «арыяпагаў» нашай беларускай рэчаіснасці трэба аднесці таксама і выданне рэлігійнай літаратуры. Наша грамадства пасля доўгай зімы атэізацыі сёння патрабуе літаратуры, у якой можа знайсці адказы на хвалюючыя яго пытанні, асабліва для моладзі. Таму моладзь таксама з'яўляецца яшчэ адным, вельмі значным «арыяпагам». Ад таго, як яна будзе выхаваная і сфармаваная, залежыць будучыня і Касцёла, і грамадства. Трэба таксама евангелізаваць сем'і, каб яны сапраўды былі моцныя Богам, былі хатнімі Касцёламі. Бацькі павінны клапаціцца пра рэлігійнае выхаванне сваіх дзяцей і моладзі і дапамагаць у гэтай справе Касцёлу. Новымі «арыяпагамі» павінны таксама стаць шпіталі, месцы нясення вайсковай службы і вязніцы. Трэба ісці да кожнага чалавека, бо кожны чалавек збаўлены Езусам Хрыстом і кожны прызначаны для вечнага шчасця.

*— Ваша Эксцэленцыя, Вы часта гаворыце ў сваіх казаннях пра небяспеку маральнага рэлятывізму, пра тое, што ў сучасным свеце «існуе рызыка дэхрысціянізацыі грамадства і распаўсюджвання неапаганства». Як жа сённяшняму чалавеку ўхіліцца ад гэтай небяспекі, як грамадству ў цэлым пазбегнуць такой пасткі?*

— Пытанне вельмі актуальнае, і ад таго, як яно будзе вырашана, залежыць маральнае становішча грамадства. Сёння многія спрабуюць даць ад гэтай небяспекі розныя рэцэпты. Гэта добра. Аднак усе мы людзі і можам памыляцца. Можам падрыхтаваць добрыя пастырскія праграмы, але яны не заўсёды даюць жаданыя вынікі. Чаму? Бо людзі не хочуць жыць паводле навучання Касцёла. Найлепшая праграма быць шчаслівым — гэта жыць паводле Божых запаведзяў. Іх прыдумаў не чалавек, але даў сам Бог. Аднак ці слухаецца чалавек? І ў гэтым знаходзіцца корань праблемы. Тут таксама трэба памятаць, што без Божай ласкі мы не зможам вырашыць гэтыя заданні, таму трэба найперш даверыцца Богу і бязмежнай Божай міласэрнасці. Вельмі добра сказаў Папа Ян Павел II у Апостальскім пасланні на новае тысячагоддзе пра тое, што ўсё трэба распачынаць ад Хрыста. Ён павінен быць нашай галоўнай праграмай у вырашэнні пастаўленай праблемы.

*— Сёння можна пачуць, асабліва ў асяроддзі творчай інтэлігенцыі, што для веры ў Бога не патрэбны Касцёл або Царква, што для кантакту з Творцам не абавязковыя пасрэднікі, то бок, святары, маўляў, найлепш звяртацца да Бога напрамую. Што Вы як пастыр сказалі б такім «самадастатковым» людзям?*

— Сапраўды, адною з сучасных праблемаў з'яўляецца праблема, якую можна акрэсліць наступным чынам: Бог — так, а Касцёл — не. Дзякуючы таямніцы Богаўцелаўлення Бог з'явіўся перад чалавекам з чалавечым сэрцам і тварам. З Езусам Хрыстом можна было кантактавацца напрамую, размаўляць з Ім, задаваць пытанні, бачыць Яго цуды, малітву і гэтак далей. Пасля выканання дадзенай Яму Ягоным Нябесным Айцом місіі Ён вярнуўся да дому Айца, аднак не пакінуў нас адных, а ўстанавіў Касцёл, які па сваёй сутнасці жыве ў часе і ў прасторы з Езусам. Менавіта ў Касцёле жыве і праз святароў дзейнічае Езус Хрыстус. Менавіта святарам Езус даў уладу дзейнічаць Ягонаю моцаю і ад Яго Імя. Таму няма іншага шляху да збаўлення як толькі шлях праз Касцёл. Нездарма існуе лацінскае выслоўе: *Sine Ecclesia nulla salus — Без Касцёла няма збаўлення*. У сучаснай эканоміі збаўлення Касцёл — гэта адзіны шлях да збаўлення. Зразумела, што калі нехта не мае магчымасці карыстацца паслугамі Касцёла ці не атрымаў дару хрысціянскай веры, бо не было такой магчымасці, але жыве паводле ўпісанага ў сэрца кожнага чала-

века натуральнага права, ён таксама будзе збаўлены.

*— Ubi episcopus — ibi Ecclesia (Дзе біскуп — там Касцёл), — сказаў святы Ігнацы з Антыёхіі, а Слуга Божы Ян Павел II падкрэсліваў, што «біскуп — гэта знак прысутнасці Хрыста ў свеце». Не сакрэт, што ад асобы біскупа, ад стылю яго служэння, нават ад яго характару і ад многіх чалавечых якасцяў залежыць вобраз партыкулярнага Касцёла і аблічча даверанай яму дыяцэзіі. Якімі якасцямі, на Вашу думку, найперш павінен валодаць кіраўнік Касцёла, каб адпавядаць вобразу Добрага Пастыра?*

— У Год святарства Папа Бэнэдыкт XVI як прыклад назваў святога Яна Віянэя. Гэта ўзор як для святароў, так і для біскупаў, каб сапраўды быць Добрым Пастырам. Трэба абсалютна цалкам прысвяціць сябе служэнню партыкулярнаму Касцёлу або дыяцэзіі, на якую прызначаны біскуп. Біскупскі пярсцёнак — гэта знак непадзельнай лучнасці з дыяцэзіяй. А яшчэ трэба быць айцом для ўсіх: для святароў, кансэкраваных асобаў, вернікаў, для бедных і маргіналаў, для ўсіх без выключэння. Трэба абвяшчаць евангельскі радыкалізм, не карыстаючыся моднай сёння паліткарэктнасцю, бо Хрыстус заклікае гаварыць: так — так, або не — не. Вельмі важнаю справаю з'яўляецца паслядоўнасць пры назначэнні на канкрэтныя касцёльныя пасады і адміністрацыі дыяцэзіі паводле нормаў Кананічнага права з улікам асаблівасцяў і прыдатнасці святароў, кансэкраваных асобаў ці свецкіх вернікаў. Трэба таксама весці просты, даступны ўсім стыль жыцця.

*— «Несумненна, біскупства — гэта пасада, але біскупу трэба з усяе сілы змагацца, каб не „абюракраціцца“», — напісаў Вялікі Папа Ян Павел II, разважаючы пра айцоўства біскупа. Ці ёсць у Вас патрэба такога змагання?*



— Калі займаеш пасаду біскупа ці, як у маім выпадку, пасаду Мітрапаліта, напэўна, можаш сутыкнуцца са спакусаю бюракратызацыі. Аднак, дзякуй Богу, Касцёл у Беларусі бедны, таму вельмі многа працы, якую ў вялікіх курыях выконваюць розныя сакратары ці памочнікі, а нам трэба выконваць яе самім. Гэта аберагае ад спакусы бюракратызацыі, аднак заўсёды трэба быць пільным. Апрача таго, я абсалютны праціўнік бюракратычнага стылю працы. Стараюся прымаць усіх і з усімі размаўляць. Дзверы курыі адчыненыя для ўсіх.

*— Вядома, што біскуп працуе ў лучнасці з іншымі біскупамі і Апостальскаю Сталіцаю. Як адзначае Другі Ватыканскі Сабор, «на калегіяльны характар і сутнасць епіскапату ўказвае вельмі старажытны прынцып, згодна з якім біскупы ўстаноўленыя ва ўсім свеце, аб'ядноўваюцца паміж сабою і Рымскім Біскупам повяззю еднасці, любові і спакою». Як вядома, асабліваю праяваю калегіяльнасці біскупаў з'яўляюцца візіты Ad limina apostolorum. Вы, Ваша Эксцэленцыя, акурат рыхтуецеся да такога візіту. Чаго найперш ад яго чакаеце?*

— Маючы на ўвазе сучасны стыль працы, немагчыма сабе ўявіць працу біскупа без супрацоўніцтва з іншымі біскупамі, найперш у рамках нацыянальнай Канферэнцыі біскупаў, а потым з усімі біскупамі, бо кожны з іх адказны не толькі за сваю дыяцэзію, але і за Паўсюдны Касцёл. Каталіцкі епіскапат Беларусі чакае вельмі важны візіт *Ad limina*. Гэта будзе першы візіт такога ўзроўню пры сучасным Пантыфіку Бэнэдыкту XVI. Мне давялося шмат разоў сустракацца з кардыналам Ёзафам Ратцынгерам, асабліва на Сінодах Біскупаў, падчас працы перад і пасінадальнай камісіі II Еўрапейскага Сіноду Біскупаў. Сустракаўся я з ім таксама як з Папам Бэнэдыктам XVI, аднак гэтая сустрэча будзе асаблівая. Мы чакаем ацэнкі нашай дзейнасці, айцоўскага павучэння і падтрымкі ў нашай працы.

*— Ваша Эксцэленцыя, яшчэ ў 2005 годзе ў рэфераце «Талерантнасць і дыялог» Вы заўважылі, што выклікі нашага часу патрабуюць новага падыходу да развіцця міжрэлігійнага і міжканфесійнага дыялогу. У чым Вам найперш бачыцца гэты «новы падыход» і якія надзеі Вы ўскладаеце на візіт Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла для пашырэння і развіцця адносінаў з Праваслаўнаю Царквою?*

— Ужо прайшоў час раскідаць камяні. Іх трэба збіраць. Выклікі часу такія сур'ёзныя, што трэба забыць старыя крыўды і шукаць еднасці, каб супольна адказваць на іх, бо інакш цягнік жыцця адыдзе, а мы застанемся на платформе, сузіраючы агеньчыкі адыходзячага цягніка, у якім засталіся людзі са сваімі праблемамі і без духоўнай апекі. Трэба настойліва знаходзіць тое, што нас аб'ядноўвае, а не дзеліць, бо яно можа стаць тым мостам, які нас зблізіць. Трэба памятаць пра тое, што ніхто з нас не мае манаполіі на праўду, бо яна ёсць толькі ў Бога. У нас нямала супольных падыходаў да вырашэння сучасных праблемаў, а сацыяльныя дактрыны Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы і падыход да вырашэння найбольш хвалюючых і вострых пытанняў, у тым ліку этычных, вельмі блізкія.

Адносіны паміж Каталіцкім Касцёлам і Праваслаўнаю Царквою ў Беларусі развіваюцца ў добрым кірунку. Мы цесна супрацоўнічаем у вырашэнні многіх сацыяльных пытанняў, разам прымаем удзел у набажэнствах і канферэнцыях, і гэтым самым мы даём супольнае хрысціянскае сведчанне веры.

Візіт новага Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла мае вельмі важнае значэнне не толькі для Праваслаўнай Царквы, але і для ўсяго грамадства. У Беларусь прыязджае энергічны, вельмі ітэлігентны і дасведчаны праваслаўны лідэр, вялікі аўтарытэт, які вызначаецца здольнасцямі цудоўнага прамоўцы. Мне давялося шмат працаваць разам з ім яшчэ як з Мітрапалітам Смаленскім і Калінінградскім і Старшынёю Аддзела знешніх царкоўных сувязяў, найперш у якасці сустаршыні Хрысціянскага міжканфесійнага кансультатыўнага камітэта. Было ў нас таксама шмат асабістых сустрэчаў. Магу сведчыць пра тое, што ён вельмі перажывае за маральнае становішча сучаснага свету і шукае ўсе магчымыя шляхі дапамогі сучаснаму чалавеку ў абставінах наступаў секулярызацыі, каб захаваць сваю хрысціянскую ідэнтычнасць і на маральных прынцыпах будаваць будучыню.

*— Што Вас найбольш хвалюе сёння як архіпастыра Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі?*

— Сярод многіх праблемаў найбольш хвалюе недахоп касцёлаў, святароў і кансэкраваных асобаў, малая колькасць пакліканняў да святарства і манаскага жыцця, яшчэ недастатковая касцёльная свядомасць вернікаў (так званы «*sensus Ecclesiae*»), крызіс сям'і, амаральнае жыццё часткі моладзі...

*— Кожны юбілей — гэта своеасаблівае падсумаванне пройдзенага шляху. Як Вы ацэньваеце два дзесяцігоддзі свайго пастырскага служэння, за што найперш дзякуеце Богу?*

— Ацэнку няхай дасць Бог і вернікі, якім я служыў і служу, а таксама людзі, з якімі працаваў і сустракаўся, – веруючыя і няверуючыя, простыя людзі і дзяржаўныя кіраўнікі. Я стараюся служыць Касцёлу і людзям паводле свайго сумлення, сваіх ведаў і здольнасцяў. Калі што было не так, то прашу прабачэння. Дзякую Богу і за пакліканне да святарства, і за біскупскае служэнне. Дзякую за тое, што ў многіх выпадках мне давялося быць першапраходцам пасля дзесяцігоддзяў атэізацыі, што Божы Провід скіраваў мяне да працы ў Беларусі і ў Расіі, што я мог несці Евангелле тым, хто яго чакаў шмат гадоў. Паверце, гэта было самае вялікае шчасце — служыць людзям, якім здавалася, што яны ўжо ніколі не пачуюць касцёльных званоў і голасу Евангелля, не выспавядаюцца, не прымуць святой Камуніі, не ўбачаць дзетак у касцёле ...

*— А якія Вашы бліжэйшыя планы, Эксцэленцыя, якія надзеі і спадзяванні?*

— Разам з вернікамі падзякаваць Богу за 20-годдзе біскупскага служэння. Вельмі працоўным будзе лістапад: адбудзецца катэхетычная канферэнцыя, канферэнцыя ў Ватыкане, прысвечаная СМІ, магчыма, таксама і экуменічная канферэнцыя ў Грэцыі. А потым — візіт *Ad limina apostolorum*. Далей — Божае Нараджэнне і аплаткавыя сустрэчы з вернікамі. Так, калі дазволіць Бог, то ўвойдзем разам у новы 2010 год. Спадзяюся, што хутка будзе выдадзена такая патрэбная нам Літургічная агенда і кампендыум катэхізіса.

*— Вялікі дзякуй за размову, Ваша Эксцэленцыя, і няхай добры Бог шчодра адорвае Вас патрэбнымі ласкамі на новыя дзесяцігоддзі плённай пастырскай працы.*

*Размаўляла Крыстына Лялько.*

*Верасень, 2009 г.*



# ШУКАЦЬ ЗГУБЛЕНЫХ АВЕЧАК

Мінула дзесяць гадоў, як на рэлігійнай мапе нашай краіны з'явілася яшчэ адна каталіцкая дыяцэзія — Віцебская. Папа Ян Павел II спецыяльнаю булаю абвясціў аб яе стварэнні акурат напрыканцы мінулага стагоддзя, 13 кастрычніка 1999 года. Сёння, з адлегласці часу, вельмі добра бачна, наколькі яна была неабходная ў варунках знішчанага дзесяцігоддзямі атэізму духоўнага жыцця. Пра тое, наколькі апраўдала тая дзесяцігадовае даўніны ініцыятыва стварэння дыяцэзіі надзею на вяртанне каталіцкай супольнасці Віцебшчыны да жыццядзейнага, трывалага стану, наша інтэрв'ю з ардынарыем дыяцэзіі біскупам Уладзіславам Блінам.

*— Ваша Эксцэленцыя, 10-годдзе дыяцэзіі, якой Вы ад самага пачатку апякуецеся, супала з Годам святарства. Ці не бачыцца Вам у гэтым Боскі знак?*

— Усё ў гэтым свеце звязана адно з адным. Бог жадаў, каб былі на Віцебшчыне дыяцэзія, біскуп, святары, і так сталася. А людзі атрымалі праз гэты Божы Провід ласку поўнай рэалізацыі сваёй веры. Праз слова святароў, вядома, найперш. Каб паверыць і ўмацавацца ў веры, спачатку трэба *пачуць* Божае слова. А з чыіх вуснаў яго пачуць, як не з вуснаў святара? Вось і атрымліваецца, што калі не знак ёсць у такім супадзенні, дык лагічная сувязь — дакладна.

*— 10 гадоў — не такі ўжо вялікі, але ж не такі і малы прамежак часу. Што ўдалося зрабіць за яго?*

— Галоўнае, на мой погляд, — умацаваць перакананне людзей у іх *праве* на веру. Узгадаем, як было на самым пачатку. Католікаў шмат, людзі хочуць маліцца, а маліцца няма дзе. Касцёлы, асабліва ва ўсходніх раёнах вобласці, стаялі паўразбураныя, а то і дарэшты знішчаныя, а ксяндзоў можна было палічыць па пальцах адной рукі. Адкрылі дэкрэтам адну парафію, другую, і вось ужо ў кожнага ёсць сваё законнае месца, свой куток для малітвы. Дзесяць гадоў мінула, і паспрабуйце цяпер тыя месцы ў каго-небудзь адабраць. Упэўнены: не аддадуць. Хіба гэта не дасягненне? Другое важнае наша дасягненне — у рэгіёне цяпер няма раёна, дзе не было б свайго душпастыра. Вядома, праблем хапае, але ж сёння на Віцебшчыне сапраўды дастаткова святароў і законных сёстраў, каб дапамагчы кожнаму, хто жадае адшукаць шлях да Бога, у ягоным памкненні. А што можа быць для святара важней, чым адшукваць згубленых авечак?

*— Усё гэта, бясспрэчна, патрабуе значных высілкаў ад Вас як ад біскупа. Ці не так?*

— У дзяцінстве я не марыў быць біскупам. Я марыў стаць сакрыстыянам, шмат маліўся і быў шчаслівы. Думаў: Бог і я — якое для чалавека можа быць большае шчасце? Аднак святарства патрабуе пастаяннага ўдзелу ў мірскіх справах, бо святар служыць не толькі Богу, але і людзям. Я падымаюся ў 5 гадзін раніцы, малюся, і потым пачынаецца мой працоўны дзень. Бясконца ідуць у курыю людзі з нейкімі пытаннямі або тэлефануюць, аб нечым просяць, спадзяюцца на параду, дапамогу. І кожнаму з іх біскуп павінен удзяліць увагу — не будзеш жа спасылацца на тое, што ў гэтую хвіліну табе тэлефануюць адразу на тры нумары, а ў біскупа, як і ў кожнага чалавека, толькі два вухі.

*— Напэўна, асабліва тлумна падчас святаў, урачыстасцяў...*

— Так, бо ўсё трэба абдумаць, падрыхтаваць. Добра, калі ёсць (а яны, дзякуй Богу, ёсць) разумныя, шчырыя памочнікі, дарадцы. Вы ж бачылі, колькі народу было ў Браславе на ўрачыстасці каранацыі Абраза Маці Божай Валадаркі Азёраў. Але ж гэта не само яно ўсё так прыгожа і складна зрабілася. За гэтым — вялікая праца многіх людзей, у тым ліку, прабачце за нясціпласць, і біскупа. Прыняць 20 тысяч чалавек — гэта вельмі няпроста і нялёгка. Ды і падчас кожнай урачыстасці клопатаў хапае. Як ты пройдзеш каля чалавека, не ўдзяліўшы яму ўвагі, не павітаўшыся з ім, не загаварыўшы? Такія паводзіны — ужо стыль твайго святарскага жыцця...

*— Тым больш, што такі*



*стыль жыцця, напэўна, і ёсць найлепшым спосабам абвяшчэння Евангелля?*

— А пра гэта наўпрост кажа папа Бэнэдыкт XVI у сваіх развагах у кнізе «Думкі аб святарстве». Ты жывеш Хрыстом, людзі глядзяць на цябе і міжволі пачынаюць задумвацца: «Чаму ён такі? Што ён хоча сказаць сваімі паводзінамі?» Але такія думкі якраз і з'яўляюцца для многіх пачаткам прыходу да веры, да Бога.

*— Як выглядае сёння Віцебская дыяцэзія? Касцёл — гэта, вядома ж, не толькі біскуп, святары, сёстры законныя, але і асобы свецкія...*

— Найперш наша дыяцэзія гэта — жывы Касцёл. Гэта асабліва трэба падкрэсліць — менавіта жывы. Так шчасліва склалася, што старэйшыя вернікі, спаконвечныя носьбіты каталіцкіх каштоўнасцяў, якраз паспелі на пачатку новага стагоддзя перадаць эстафету веры сваім наступнікам. Гэта быў унікальны гістарычны шанц для адраджэння Касцёла, і мы яго паспяхова выкарысталі. На жаль, большасці з тых захавальнікаў традыцыі сёння ўжо няма ў жывых, а Касцёл працягвае жыць дзякуючы іх ахвярнасці і адданасці Богу. Наогул тут, на гэтых землях, многія людзі прынялі пакуты за веру, а то і аддалі за яе жыццё. Дык і не дзіўна, што Касцёл тут сапраўды жывы.

Святарам, якія працуюць на Віцебшчыне, вельмі пашанцавала: у нас многа актыўных, ініцыятыўных вернікаў. Яны і Дні хрысціянскай культуры ды розныя конкурсы і святы для дзяцей і моладзі арганізоўваюць, і канферэнцыі ладзяць, і святынямі апякуюцца, і шмат чаго іншага робяць, без чаго касцёльнае жыццё не магло б быць такім багатым і разнастайным. Зразумела, шмат у наладжванні добрай працы ў парафіі залежыць ад ксяндза і законных сёстраў, але ж і пра заслугі вернікаў не трэба забывацца. Задамо сабе пытанне: ці лёгка арганізаваць хор пры касцёле? Колькі сіл і энергіі тое «лёгка» патрабуе! А ў нас жа выдатныя харавыя калектывы, і іх нямала. Адны толькі хоры чаго вартыя! Мне наогул здаецца, што ў нашай дыяцэзіі актыўныя парафіяне — адно з найбольш моцных звёнаў, і я вельмі рады гэтаму.

*— Якія найбольш значныя культурна-рэлігійныя мерапрыемствы з актыўным удзелам свецкіх вернікаў дыяцэзіі Вы маглі б назваць?*

— Іх шмат. Напрыклад, згаданыя Дні хрысціянскай культуры. Мерапрыемствы, што ладзяцца ў іх межах, даўно перасягнулі абшары дыяцэзіі і зрабіліся міжрэгіянальнымі, а часам і міжнароднымі. Мастацкія выставы, канферэнцыі, чытанні, выступленні спеўных калектываў — за ўсім гэтым стаіць вялікая праца энтузіястаў, можна сказаць, падзвіжнікаў, бо апроч касцёльных абавязкаў у кожнага з іх нямала іншых абавязкаў — грамадскіх, працоўных, сямейных. Фестываль хрысціянскіх фільмаў у Глыбокім, конкурс батлеек пры Віцебскім дзяржуніверсітэце, конкурс спеўных калектываў «Зорка Бэтлеема» ў Мёрах, Міжнародная медыцынская канферэнцыя «Праблемы ўрачэбнай этыкі ў сучасным свеце», рэгулярныя сустрэчы маладых талентаў пры курыі і ў парафіях — вось далёка не поўны пералік таго, што робіцца сёння ў дыяцэзіі. І робіцца не дзеля адзнакі, а таму, што гэта ўжо традыцыя, патрэба душы для многіх людзей.

*— Ці задаволеныя Вы супрацоўніцтвам дыяцэзіі са сродкамі масавай інфармацыі?*

— Сучасны чалавек не можа не разумець ролю сродкаў масавай інфармацыі ці ігнараваць іх. Таму мы надаем належную ўвагу супрацоўніцтву з прадстаўнікамі СМІ, у прыватнасці — праз рэгулярныя прэс-канферэнцыі, якія праводзім у курыі некалькі разоў на год, у тым ліку (і гэта таксама традыцыя) — напярэдадні святаў Нараджэння Хрыстова і Вялікадня. Мы падрабязна інфармуем журналістаў пра тое, што збіраемся рабіць у бліжэйшы час, перадаем праз іх святочныя віншаванні людзям, робім свае аб'явы. І гэта плённае супрацоўніцтва. Вось маем, напрыклад, тэлеперадачу «Шлях да Бога», дзе асвятляюцца найбольш значныя і цікавыя падзеі з жыцця дыяцэзіі, асобных парафій, дзе гучаць інтэрв'ю з тымі, хто вырашыў прысвяціць сябе Богу, падаюцца рэпартажы з пілігрымак і шмат

іншага. Добрыя стасункі ў нас з друкаванымі выданнямі, напрыклад, з часопісамі «Наша вера», «Ave Maria», з часопісам «Дыялог». Матэрыялы пра Віцебскую дыяцэзію гучаць і на Радыё Ватыкана, і на многіх іншых радыёстанцыях. Я ўдзячны ўсім журналістам, якія праяўляюць цікавасць да нашых справаў, і спадзяюся на працяг гэтага сяброўства.

*— Напэўна, у нейкай ступені Касцёл можна параўнаць са школай, але Касцёл, вера — справа добраахвотная, а школа — абавязковая. Цікава, як у дыяцэзіі рэалізуецца надзённы ў школе прынцып індывідуальнага падыходу да чалавека?*

— Як немагчыма аддзяліць Касцёл ад жыцця, так немагчыма аддзяліць яго і ад канкрэтнага чалавека, яго штодзённых патрэбаў. Касцёл існуе для чалавека, у гэтым яго прызначэнне. Касцёл і вера — гэта радасць. А каб адчуваць радасць, чалавек павінен адчуваць сваю запатрабаванасць. Хтосьці дасягае яе праз удзел у працы касцёльнага хору, хтосьці — праз дапамогу ксяндзу пры падрыхтоўцы да святой Імшы, хтосьці праз нейкія іншыя справы. Для кагосьці дастаткова ўдзелу ў агульных мерапрыемствах, такіх, як пілігрымка ў Росіцу або Будслаў, дастаткова, каб не адчуваць сябе самотным. Вось каторы ўжо год у Віцебску ў першую суботу пасля ўрачыстасці Цела і Крыві Хрыста праводзіцца працэсія з удзелам католікаў усёй дыяцэзіі. Людзі сустракаюцца, размаўляюць, разам славяць Бога — ці гэта не радасць для ўсіх і кожнага асобна? Індывідуальны падыход да чалавека, вядома, адзін з важных кірункаў нашай працы. Яна праводзіцца найбольш паспяхова ў тых парафіях, дзе ксяндзы і сёстры законныя і паству сваю выдатна ведаюць, і патрэбы людзей бачаць зблізку. Ёсць у нас аддзяленне «Карытас», якое займаецца арганізацыяй акцый па падтрымцы нямоглых, хворых і адзінокіх людзей, арганізацыяй адпачынку дзяцей у летніках, ладзіць акцыі па забеспячэнні патрэбаў у абутку, адзенні і гэтак далей.

*— У дыяцэзіі, як ужо казалася, узноўлена і пабудавана шмат новых святыняў. Напэўна гэта няпростая справа?*

— Узноўленыя ці нанава пабудаваныя святыні— гэта таксама сведчанне таго, што Касцёл — жывы. Але будова — сапраўды вельмі і вельмі нялёгкая справа, і ў ёй вельмі важнай з'яўляецца ініцыятыва — як вернікаў, так і святара. І часам, можа, святара нават у большай ступені, чым вернікаў. Праўда, святар можа сказаць, што ён не будаўнік, але ж ён святар! І яму трэба накіроўваць людскую ініцыятыву ў належнае рэчышча, а будаўнікі знойдуцца! Задача святара, яго заданне ад Бога — не класці самому цэглу ці камень, але быць у тым месцы, дзе патрабуецца ці распачынаецца будоўля.

*— Што Вы можаце сказаць пра пакліканні ў дыяцэзіі?*

— Зразумела, хацелася б мець больш, так бы мовіць, сваіх ксяндзоў, бо мясцовы святар і патрэбы людзей лепш можа разумець, і асаблівасці менталітэту, і шмат чаго яшчэ, што заўжды прыдасца ў працы. Мы пастаянна дбаем пра гэта. У выніку штогод некалькі нашых хлопцаў паступаюць на вучобу ў семінарыі на тэрыторыі Беларусі і едуць вучыцца за межы краіны. І канкрэтныя вынікі ёсць. Сёння ўжо большасць ксяндзоў у дыяцэзіі — беларусы па паходжанні, а не замежныя грамадзяне, як было раней. Не забываемся і пра павышэнне адукацыі тых, хто ўжо скончыў семінарыю. Адзін святар быў накіраваны на вучобу ў Папскую дыпламатычную акадэмію ў Рыме: спасцігае там сакрэты дыпламатыі; другі, скончыўшы навучанне ў Польшчы, паспяхова працуе ў сродках масавай інфармацыі. Але гэтага недастаткова. Мы пастаянна молімся аб тым, каб больш маладых людзей ступала на сцяжыну служэння Богу, аб новых пакліканнях, молімся аб іх увесь час ва ўсёй дыяцэзіі пасля святой Імшы.

*— Вернемся да таго, з чаго мы пачыналі нашу размову: 10 гадоў дыяцэзіі — можа, не такі ўжо значны, але ж юбілей. Ці задаволеныя Вы, Эксцэленцыя, тым, што зроблена за гэты час?*

— Хіба можна заўсёды быць усім задаволеным? Дасканаласць не ведае межаў: хацелася б значна большага. Найперш — каб больш мець моцы духу, якой Бог нас усіх належным чынам надзяляе, але якую мы не заўжды належным чынам разумеем і прымаем. Хочацца, каб, нягледзячы на асобныя праявы незычлівасці і зайздрасці ў людскім асяроддзі, кожны з нас меў прагу і жаданне заўсёды жыць з Хрыстом, у суладдзі з Божымі запаведзямі і ўласным сумленнем. Каб мы не капцелі, як тая лямпа з сапсаваным кнотам, а гарэлі адвагаю ў веры — на хвалу Богу і людзям. Аб гэтым малюся, гэтага жадаю ўсім католікам Віцебскай дыяцэзіі і ўсёй нашай любай Беларусі.

*Пытанні задаваў*
*Франц Сіўко.*

*Рэдакцыя часопіса «Наша вера» сардэчна віншуе біскупа Уладзіслава Бліна з 10-годдзем біскупскай сакры, а таксама святароў, сёстраў законных і ўсіх католікаў Віцебшчыны з 10-годдзем дыяцэзіі і жадае ўсім шчодрай Божай ласкі на новыя дзесяцігоддзі плённай працы дзеля далейшага развіцця і росквіту веры ў прыдзвінскім краі.*



# Спадчына Адама Станкевіча

Атлет фізічны і духоўны — так характарызавалі сучаснікі ў 30-я гады мінулага стагоддзя Адама Станкевіча — сапраўднага хрысціяніна, ксяндза, вялікага мысляра, пастыра добрага, які «на расшалелых хвалях людской заўзятасці кіраваў паверанай яму лодкай у прыстань супакою, развагі, парадку, справядлівасці, працуючы вытрывала для роднай культуры».

Прыйшоўшы ў свет 24 снежня 1891 года, Адам Станкевіч пражыў надзвычай годнае жыццё, якое завяршылася пакутніцкай смерцю 29 лістапада 1949 года — 60 гадоў таму.

Але, дзякаваць Богу, напісанае — застаецца. Адам Станкевіч — аўтар каля дзвюх тысяч кніг, брашураў, эсэ, артыкулаў і нататкаў, многія з якіх сёння даступныя люду паспалітаму ў перавыданнях.

З аддегласці сённяшняга часу мы можам ацаніць, што больш за сто гадоў таму Бог паслаў Беларусі сапраўды духоўнага атлета, спадчына якога (надзвычай афарыстычная!) знаходзіла і знаходзіць жывы водгук у хрысціянскіх сэрцах.

Прапаную ўвазе чытачоў «Нашай веры» афарызмы Адама Станкевіча, якім належыць адно з найпачэснейшых месцаў у маёй калекцыі афарызмаў.

*Зміцер Цехановіч*

# Адам Станкевіч

**З кнігі «Божае Слова» (1938 год)**

*Нічога* мы не павінны рабіць *проціў Бога і нічога без Бога.*

Свае высілкі мусім падпіраць малітвай. Вера праз малітву набірае больш сілы, красы і цвёрдасці.

Маліцца па-хрысціянску — гэта значыць зысці аж на дно сваёй душы, сваёй сведамасці, успомніць і прызнаць сваю грэшнасць, перапрасіць Бога за свае віны, тады ўзнясціся да Божай ласкі і міласці, напоўніцца Божым святлом і сілай, каб, ізноў апынуўшыся ў віры жыцця, дарыць сваіх бліжніх цяплом сардэчнасці і ўслужнай міласці.

Не дзеля таго маем думаць мы аб смерці, каб сумаваць і вянуць, але *каб жыццю прыспорыць красы і радасці*, каб набрацца сілы і зацвісці. Да гэтага вядзе дарога дабра, дарога добрага, багабойнага жыцця, дарога добрых чынаў.

Верма непарушна, што Бог з намі, што ў лодцы нашай жыццёвай, якую заліваюць варожыя хвалі зла, знаходзіцца з намі Хрыстус.

Хрысціянства ёсць вечнае ў часе і ў прасторы, яно ніколі і нідзе не замыкаецца, не агранічаецца і не вычэрпваецца.

Час — гэта тое, што хвалі рачныя, што выпушчаная страла, што віхор заўзяты. *Час бяжыць, а мы мусім лавіць яго, мусім з яго карыстаць*, мусім ткаць на ім узор добрага і прыгожага жыцця нашага, бо інакш — час праміне, а мы застанемся з пустымі рукамі або яшчэ горш — абцяжараны грахамі.

Чалавек так збудаваны, што ён вечна галодны праўды, вечна гэтай праўды шукае і ніяк знайсці яе не можа, бо поўнай праўды на гэтым відомым і агранічаным дачасным свеце няма, тут ёсць толькі частка праўды, а Праўда поўная — у жыцці духовым, у Богу.

Пакорны чалавек — праўдзівы чалавек не толькі прад сабой, але і прад людзьмі, і прад Богам. Сутнасць пакоры ў тым, што яна адчыняе вочы чалавеку, каб бачыў не толькі добрае ў сабе, але і благое, не толькі сваю сілу, але і слабасць, не толькі сваю вольнасць, але і залежнасць.

Душа людская — поле, на якім Бог сее добрае сваё зярнё. Трэба нам старанна і вытрывала працаваць дзеля ўраджайнасці нівы — душы нашай, дзеля яе праўдзівай культуры, бо ж яна наша і ў дачаснасці, і ў вечнасці. Трэба нам старацца, каб гэтая душа-ніва наша была для нас раем, а не пустыняй нядолі.

Сам Бог жыве ў нас. Жывема ж і мы ў Ім!..

Хрыстус у спакушэнні — вечны ўзор для чалавека ў ягоных спакушэннях.

Кожнае збліжэнне да Бога ўзмацняе і паляпшае нас. Дык працуйма над палепшаннем душы нашай, занураючыся ў глыбі ласкі і думак Божых!..

Вера душу нашу не толькі будзіць, але і асвячае, і дарыць яе супакоем і радасцяй унутранай.

Шчасця і радасці ў Хрыстусе ніхто ад нас адняць не зможа.

Не вінавата праўда, што чалавеку сілай не накідаецца, але вінават чалавек, каторы праўды або ненавідзіць, або не хоча добра пазнаць, або не так, як трэба, яе шукае.

Найвышэйшы загад веры нашай — любіць Бога і бліжняга. Любоў жа гэта, нібы ў водах люстраных, найлепш адбіваецца ў добрых чынах нашых.

Малітва — гэта родная мова душы нашай. Мовы гэтай забывацца мы не павінны ніколі. Малітва — гэта той узгорак, з якога лёгка можам бачыць свайго ворага, гэта той ручай *«вады жывой»*, што служыць здароўю душы і цела нашага.

Добрыя ўчынкі і шчырая малітва, шчырая малітва і добрыя ўчынкі — вось непамыльныя спосабы і пэўнае аружжа чалавека ў барацьбе ягонай за шчасце сваё асабістае і за шчасце бліжняга яго.

Камуністы, якія вядуць так заўзятую барацьбу з Хрыстусам, робяць гэта затым, што Яго не знаюць і знаць не хочуць. Прыйдзе, аднак, час, калі Святы Дух, якога Збаўца прырок апосталам, што пацяшае сэрца чалавека і асвячае яго розум, акажа сваю моц, дабрату і святло і на гэтыя бязбожныя душы.

Чалавек, калі рве тоненькія залатыя жыццёвыя ніці любові Бога і ягонай праўды, выключаецца ад цэнтралі жыцця свайго і перастае быць праваднікам энергіі Божай, праваднікам творчых ідэалаў — як у жыцці прыватным, так і грамадскім.

Як гаспадар згубленую авечку, як жанчына згубленую драхму — шукае заўсёды Бог чалавека і заўсёды асвячае і аграе яго сваёй любоўю, не перастаючы клікаць яго да сябе. Не будзьма ж глухімі на кліч Ягоны!

Прыземныя справы, самалюбныя інтарэсы, забыццё аб патрэбах душы, аб цноце, аб малітве, аб святых сакрамантах не спрыяюць таму, каб чалавек трывалае што і сапраўды цэннае мог здабыць у жыцці сваім.

Чалавек не ёсць неагранічаным гаспадаром таго, што мае. Бог, што стварыў усё, усяго ёсць найвышэйшым Валадаром і Панам.

Хрысціянства ў факце існавання кожнага народу бачыць тварэнне Бога — і Богу як найвышэйшай Волі і Мудрасці яго падпарадкоўвае. Хрысціянства, такім чынам, згодна і з нашым прыродным розумам і пачуццём, прызнае і нават загадвае любоў Бацькаўшчыны, але гэта мусіць быць у згодзе з агульным Божым загадам любові да Бога і бліжняга, а таксама ў згодзе з Найвышэйшай Божай Справядлівасцяй і мудрасцяй.

Чалавек, які сапраўды любіць свайго бліжняга, мае *ўважнае вока* на яго патрэбы.

Або не трэба дабрадзействаў прымаць і з іх карыстаць, або, калі іх хто прымае і імі карыстае, павінен разам з імі прымаць на сябе і абавязак удзячнасці.

Удзячнасць людзей абавязвае, бо яна іх робіць лепшымі, пакарнейшымі, будзіць прыязнь узаемную і стаецца крыніцай новых дабрадзействаў. І наадварот — няўдзячнасць, як ліхі віхор, засыпае пяском крыніцы людской дабраты.

Трэба памятаць, што ўдзячнасць наша павінна адносіцца не толькі да людзей, але таксама і да Бога.

Удзячнасць ёсць хрысціянскай добрасцяй. Няхай жа яна будзе пастаянным і неадлучным таварышам — анёлам душ нашых.

Чалавек не павінен гардзіць вонкавымі формамі жыцця, але прадусім павінен старацца аб вартасці сваёй духовай, каб жыццё яго было поўнае зместу і сілы. Цнота, дабрата душы, якой не відаць, чалавека вывышае, а заразумеласць, пышнасць, прэтэнзіяльнасць, беспадстаўнае жаданне славы і прызнання ў людзей, якія так кожнаму кідаюцца ў вочы, чалавека звычайна абясцэньваюць і паніжаюць, бо выказваюць усю яго духоўную пароржнасць і бязвартаснасць.

Хто не мае праўды, сілы духовай, той бароцца хітрасцяй, нянавісцяй, гвалтам, сілай цялеснай.

Камуністы думаюць знішчыць рэлігію. Тым часам яна ў агні пераследу адсвежваецца і адраджаецца.

Прыроды гэтага свету мы змяніць не можам, але можам і павінны мы жыць на гэтым свеце як Божыя дзеці.

Хрыстусава Ўшэсце павінна выклікаць у нас мілясць і тугу па небе. У небе наш Збаўца, наш Бог, жыццё наша. Неба — гэта наша Бацькаўшчына, адкуль мы выйшлі і куды мы варочаемся.

Дух Святы зімнае, акасцянелае, самалюбнае сэрца наша разаграе, паляпшае, робіць мілым сабе самому, людзям і Богу таксама.

Дзіця слабое, простае, нявіннае. Яно кожнаму павера, кожнага паслухае. Дзіця лёгка ашукаць, лёгка ўгаварыць яму няпраўду, лёгка закінуць у сэрца зярнё грэху. Дык сапраўды вялікім нягоднікам ёсць той, хто карыстаючыся слабасцяй дзіцяці і нявіннасцяй, зводзе яго з добрай дарогі, зрывае з яго вопратку нявіннасці, якая ўпадабняе дзіця да анёлаў.

Адна няпраўда — касуе ўсе праўды.

*Касцельная навука на Божае Нараджэнне (Каляды):*

Мінаюць вякі за вякамі. Мінаюць людзі, іхныя думкі і пагляды. А над гэтай хваляй зменнасці і нясталасці гудзіць звон калядны і нясе праўду і жыццё чалавеку вечна старую і вечна новую.

А Праўда гэта і Жыццё ўсцяж знаходзіць водгук у людзях *добрай волі*, у людзях, шчыра іх жадаючых.

Дык няхай вясёлы звон сённяшні, несучы весць аб праўдзе і Жыцці ў закутку цемры і замірання, няхай занясе яе ў душу кожнага з нас і ў душу беларускага народу, каб ён абудзіўся і жыў для шчасця свайго і на славу Бога Найвышэйшага!..

**З кнігі «Родная мова ў святынях» (1929 год)**

Святое Пісанне — жарало нашага духовага жыцця.

Усё ўціснканае, крыўджанае, як заўсёды бывае, многа ў сабе мае маральнай сілы і красы.

Праўда і Дабро, як водбліскі Бога самога заўсёды на свеце перамагаюць, даюць радасць сэрцам людскім і адкрываюць новы сэнс жыцця чалавечага.

Што я мог, тое зрабіў — няхай іншыя зробяць што лепшае.

**З прамоваў**

Мы не з крэсаў, а са сваёй беларускай зямлі. *07.02.1923.*

Веру, што для адраджэння кожнага народу мучаніцтва ёсць патрэбным; але ведаю таксама, што і справядлівасць ёсць абавязковай. *14.06.1923.*

На тое ж я і ксёндз, каб праўду гаварыў. *01.07.1924.*

Рэчы грамадскія не робяцца людзьмі, якія не маюць паняцця аб ідэалах грамадскіх. *05.07.1926.*

**З розных крыніцаў**

Здрада паніжае чалавека, а вернасць павышае.

Святы ідэал у руках нізкіх і грэшных — паніжаны.

Да прыгожых словаў трэба прыгожыя ўчынкі. *29.04.1924.*

Духоўнае сваё жыццё чалавек выяўляе пры помачы мовы. *1929 год.*

Культура — гэта патэнцыял нашай душы, гэта творчая яе магчымасць, а таксама гэта ўсе рэальныя плады духоўнай нашай творчасці. *25.12.1936.*

*Цытаты сабраныя паводле выданняў:*

*1. Станкевіч Адам. З Богам да Беларусі: Збор твораў. — Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008.*

*2. Конан У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі / Уладзімір Конан. — Мінск: Выдавецтва «Про Хрысто», 2003 (Бібліятэка часопіса «Наша вера»).*

*3. Надсан А. Pro patria aliena: Кляштар беларускіх айцоў марыянаў у Друі (1924—1938). — Мінск, 2006.*



# Кветачкі святога Францішка

У імя Пана нашага
ўкрыжаванага Езуса Хрыста
і Яго Маці Панны Марыі
ў гэтай кнізе выкладзеныя
некаторыя справы,
цуды і прыклады добрапрыстойнасці
слаўнага нябогі Хрыстовага
месэра святога Францішка
ды іншых яго святых паплечнікаў.
Хвала Езусу Хрысту.
Амэн.

**Частка XXX**

*Аб пропаведзі, якую казалі ў Асізі святы Францішак і брат Руфін, калі прапаведавалі голымі*

Брат Руфін з-за няспыннай кантэмпляцыі быў настолькі засяроджаны ў Богу, што зрабіўся такім безуважным і нямым, што зрэдку і размаўляў; і таму не меў ён ласкі смеласці і здольнасці да пропаведзі. Тым не менш, святы Францішак аднойчы загадаў яму ісці ў Асізі і прапаведаваць народу тое, на што натхніць яго Бог. Адказаў на гэта брат Руфін: «Найпаважаны айцец, я прашу, каб ты мне прабачыў і не пасылаў мяне, паколькі, як ты ведаеш, я не маю здольнасці прапаведаваць, я ўсяго толькі просты дурань». Тады сказаў святы Францішак: «Раз ты мяне не паслухаў адразу, то загадваю табе дзеля святога паслушэнства, каб ты аголены, у адных толькі нагавіцах, пайшоў у Асізі і зайшоў у касцёл і вось так, аголены, прапаведаваў перад народам». На гэты загад брат Руфін распрануўся і ўвайшоў аголены ў касцёл і, укленчыўшы перад алтаром, падняўся на амбону і пачаў прапаведаваць. З гэтага хлапчукі і дарослыя сталі смяяцца і казаць: «Вось яны, тыя, што каюцца аж да страты розуму».

Тым часам святы Францішак, разважаючы аб імгненным паслушэнстве брата Руфіна, які належаў да самых шляхетных людзей Асізі, і аб суворым загадзе, які яму быў аддадзены, пачаў абвінавачваць сябе самога: «Адкуль у цябе такая саманадзейнасць, сын П'етро Бэрнардоні, подлы чалавечышка, каб загадваць брату Руфіну, які належыць да самых шляхетных людзей Асізі, каб ішоў голы прапаведаваць народу, нібыта вар'ят? Дзеля Пана Бога, каб ты хаця б сам паспытаў тое, што загадваеш іншым». І адразу ж у полымі душэўным распрануўся гэтаксама і пайшоў у Асізі, і сувора наказаў брату Льву, каб падабраў яго вопратку і вопратку брата Руфіна. І калі жыхары Асізі пабачылі яго ў такім самым выглядзе, то

---

*Працяг. Пачатак у 3 за 2007 г.*

пачалі здзекавацца з яго, бо палічылі, што яны з братам Руфінам звар'яцелі з-за вялікага пакаяння. Зайшоў святы Францішак у касцёл, дзе брат Руфін прапаведаваў наступнымі словамі: «О, дарагія, уцякайце ад свету і пакіньце грахі; ухваліце іншага, калі хочаце пазбегнуць пекла; выконвайце Божыя запаведзі, любячы Бога і бліжняга свайго, калі хочаце патрапіць на неба, і кайцеся, калі хочаце валодаць царствам Божым». І тады святы Францішак голы ўзышоў на амбону і пачаў прапаведаваць такім цудоўным чынам пра пагарду да свету, пра святое пакаянне, пра добраахвотную беднасць, пра жаданне Валадарства Нябеснага і пра аголенасць, і ганьбу пакутаў нашага Пана Езуса Хрыста, што ўсе, хто слухаў пропаведзь, мужчыны і жанчыны ў вялікай колькасці, пачалі моцна плакаць з неверагоднай пабожнасцю і пакорлівасцю сэрцаў; і не толькі там, але па ўсім Асізі быў у гэты дзень такі вялікі плач аб пакутах Хрыста, што ніколі яшчэ не здаралася нічога падобнага.

І такім чынам пасля павучэння і суцяшэння люду сваім учынкам святога Францішка і брата Руфіна святы Францішак апрануў брата Руфіна і сябе самога, і ўжо апранутыя яны вярнуліся ў кляштар Парц'юнкалы, славячы і ўзносячы Бога, які даў ім ласку перамагчы саміх сябе, пагарджаючы сабою, і навучаць авечак Хрыстовых добрым прыкладам, і паказваць ім, наколькі трэба пагарджаць светам. І ў той дзень значна вырасла пабожнасць люду ў дачыненні да іх, і благаслаўлёным лічыў сябе той, хто змог дакрануцца да іх вопраткі.

Слава Хрысту. Амэн.

**Частка XXXI**

*Як святы Францішак па чарзе зведаў сакрэты сумлення ўсіх сваіх братоў*

Паколькі Пан наш Езус Хрыстус кажа ў Евангеллі: «Я ведаю сваіх авечак, а яны ведаюць Мяне», так благаслаўлёны айцец і святы Францішак, нібы добры пастух, ведаў усе заслугі і цноты сваіх паплечнікаў, дзякуючы Божаму адкрыццю, і гэтаксама ведаў іх заганы; таму ведаў і як з імі найлепшым чынам абыходзіцца, гэта значыць, прыніжаючы высакамерных і ўзвышаючы пакорлівых, перамагаючы дрэнныя звычкі і ўсхваляючы цноты, бо мог чытаць гэтыя цудоўныя адкрыцці, якія атрымліваў у дачыненні да сваёй маленькай сям'і.

І так аднойчы адбылося, што святы Францішак знаходзіўся са згаданай сям'ёй у кляштары і разважаў пра Бога, а брат Руфін не прысутнічаў на гэтай размове, а ўвесь час, пакуль доўжылася тая размова пра Бога, быў у лесе на кантэмпляцыі; і вось брат Руфін выйшаў з лесу і прайшоў на нейкай ад іх адлегласці. Тады святы Францішак, пабачыўшы яго, звярнуўся да сваіх паплечнікаў і спытаўся: «Скажыце мне, як вы думаеце, дзе самая святая душа, што мае сёння Бог на свеце?» І калі тыя адказалі, што яго, святы Францішак вымавіў: «Я, дарагія мае браты, лічу сябе самога самым нявартым і самым подлым чалавекам, якога Бог мае ў гэтым свеце; але паглядзіце на брата Руфіна, які выходзіць з лесу. Бог мне адкрыў, што яго душа належыць да трох самых святых душаў, якіх Бог мае ў гэтым свеце; і дакладна я вам гавару, што, не вагаючыся, назваў бы брата Руфіна святым пры жыцці, раз душа яго ўжо сцверджана ў міласці і асвечана, і кананізавана на небе нашым Панам Езусам Хрыстусам». А гэтыя словы святы Францішак ніколі не казаў у прысутнасці брата Руфіна.

Падобным чынам, як святы Францішак ведаў заганы братоў сваіх, так, безумоўна, разумеў ён і брата Іллю, якога часта папракаў за ганарыстасць, і брата Джавані дэла Капэла, якому ён прадказаў, што той сам засіліцца; і таго брата, якому шатан моцна сціскаў горла пасля таго, як той выправіўся ад непаслушэнства; і многіх іншых братоў, чые заганы і цноты ён ясна бачыў дзякуючы адкрыццю Хрыста благаслаўлёнага. Амэн.

*Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*
*Працяг будзе.*

Тамаш Кэмпійскі

# СЬЛЕДАМ ЗА ХРЫСТОМ

## Чатыры кніжкі

*З лацінскай мовы пераклаў д-р Ст. Грынкевіч*

**КНІЖКА ТРЭЦЯЯ**

## АБ УНУТРАНАЙ ПАЦЕСЕ

Разьдзел XXXII
*Аб самазрачэньні і адмове ўсякаму пажаданьню*

**1.** Сыне, ня будзеш мець сапраўднае свабоды, калі не зрачэшся сябе.

У цяжкіх путах ходзяць тыя, што ня могуць разьвітацца з прыватнаю ўласнасьцю ды любяць самых сябе, а такжа прагавітыя, цікаўныя, неспакойныя і тыя, каторыя ганяюцца за выгодамі, а ня шукаюць Езуса Хрыста ды часта лятуцяць і гоняцца за тым, што трываць ня будзе.

Бо ж усё, што ня з Бога — прападзе.

Памятай заўсёды на кароткае, але поўнае зьместу слова: кінь усё і найдзеш усё; кінь пажаданьне, а найдзеш супакой.

Разважай добра гэнае слова, а калі зробіш гэтак — усё сьцяміш і зразумееш.

**2.** Пане, гэта праца не аднаго дня і не забаўка гэта дзяцей, але ў гэтым кароткім сказе крыецца ўся дасканаласьць законьнікаў.

**3.** Сыне, ня трэба палохацца ды адварочвацца гэтак хутка, чуючы аб шляху дасканалых, але яшчэ больш трэба імкнуцца да вышэйшага, а прынамсі хацець гэтага ўсім сваім жаданьнем.

О, калі б гэтак з табою было, ды калі б стаў ты такім, што самога сябе ўжо не кахаў бы, ня меў бы волі іншае апрача Маёй ды таго, каго за айца Я табе даў! Тады надта ты быў бы Мне мілым і ўсё тваё жыцьцё было б радасьцю ды вясельлем.

Яшчэ шмат чаго трэба табе зрачыся, і пакуль ты ўсяго ня кінеш зусім дзеля Мяне — ня зьдзейсьніш таго, чаго табе хочацца.

*Я табе радзіў бы купіць у Мяне золата, агнём спрабаванага, каб ты збагацеў*, гэта значыць — мудрасьці нябеснае, якая топча ўсё нізкае.

За гэную нябесную мудрасьць аддай усю зямную і ўсё тое, што ўспадобу табе ды людзям.

**4.** Кажу табе, замест таго, што ў вачох сьвету вялікае і шматцэннае, здабывай тое, што паводле яго ліхое ды малавартае.

Бо ж надта марнай, малой і бадай усімі забытай здаецца людзям нябесная мудрасьць, што ня пышаецца, ня шукае славы на зямлі, якую многія хваляць вуснамі, але жыцьцём далёка мінаюцца з ею, аднак жа гэта тая шматцэнная пэрла, якая схавана ад многіх.

Разьдзел XXXIII
*Аб зьменнасьці сэрца і аб тым, што думкаю да Бога трэба зварочвацца, як да адзінай мэты нашай*

Сыне, ня вер ты пачуцьцям сваім; яны сяньня адны, а заўтра другія.

Пакуль жывеш, хоць бы і не хацеў, а нясталым будзеш: то вясёлы, то сумны, то спакойны, то стрывожаны, то пабожны, то не пабожны, то пільны, то нядбайны, то паважны, то лёгкадумны.

Аднак чалавек сапраўды мудры ды ўцьверджаны ў дусе — вышэйшы за ўсё гэта; ён зусім не глядзіць на тое, што яму здаецца, або з якога боку вее вецер зьменнасьці, але ўсімі сіламі розуму намагаецца ён да належнае і жаданае мэты.

Бо ж толькі тады стрываеш аднолькавым і бяз ніякіх пераменаў, калі вокам шчырага намеру глядзець будзеш заўсёды на Мяне сярод усіх магчымых абставінаў.

**2.** Чым чысьцейшае будзе вока думкі чалавека, тым цьвярдзей і сьмялей абміне ён розныя буры жыцьцёвыя.

Аднак шмат у каго гэнае вока чыстае думкі скаламучваецца, бо прагавіта зварочваецца да ўсяго, што маніць яго навокал.

Бо мала калі трапіцца чалавек бяз плямы самалюбства.

Гэтак калісь Юдэі прышлі ў Бэтанію да Марты і Марыі: *ня толькі дзеля Езуса, але каб ускрэшанага Лазара паглядзець* (Ян 12, 9).

---

*Працяг. Пачатак у 1–4 за 2007–2008 гг. і ў 1–3 за 2009 г.*

Вось жа трэба апратаць вока думкі сваёй, каб было простым і шчырым ды каб праз усе стварэньні Мяне заўсёды бачыла.

Разьдзел XXXIV
*Хто сапраўды любіць Бога, той любіць Яго над усё і ўва ўсім*

**1.** Вось Бог мой і ўсё маё. Чаго ж больш яшчэ хацець ды аб якім шчасьці лятуцець?

О, салодкае і мілае слова! Аднак толькі таму, хто любіць Слова адвечнае, а ня сьвет і ўсё, што ёсьць на сьвеце.

Бог мой і ўсё маё. Даволі слоў гэтых таму, хто іх разумее і з вялікаю радасьцю паўтараць іх будзе той, хто сапраўды любіць Бога.

Калі Ты прысутны — усё ёсьць вясельлем, калі няма Цябе — усё смуціцца.

Ты сэрца супакойваеш, даеш супакой вялікі і радасьць бяздонную.

Дзякуючы Табе гэтак радасна мы глядзім на ўсё ды ўсюды Цябе хвалім; без Цябе нічога нам ня будзе да ўспадобы. Каб нешта было нам мілым і прыемным, трэба ў ім прысутнасьці ласкі Тваёй і сьвятла мудрасьці Тваёй.

**2.** Хто Цябе любіць — усё яму добра.

А хто ў Табе ня мае сваёй радасьці — што ж будзе яго пацехай?

Але мудрацы сьвету і людзі змысловыя адкідаюць мудрасьць Тваю і гінуць, бо ў першых адна толькі марнасьць, а ў другіх сьмерць тоіцца.

А тыя, якія Цябе насьледуць, пагарджаючы сьветам і морачы сваё цела ідуць за Табой, маюць сапраўдную мудрасьць, бо кінулі яны марнасьць дзеля праўды, а цела дзеля духа.

Гэным Бог радасьць вялікая: і калі найдуць яны што добрае ў творах — усё гэта заўсёды скіруюць на хвалу Тварца свайго.

Іншая, аднак, і вельмі нат іншая радасьць Тварца і стварэньня, вечнасьці і дачаснасьці, сьвятла першапачатнага, вечнага, нястворанага і сьвятла, што ад яго сьвеціцца.

**3.** О сьвятло вечнае, што зіхаціш ясьней за ўсякае сьвятло створанае, з вышыні сваёй кінь на мяне пярун яснаты, які асьвяціў бы ўсю глыбіню сэрца!

Ачысьці, развясялі, асьвяці ды ажыві духа майго магутнасьцю сваёю, каб злучыўся я стульна ў захопленьні вялікім на векі з Табою.

О, калі ж прыйдзе гэная шчасьлівая і пажаданая хвіліна, калі Ты накорміш мяне сваёю прысутнасьцю ды будзеш мне ўсім ува ўсім?

Пакуль ня прыйдзе тая хвіліна, датуль няма поўнага шчасьця! Дагэтуль, на жаль, жыве ўва мне стары чалавек, яшчэ ня зусім раскрыжаваны, яшчэ ня зусім замораны.

Дагэтуль яшчэ хапае яму сілы змагацца з духам, вядзе ён духовую барацьбу ды душы маёй не дае панаваць спакойна.

**4.** Але Ты, *што валодаеш сіламі мора і стрымліваеш рух хваляў ягоных* (Пс 88, 10), паўстань, памажы мне.

*Расьцяруш народы, якія хочуць вайны* (Пс 67, 31), разжані іх магутнасьцю сваёю.

Пакажы, прашу, велічыню Тваю і хай будзе праслаўлена праўда Твая, бо ж няма іншае надзеі ці іншае абароны, як у Табе, Пане Божа мой!

Разьдзел XXXV
*Няма дзе схавацца ў жыцьці ад спакусаў*

**1.** Сыне, ніколі ты ня ёсьць бясьпечным у гэтым жыцьці, але пакуль жывеш — заўсёды трэба табе зброі духовае.

Сярод ворагаў жывеш, а яны леваруч і праваруч нападаюць на цябе.

Дык калі ня будзеш карыстацца абаронаю шчыта цярплівасьці — ня доўга цэлым астанешся.

А на’т больш, бо калі не ўцьвярдзіш сэрца свайго ўва Мне ды ня будзеш мець шчырае ахвоты стрываць усё дзеля Мяне — ня здолееш перамагчы гэнае напасьці пакус і дастаць пальмы бласлаўлёных.

Вось жа трэба табе мужна скрозь праходзіць і магутнаю рукою адбівацца ад супраціўнікаў.

Бо пераможцу манна дасца, доля ж палахлівага мізэрнасьць вялікая.

**2.** Калі хочаш у дачасным жыцьці адпачываць, якім чынам выслужыш вечны адпачынак?

Спадзейся ж не вялікага супакою, а думай аб вялікай цярплівасьці.

Шукай сапраўднага супакою не на зямлі, а ў небе, не ў людзях ці іншых творах, а ў Богу адным.

Дзеля любові Бога ахвотна ўсё трэба трываць, гэта значыць: працу, боль, спакусы, прасьледаваньні, крыўду, беднасьць, хваробы, абмову, напамінаньні, зьдзек, зьнявагу, кару і пагарду.

Усё гэта ўцьвярджае цноту, выпрабоўвае новага жаўнера Хрыстовага і пляце нябесную карону.

Я дам вечную нагароду за кароценькую працу і бязконцую славу за хутка мінаючае ўпакораньне.

**3.** Ці ж ты думаеш, што заўсёды, калі толькі захочацца, будзеш карыстацца духоваю супацехаю?

Сьвятыя Мае не заўсёды мелі яе; а мелі яны вялікія клопаты ды розныя спакусы і беды цяжкія.

Аднак цярпліва яны трывалі ўва ўсім; больш спадзееліся на Бога, чымся на сябе, ведаючы, што *ўсе мукі дачасныя недастойныя той славы, якая мае выявіцца ў нас* (Рым 8, 18).

А ты хацеў бы зразу дастаць, што іншыя па шматлікіх сьлёзах ды вялікіх працах дасталі.

*Чакай Пана, мужна працуй і абдужвайся ў сэрцы сваім* (Пс 26, 14), не адступай, але цела і душу сваю палажы дзеля хвалы Божае.

Я шчодра аддам усё табе, Я буду з табою пры ўсялякіх турботах.

*Працяг будзе.*



# У ЭПОХУ ПЕРАМЕНАЎ

Фрагменты з прэс-канферэнцыі протадыякана А. Кураева ў мінскім Палацы мастацтваў, якая адбылася напярэдадні візіту Патрыярха Маскоўскага і Усяе Русі Кірыла ў Беларусь.

Ёсць усім вядомая кітайская прымаўка, у якой сцвярджаецца, што самы страшны праклён для кітайца — жыць у эпоху пераменаў. Нам у гэтым сэнсе пашанцавала, бо мы вярнуліся ў гісторыю. Я з таго з пакалення дзяцей брэжнеўскага застою, якое вуснамі Уладзіміра Высоцкага сказала: «Мы тоже дети страшных лет России — безвременье вливало водку в нас...». Так Высоцкі перафразаваў Блока. У некаторым сэнсе маё адчуванне быцця, адчуванні маіх равеснікаў былі адчуваннямі па-за часам. Афіцыйная прапаганда даводзіла нам, што гісторыя ўжо здзейснілася, вы позна нарадзіліся, хлопцы і дзяўчаты, ужо рэвалюцыя, грамадзянская вайна і нават Другая сусветная вайна ў мінулым, уся героіка ў мінулым, а вам засталося ад пяцігодкі да пяцігодкі паляпшаць наш дабрабыт, павялічваць выпуск чыгуна на душу насельніцтва — і ў гэтым заключаецца сэнс паступальнага гістарычнага прагрэсу, які выпаў на вашу долю. Гісторыя заставалася чымсьці тым, што адбывалася на старонках падручнікаў, недзе вельмі далёка, ці то да 1917 года, ці то да палёту Гагарына ў космас, а пазней гэта ўжо не гісторыя, пазней ужо было сумна.

Але вось ізноў на нашых вачах актыўна дзеецца гісторыя з усімі сваімі трагедыямі, бязладдзем і скандаламі. Усё, пра што мы ведалі са старонак гісторыі, ажывае перад намі: з'яўляюцца і паміраюць дзяржавы, адбываюцца перавароты, нараджаюцца новыя рэлігіі, секты, ерасі і гэтак далей. Памятаю, у 1985 годзе, калі я ўпершыню пераступіў парог семінарыі і пісаў першую царкоўную паперу на імя рэктара з просьбаю прыняць мяне на працу вахцёрам, адчуваў амаль што пачуццё аргазму, выводзячы словы: «Его Преосвященству, Преосвященнейшему епископу». Тое, што было ўва мне крыху ад гісторыка, проста спявала. Такія цудоўныя словы, нават амаль сакрэтныя! Дзе тады яшчэ ў Савецкім Саюзе такія словы пісалі, вымаўлялі? Прайшло тры гады...

У 1988 годзе Валакаламскі Мітрапаліт Піцярым з нагоды 1000-годдзя хрышчэння Русі сустракаецца з савецкай інтэлігенцыяй у маскоўскім Доме літаратара. Мітрапаліт Піцярым прачытаў даклад на тэму «Роля хрысціянства ў гісторыі рускай культуры». Цішыня ў зале, нават апладысментаў няма. І вось прыходзіць запіска з аўдыторыі: «Уважаемый докладчик, как к Вам обращаться?» Адказ быў геніяльны, бо

---

Протадыякан **Андрэй Кураеў** нарадзіўся 15 лютага 1963 г. у Маскве. У дзяцінстве некалькі гадоў жыў у Празе, дзе працавалі яго бацькі. У 16 гадоў (1979 г.) паступіў на філасофскі факультэт МДУ (кафедра гісторыі і навуковага атэізму). 29 лістапада1982 г. прыняў хрост. У 1984 г. паступіў у аспірантуру Інстытута філасофіі АН СССР, але не закончыў яе. У 1985 г. стаў сакратаром у Маскоўскай духоўнай акадэміі (МДА). У 1988 г. закончыў Маскоўскую духоўную семінарыю, пасля чаго вучыўся ў Бухарэсцкім багаслоўскім інстытуце. Пасля вяртання з Румыніі з 1990 г. да 1993 г. працаваў рэферэнтам Патрыярха Алексія II. У 1992 г. закончыў МДА. У 1993–1996 гг. быў дэканам філасофска-багаслоўскага факультэта Расійскага праваслаўнага універсітэта імя св. Яна Багаслова. У 1994 г. у Інстытуце філасофіі РАН абараніў дысертацыю на атрыманне вучонай ступені кандыдата філасофскіх навук, а ў 1995 г. — кандыдацкую дысертацыю па багаслоўі ў МДА. У 1996 г. атрымаў званне прафесара багаслоўя. Узнагароджаны ордэнам св. Сергія Раданежскага III ступені. Уваходзіць у склад Сінадальнай багаслоўскай камісіі і Царкоўна-грамадскай рады па абароне ад алкагольнай пагрозы. Член экспертна-кансультатыўнага савета па праблемах свабоды пры Камітэце Дзяржаўнай Думы РФ па справах грамадскіх арганізацый і рэлігійных аб'яднанняў. Прафесар Маскоўскай духоўнай акадэміі, старэйшы навуковы супрацоўнік кафедры філасофіі і рэлігіязнаўства філасофскага факультэта МДУ. 5 красавіка 2009 г. узведзены Патрыярхам Кірылам у сан протадыякана з ускладаннем камілаўкі. Аўтар працаў «Всё ли равно как верить. Сборник статей по сравнительному богословию», «Традиция. Догмат. Обряд. Апологетические очерки», «Христианская философия и пантеизм», «Оккультизм в Православии» і інш.

ён сказаў: «Называйте меня просто: Ваше Высокопреосвященство».

На нашых вачах адбылася падзея, якую краіна ў 70-я гады ці ў нейкія іншыя не заўважыла б, — гэта змена Патрыярха. Гэта не проста падзея ў гісторыі адной рэлігійнай групы, гэта падзея не толькі нацыянальнага, але і міжнароднага значэння. І вось новы Патрыярх прыязджае ў Беларусь...

Смерць Патрыярха Алексія была нечаканаю, аднак Мітрапаліт Кірыл у той жа дзень даў выдатны каментар для праграмы «Время», і ён быў настолькі неардынарны, што пасля яго выдалілі з афіцыйных дакументаў на сайце Маскоўскай Патрыярхіі. Мітрапаліт Кірыл сказаў: «Здараецца так, што састарэлы Патрыярх робіць Царкву некіруемаю. Узрост робіць яго нядольным рэальна кіраваць Царквою і вырашаць яе праблемы. Сваім адыходам Патрыярх Алексій збавіў Царкву ад гэтай небяспекі».

Вопыт ХХ стагоддзя паказаў нам, што, як правіла, Патрыярхі кіруюць па 20 гадоў (за выключэннем Патрыярха Ціхана) — з іх 10 гадоў прыпадае на актыўнае будаванне і 10 гадоў на ўмацаванне. Дзякуючы Божаму Провіду Патрыярх Алексій захоўваў цвярозасць розуму, думак, маўлення, учынкаў да апошняй хвіліны свайго зямнога жыцця. І вось яго сэрца перастала біцца...

Што адбываецца далей? На наступны дзень збіраецца Сінод, які, згодна са Статутам Царквы, павінен выбраць новага кіраўніка. Першае пасяджэнне Сінода аўтаматычна ўзначальвае старэйшы епіскап па хіратоніі, гэта значыць па стажы служэння, Мітрапаліт Пецярбургскі Уладзімір. Першае пытанне на парадку дня: выбар кіраўніка Царквы. Вядома, адразу робіцца прапанова Мітрапаліту Уладзіміру заняць гэтую пасаду, але ён адмаўляецца, потым прапаноўваецца Мітрапаліту Мінскаму Філарэту і Кіеўскаму Уладзіміру — яны таксама адмаўляюцца. Мітрапаліт Ілінарый просіць у яго не пытацца і тут жа называе імя Мітрапаліта Кірыла. Такім чынам, малодшы па хіратоніі епіскап у складзе Сінода становіцца кіраўніком Царквы.

Пасля гэтага адбываецца скліканне Архірэйскага Сабору. Некаторыя людзі пытаюцца: «Чаму так хутка, чаму нельга пачакаць год?» Па-першае, калі выбіралі Патрыярха Алексія ІІ, то тады нават сарака дзён пасля смерці Патрыярха Пімена не прайшло, а тут прайшло амаль два месяцы. Па-другое, што значыць Царква без Патрыярха? Гісторыя не стаіць, час рухаецца і зацягваць на год вырашэнне гэтага пытання немагчыма. Праблема ў тым, што чым больш Царква застаецца без Патрыярха, тым больш узнікае дыскусій, чаканняў і супрацьстаянняў, на жаль, у самім царкоўным асяроддзі. <...>

Каб пазбегнуць дыскусій на Архірэйскім Саборы, Сінод пастанавіў цалкам адмовіцца ад прынцыпаў дэмакратыі — вылучэння кандыдатаў, сказаўшы, што ўсе ўдзельнікі Сабору становяцца кандыдатамі. <...> Вось таму Архірэйскі Сабор прайшоў вельмі хутка. Ужо спачатку вызначыўся трохкратны адрыў галасоў у Мітрапаліта Кірыла, далей у Мітрапаліта Клімента і Мітрапаліта Філарэта. Гэтыя тры кандыдатуры і былі вынесеныя на Памесны Сабор. <...>

На самай справе ім хапіла двух з паловаю дзён — адзін дзень на Архірэйскі сабор і паўтары дні на Памесны сабор. А чаму? На шчасце, у Царкве запанавала аднадушнасць. Вялікі ўчынак зрабіў Мінскі Мітрапаліт Філарэт, які для таго, каб паскорыць хаду падзей, зняў сваю кандыдатуру і аддаў свае галасы Мітрапаліту Кірылу. Выбары Патрыярха прайшлі вельмі хутка. <...>

Патрыярх Кірыл, безумоўна, скіраваны на рэформы... У нас, царкоўных людзей, слова «рэформа», як правіла, звязана з рэформаю богаслужэння — Ніканаўскія справы, Ніканаўскія рэформы. Але жыццё Царквы не зводзіцца толькі да богаслужэнняў. Трэба разумець, што, калі Патрыярх гаворыць пра перамены ў царкоўным жыцці, размова ідзе не пра тое, каб «Ойча наш» чытаць задам наперад і не пра змену календара або богаслужэбнай мовы, а таксама пра змену тых ці іншых нашых літургічных традыцый. Царква расце, і ўзрастае колькасць кантактаў са светам, дыялогу з ім, а значыць і колькасць праблемаў. Адпаведна ў гэтай сферы патрэбныя змены. <...> Рэформа адміністрацыйнага апарату, стварэнне Інфармацыйнага аддзела... Ведаеце, самым незвычайным рашэннем Патрыярха было паставіць кіраўніком гэтага аддзела Уладзіміра Лягойду, свецкага чалавека, дацэнта МДІМА (МГИМО), элітарнага універсітэта Масквы, выдаўца моладзевага часопіса «Фама». Гэта вельмі яркі, таленавіты, сімпатычны чалавек, ён не ў «футляры», гэта не кар'ерыст. А каго Патрыярх прызначыў на сваё ранейшае месца?.. Вось глядзіце, Патрыярх Алексій прыйшоў на Патрыяршае служэнне з кафедры Ленінградскага Мітрапаліта і каго ён туды прызначыў? Патрыярх Алексій вельмі патрабавальна адносіўся да сваёй памяці пра піцерцаў, таму кожны раз у Піцер прызначаў «шэрых» людзей, якія не маглі б у вачах піцерскай інтэлігенцыі зацьміць Патрыярха Алексія і памяць пра яго. Вось тако-

га тыпу рысы ў Патрыярха Кірыла няма. На свой ранейшы пост — кіраўніка знешніх царкоўных сувязяў — ён прызначыў таленавітага чалавека, вучонага-багаслова, самага яркага, самага маладога епіскапа, які ёсць у нашай Царкве, — епіскапа Іларыёна (Мацвеева). Сам Патрыярх таленавіты чалавек, але сам ведае, што ён таленавіты, таму ў яго няма таго комплексу, калі начальнік імкнецца падабраць пад сябе людзей, якія відавочна менш яркія за яго. Патрыярх Кірыл не баіцца вылучаць яркіх і неардынарных людзей, набліжаць іх да сябе. Мяне асабіста гэта перапаўняе аптымізмам, мне цікава жыць і працаваць з такім Патрыярхам. <...>

А цяпер звернемся да таго, што ён гаворыць. Прамовы Патрыярха ў сваёй большасці — гэта заклік да таго, каб Царква павярнулася тварам да свету. Ёсць час збіраць камяні, ёсць час раскідаць камяні, ёсць час унутранай засяроджанасці, захоўвання ўраджаю, але ёсць і час яго раздачы. Ёсць яшчэ больш складаная сітуацыя. Здараецца, калі не пачнеш раздаваць, то і не накорміш. Калі не прымусіш сябе да нейкай працы, то нічога і не будзе. Чалавек расце па меры той задачы, якую ён вырашае. <...>

Ёсць відавочная псіхалагічная мяжа патрыяршаства Патрыярха Алексія II і Патрыярха Кірыла. Час Алексія II — гэта час, калі Царква выходзіла з савецкага перыяду, гэта час Пасхі, але пры гэтым шэраг псіхалагічных стыгматаў Царква несла на сабе. Я маю на ўвазе тое, што савецкі веруючы чалавек — гэта чалавек псіхалогіі гета; вакол ворагі, ад усяго трэба ізалявацца, хавацца, усё новае загадзя яму варожае. Калі з'яўляецца штосьці новае, то, хутчэй за ўсё, яно небяспечнае і трэба трымацца ад яго ўбаку. І другі стыгмат, вынесены царкоўнымі людзьмі з савецкага перяду, — гэта поўны зварот у мінулае, ідэалізацыя, рамантыка кансерватызму. Яны хацелі б вярнуцца ў пэўны савецкі час, уключаючы арфаграфію, стары стыль, адзенне і іншае. Вы разумееце, што ў такога імкнення ёсць свая праўда. <...> Калі б мне прапанавалі выбраць любую эпоху ў гісторыі Расіі, дзе я хацеў бы жыць, то я сказаў бы прапісаць мяне да Аляксандра III. Гэта мой любімы час, хачу туды. Але Бог вырашыў інакш, Ён сказаў: «А ты цяпер жыві — у XXI стагоддзі, а не пры Аляксандры III». І сёння задача ў тым, каб пераджыць у сабе гэтую псіхалогію ксеракса і пачаць сузіраць, іншымі вачыма глядзець на свет, застаючыся праваслаўнымі хрысціянамі, і не ставіць задачу, як ад гэтага ўцячы, а думаць, як выкарыстаць на карысць Царквы гэтую новую інфармацыйную тэхналогію і штосьці яшчэ. Вось таму Патрыярх увесь час гаворыць пра місію Царквы, місію для моладзі. <...>

Рытм жыцця краіны і Царквы не супадаюць. Новы Патрыярх праводзіць місіянерскую мабілізацыю, заклікае шукаць, спрабаваць, асвойваць новыя шляхі для кантактаў з рознымі структурамі. І вельмі важна, што з яго вуснаў часта гучаць словы «субкультура праваслаўя». У вуснах Патрыярха гэта мае вялікае значэнне. І рэдка які-небудзь царкоўны дысідэнт можа сабе такое дазволіць, бо субкультура азначае культуру гета, тое, што зразумела меншасці, невялікаму колу людзей. Разумееце, пра адно і тое ж можна гаварыць па-рознаму. Можна выдаваць залатыя тамы з ухваленнем вялікага праваслаўнага богаслужэння: якое яно дзіўнае, узнёслае, духоўнае, вытанчанае, традыцыйнае, як яно прапітанае біблейскімі алюзіямі і гэтак далей. Можна пра гэта гаварыць, але можна спыніцца і запытаць сябе, а ці яно працуе, ці яно выконвае сваю місіянерскую працу, пастырскую? Субкультура праваслаўнага богаслужэння — мова, зразумелая не ўсім, і справа не ў царкоўнаславянскай мове. Для таго, каб зразумець мову нашага богаслужэння, трэба быць «выдатнікам духоўнай баявой падрыхтоўкі», трэба на памяць ведаць Біблію, з паўслова разумець самыя малыя намёкі — і тады гэта спрацуе. <...>

*— Якая, на Вашую думку, роля Царквы ў несвабоднай дзяржаве?*

— Як заўсёды, быць аддушынаю. Я думаю, што гэта нейкі комплекс савецкіх людзей, калі ўсё зводзіцца да палітычнай свабоды або несвабоды. <...> Для мяне (можа сорамна ў гэтым прызнацца) апошнім імпульсам, які падштурхнуў да хросту, стала смерць Брэжнева. Праз тыдзень пасля яго смерці я хрысціўся. І логіка была наступная: як і ўсе савецкія інтэлігенты, я спадзяваўся і чакаў, калі гэты коснаязычны браняносец пакіне палітычную арэну і дасць шанц для краіны, для яе адраджэння. І вось гэта адбылося... А праз два дні стала зразумела, што нічога не мяняецца, адышоў адзін чалавек, прыйшоў іншы. Ну, змяніўся твар генсека, а што з таго? Для мяне ў тыя дні стала вельмі зразумела, што дарма я свае спадзяванні звязваў менавіта з гэтым. Шукаць сябе, свабоду, сэнс жыцця трэба не ў палітычнай мазаіцы, не ў гэтых зменах, не на гэтым узроўні. Тады я зразумеў, што хопіць у гэтыя гульні гуляць, шукаць радыё «Голас Амерыкі», трэба ісці ў святыню і хрысціцца, шукаць Хрыста.

Роля Царквы ў несвабоднай

дзяржаве?.. Вам ужо даўно Карл Маркс усё растлумачыў на гэтую тэму і цалкам справядліва — опіум для народа. Скажу больш, я цалкам згодны з гэтым, толькі прашу згадаць дакладныя Марксавы словы з працы «Да крытыкі гегелеўскай філасофіі і права. Уводзіны»: «Рэлігія — гэта ўздых прыгнечанага стварэння, рэлігія — гэта сэрца бессардэчнага свету, рэлігія — гэта кветкі, што ўпрыгожваюць ланцугі, якімі скавана чалавецтва, рэлігія — гэта дух бяздушных парадкаў, рэлігія — опіум для народа». Вобразны рад вельмі прыгожы: душа, сэрца, кветкі і раптам опіум. Але тут трэба зразумець, што гэта пачатак XX стагоддзя. У мове XX стагоддзя слова «опіум» мае іншае значэнне, чым у сучаснай мове. Сёння опіум — гэта наркотык, а ў XX стагоддзі опіум — гэта анастэтык, абязбольвальны сродак. Такім чынам, ідэя Маркса цалкам справядлівая: рэлігія — гэта тое, што заглушае боль і дазваляе чалавеку застацца чалавекам у бесчалавечнай сітуацыі. Маркса абурае — навошта цярпець, трэба ўзняць паўстанне, не трэба цярпець боль і нязручнасці. <...>

Што робіць рэлігія? Яна надае сэнс тваім пакутам. Для чалавека вельмі важна, каб у яго жыцці з'явілася метафізіка, іншае сэнсавае вымярэнне, і рэлігія яго дае і дазваляе па-чалавечы, не па-малпаваму перажыць тую трагедыю, у якой ты апынуўся. Дык вось роля Царквы ў несвабоднай дзяржаве — дапамагчы чалавеку застацца чалавекам, знайсці іншае вымярэнне ў несвабодным жыцці. <...>

*— На чым асноўваць сваю веру веруючаму чалавеку, як толькі не на непасрэдным вопыце ўспрымання Бога? У адваротным выпадку — гэта не вера, а ўнушэнне без вопыту.*

— Гэта не зусім так. Вы можаце прачытаць духоўныя гутаркі святога Ісаака Сірына, дзе ён прапаноўвае адрозніваць два вобразы веры: веру дагматычную і веру сузіральную. Вера дагматычная — гэта згода розуму і волі чалавека з вучэннем Царквы. Яна, безумоўна, недасканалая, але можа спараджаць вялікія рэчы, у тым ліку пакаянне. А вось вера сузіральная — гэта тая вера, якая ўжо бачыць свой прадмет. У праваслаўі ўсё вельмі складана, бо часам промень такога вопыту даецца спачатку духоўнага жыцця, а потым адбіраецца. Гэта называецца задатак будучага дабра. Тое, што цябе прывабіла, здараецца, трэба шукаць і здабываць да канца жыцця.

*— Вашы адносіны да прыезду Папы ў Беларусь?*

— Ватыкан сыходзіць з таго, што любы візіт Пантыфіка павінен быць візітам міру. Таму такі візіт павінен ажыццяўляцца пры наяўнасці трох складальнікаў: першы — запрашэнне мясцовай каталіцкай супольнасці, другі — запрашэнне дзяржаўных уладаў, бо Папа Рымскі — гэта таксама Галава дзяржавы, і трэці — запрашэнне рэлігійнай супольнасці большасці дадзенай краіны для таго, каб свята для католікаў не стала чымсьці іншым на суседняй вуліцы і каб не было канфлікту. Вядома, што Рымскі Пантыфік мае права наведаць сваіх аднаверцаў у Беларусі; вядома, мае права і жаданне Прэзідэнт Беларусі запрасіць свайго ватыканскага калегу, але пытанне застаецца толькі ў адным: у жаданні Беларускай Праваслаўнай Царквы бачыць Пантыфіка менавіта цяпер і менавіта тут. <...>

*— Чаму Праваслаўная Царква прызнае хрост, які праводзяць іншыя канфесіі, і не прызнае раўнацэннасці ўсіх хрысціянскіх канфесіяў?*

— Дзіўнае пытанне... А што лагічна адно з другога вынікае? Ніяк не вынікае, і наша Царква гэта заўсёды тлумачыць: хрысціць можа нават свецкі чалавек. Гэта адзіны сакрамэнт, які можа здзейсніць свецкі чалавек пры адсутнасці святара. Нават чалавек, які знаходзіцца ў якой-небудзь секце, хрысціць у імя Хрыста па веры чалавека, але ўсё астатняе патрабуе апостальскай пераемнасці і ласкі.

*— Ці варта склікаць у бліжэйшы час Сусветны Сабор праваслаўных хрысціянаў?*

— У бліжэйшы час ніхто не збіраецца гэтага рабіць, бо гэта даволі сур'ёзны праект, над якім працуюць ужо гадоў сорак і будуць працаваць далей. <...> Ёсць шмат пытанняў, якія трэба вырашыць, напрыклад, тэхніка склікання Сусветнага Сабору. Сусветны Сабор склікаў Візантыйскі імператар. Дзе ён цяпер? А калі не ён, то хто? Для нас гэта вельмі сур'ёзнае пытанне. Грэкі аўтаматычна лічаць, што гэта павінен быць Канстанцінопальскі Патрыярх. А чаму не Ерузалемскі, Маці Цэркваў? А, можа, гэты Сабор мае права склікаць той, каму ён цяпер больш неабходны? <...> Па гэтай праблеме ёсць рознагалоссе ў царкоўным асяроддзі. Наступнае пытанне пра парадак дня Сабору, шлях працы Сабору (кансэнсус ці большасць), пытанне пра ступень абавязковасці для праваслаўных такога Сабору і пра шлях рэалізацыі рашэнняў гэтага Сабору. Шмат пытанняў трэба вырашыць, таму ніякага склікання ў бліжэйшы час не будзе. <...>

*Падрыхтавала*
*Іна Ламака.*



Да тысячагоддзя мучаніцтва святога Бруна Баніфацыя і першай пісьмовай згадкі назвы «Літва»

# Ліст святога Бруна Баніфацыя да караля Генрыка II

З пісьмовай спадчыны св. Бруна Баніфацыя, 1000-годдзе мучаніцкай смерці якога мы сёлета ўшаноўваем, да нас дайшлі не толькі ягоныя выдатныя агіяграфічныя творы «Vita S. Adalberti, episcopi Pragensis» (Жыццё св. Адальбэрта, Пражскага біскупа) і «Vita quinque fratrum» (Жыццё пяці братоў), але і надзвычай цікавы ліст, напісаны перад апошняй у ягоным жыцці місійнай выправай на нашыя заходнія межы. Пішучы яго, святы перадусім імкнуўся спыніць зваду паміж двума хрысціянскімі ўладарамі, якіх добра ведаў асабіста, і звярнуць увагу на адпаведнасць іх учынкаў запаведзям Хрыста і дабру ўласных народаў.

Гэты голас з прадонняў часу і сёння гучыць як жывы, даносячы да нас водар ранняга Сярэднявечча — эпохі Духу і святасці. З-пад цудоўнай арнаментыкі каралінгскага мінускула, якім напісаны ліст, праступаюць даўно зніклыя, часам не названыя па імені постаці людзей, што далі пачатак існаванню новых дзяржаваў, праклалі шлях вялікім здабыткам і вялікім праблемам у цэлай Еўропе. Многія з іх пазней заслужана будуць названыя святымі, іншыя ж, хоць і няслушна, будуць звінавачаныя ды пад рукой прыдворных летапісцаў здабудуць славу акаянных: Стэфан (Іштван) венгерскі Святы, Уладзімір Кіеўскі Вялікі ці Святы, Генрык II Святы, Баляслаў Харобры, Святаполк Тураўскі (Акаянны). Вачыма Бруна дзе больш выразна, дзе цьмяна мы можам разгледзець пэўныя абрысы таго часу: прагу ўлады і багацці, войны за тэрыторыі і душы, хістанні ў веры, але таксама — мужнасць у абвяшчэнні Евангелля, аддаласць Божай волі, няўхільнае імкненне да святасці. Бліжэйшым і раднейшым нам робіцца і сам Бруна, які паўней адкрываецца перад намі ў сваім лісце. Цяжка выкрасліць з памяці гэты вобраз: святы разам са спадарожнікамі, пагарджаючы смерцю, вырушае да найакрутнейшых паганцаў, спяваючы славуты рэспансорый «Пётр, ці любіш ты Мяне? — Ты ведаеш, Пане, што я люблю Цябе! — Пасі авечкі Мае!»

Міласціваму каралю Генрыку[1], мужу Касцёла, [піша] хто ж іншы як не гэты нягодны Бруна? Без усялякага сумневу, пабожны кароль ведае тое, што прыстоіць каралю і падабаецца Богу, які ўсё бачыць.

Няма нікога з тых, што жывуць на зямлі, хто з волі Божае болей дбаў бы пра тваё збаўленне і хто больш жадаў бы тваёй вялікай славы ў свеце поўным цярпенняў. Твой найдаражэйшы брат біскуп Бруна[2], калі я затрымаўся ў зямлі вугорцаў, сказаў мне, што ты, каролю, міласціва непакоішся пра мяне і вельмі моцна баішся, што я па сваёй волі хачу загінуць. І гэта я, напэўна, зрабіў бы ці імкнуўся б зрабіць цяпер, калі б толькі не ўтрымліваў ад гэтага Той, хто ўтрымлівае дагэтуль, ласкавы Бог і мой пан святы Пётр.

Няхай Бог аддасць табе па заслугах на зямлі жывых, бо ты, слаўны каролю, які павінен апекавацца амаль усім светам, прызволіў у імя Пана выявіць гэты шляхотны клопат пра мяне, найменшага слугу свайго, каб я не загінуў. Дзякуй Богу! Ты, стаўшыся каралём паводле мудрасці, якую даў табе Бог, імкнешся быць добрым і каталіцкім уладаром, будзь жа таксама тым, каго неабходна нам мець, — пабожным і руплівым стырнавым святога Касцёла. Гэтак жа і мы, хоць і нягодныя, але твае, каб не змарнаваць гэтага жыцця надарэмна і *не апынуцца нагімі*[3] ў дзень смерці, імкнемся, наколькі дадзена нам з ласкі Духа Святога, дзейнічаць і працаваць паводле вось гэтых словаў найлепшага Паўла: «Душы сваёй не цаню даражэй за сябе»[4]. Што да мяне, не раблю нічога, апроч граху, што ж да Пана, калі хоча, Ён, хутчэй чым можна вымавіць, чыніць толькі дабро. Пачэсна абвяшчаць Божыя справы і славіць іх; тым больш не павінен маўчаць я перад табою, бо дзякуючы тваёй пабожнай намове я цяпер — біскуп, які ад святога Пятра нясе Евангелле Хрыста паганскім плямёнам.

І сапраўды ўжо цэлы год споўніў дні і месяцы, як пакінулі мы вугорцаў, дзе доўга сядзелі дарэмна, ды выправіліся ў дарогу да самых акрутных з усіх паганцаў — печанегаў[5].

Гаспадар русаў, вялікі багаццямі і ўладаю[6], на адзін месяц затрымаў мяне і, затрымліваючы насуперак майму жаданню так, нібыта я па сваёй волі хацеў сябе загубіць, вельмі непакоіўся пра мяне, каб я не хадзіў да гэткага неразумнага люду, дзе ўвогуле не здабуду душаў, а знайду толькі смерць і да таго ж найганебнейшую! Урэшце, калі ўжо нічога не мог зрабіць, і яго напалохала нейкая ўява пра мяне нягоднага, ён сам з войскам

вёў мяне два дні аж да апошняй мяжы свайго каралеўства, якую з усіх бакоў абамкнуў наймацнейшай загародаю ад вандроўнага ворага. Тут ён саскочыў з каня на зямлю. Я ішоў з таварышамі наперадзе, а ён са сваімі дастойнікамі — следам, аж выйшлі за браму. Ён стаў на адным, а мы сталі на другім пагорку. Я нёс крыж Хрыста, абняўшы яго рукамі і спяваючы славутую песню: «Пётр, ці любіш ты Мяне? Пасі авечкі Мае!»[7] Калі быў скончаны рэспансорый, уладар паслаў свайго дастойніка да нас з такімі словамі: «Я прывёў цябе туды, дзе заканчваецца мая зямля, а пачынаецца варожая. Дзеля Бога прашу цябе, не губі на маю ганьбу свайго маладога жыцця. Ведаю, што заўтра перад трэцяю гадзінаю [дня][8] без плёну, без прычыны ты павінен будзеш зведаць горкую смерць». Я адказаў: «Няхай Бог адкрые табе рай, гэтак як ты адкрыў нам дарогу да паганцаў».

Што ж далей? Два дні мы ішлі, і ніхто нам не шкодзіў. На трэці дзень — а была гэта пятніца — тры разы, раніцою, апоўдні і а дзевятай[9], усіх з сагнутымі шыямі вялі на смерць — нас, якія столькі разоў цудам выходзілі цэлымі ад сустрэтых намі ворагаў — так наканаваў Бог і правадыр наш Пётр. У нядзелю мы прыйшлі да большага зграмаджэння людзей і нам падоўжаны быў тэрмін жыцця да таго часу, пакуль не сабраўся на сход увесь народ, скліканы ганцамі. І вось у наступную нядзелю каля дзевятай нас выклікаюць на сход, сцябаюць нас і коней; набягае незлічоны натоўп з налітымі крывёю вачыма і ўзнімае страшэнны крык; тысячай сякераў, тысячай аголеных над нашымі каркамі мячоў яны пагражаюць пасячы нас на кавалкі. Мардавалі нас да ночы, цягалі ў розныя бакі, пакуль старэйшыны[10] той зямлі, якія з боем вырвалі нас з іхных рук, выслухаўшы нас, [не] пераканаліся, як людзі разумныя, што мы прыйшлі на іхнюю зямлю з дабром. Гэтак як прызволіў дзівосны Бог і найдаражэйшы Пётр, мы пяць месяцаў заставаліся сярод гэтага народу і абышлі тры часткі, чацвёртай, з якой прыйшлі да нас лепшыя весткі, не кранулі[11]. Калі каля трыццаці душаў прынялі хрысціянства, з Божае волі мы ўклалі мірную дамову, чаго, як яны сцвярджалі, ніхто, апрача нас, не змог бы зрабіць. «Гэты мір, — кажуць яны, — учынены табою. Калі ён будзе трывалы, як ты пераконваеш нас, мы ўсе ахвотна станем хрысціянамі. Калі ж той гаспадар русаў будзе хістацца ў захаванні міру, мы змушаныя будзем дбаць аб вайне, а не аб хрысціянстве».

З гэтым вынікам прыйшоў я да гаспадара русаў, які, задавальваючы дзеля Бога іхняе жаданне, даў у закладнікі сына[12]. Мы ж высвяцілі з нашых біскупа, якога ён разам з сынам асадзіў пасярод той зямлі. Вось так была ўсталяваная на большую славу і хвалу нашага Збаўцы і Бога хрысціянская вера ў найгоршым і найакрутнейшым з усіх паганцаў народзе, якія толькі ёсць на зямлі.

А я павяртаю цяпер да прусаў[13], дзе перада мной будзе ісці Той, хто ішоў паперадзе раней, хто ўсё гэта ўчыніў і будзе чыніць цяпер, ласкавы Бог і мой пан, найдаражэйшы Пётр. Чуў я таксама пра чорных вугорцаў[14], да якіх прыйшло першае пасольства святога Пятра, якое ніколі не выпраўляецца надарэмна, што ўсе яны навярнуліся і сталі хрысціянамі, хоць нашыя — хай Бог ім даруе — здзяйсняючы вялікі грэх, некаторых асляпілі. Усё гэта на славу аднаго Бога і найлепшага Пятра. Што да мяне, не маю нічога, апрача грахоў, і страціў бы нават наяўнае дабро, калі б толькі міласэрны Бог сваёю воляю не чыніў і не памнажаў яго дзеля крыві святых і асабліва тых, якія ў наш век акрапілі ёю зямлю.

Уладару мой, ты ўсё добра зрабіў дзеля мяне. Няхай Бог аддзячыць табе пры ўваскрашэнні справядлівых, перадусім за тое, што клапоцішся пра мяне, каб з-за памылак юнацтва не займаўся свецкімі справамі, пакінуўшы духовыя. З гэтай прычыны ты, напэўна, гневаўся, калі я адыходзіў. Таму таксама сталася пры маёй адсутнасці так, што ты высмеяў у атачэнні магнатаў мяне і многія мае заганы, вартыя высмейвання. Гэтых трох пачуццяў — страху за мяне, гневу і насмешкі — ты ніколі б не меў да мяне, калі б не любіў мяне, а калі б не быў добрым, ты, напэўна, ніколі б не ненавідзеў таго, што здавалася табе ўва мне дрэнным. Кажу на суцяшэнне табе, што я не хачу загінуць, калі толькі святы Бог пры заступніцтве благаслаўлёнага Пятра пажадае змілавацца нада мною. Я, сам па сабе прыкры і кепскі, з ласкі Божай хацеў бы стаць добрым. Прашу як у малітве, каб усемагутны і міласэрны Бог выправіў мяне, даўняга грэшніка, а цябе з дня ў дзень рабіў усё лепшым каралём; твае ж добрыя справы — несмяротныя.

Калі б хто таксама сказаў, што захоўваю вернасць і маю большую сяброўскую прыхільнасць да тутэйшага ўладара[15], гэта праўда. Сапраўды, я люблю яго як сваю душу і больш за жыццё сваё. Але маю выдатнага сведку, агульнага нашага Бога, ад якога нічога не схавана, што не насуперак тваёй ласцы люблю яго; бо наколькі магу, хачу звярнуць яго да цябе. Ды як можна, не губляючы ласкі караля, казаць: ці добра пераследаваць хрысціяніна і мець сяброўства з паганскім народам?[16] Якое можа быць пагадненне Хрыста з Бэліялам? Якое параўнанне святла з цемраю? Якім чынам могуць пагадзіцца д'ябал Сварожыч (Zuarasiz)[17] ды правадыр святых, ваш і наш Маўрыцый?[18] У якім шыхце сыходзяцца святая дзіда[19] і д'ябальскія харугвы тых, што жывяцца чалавечай крывёю? Ты не

лічыш грахом, о каролю, калі хрысціянская душа, — страшна тое казаць — складаецца ў ахвяру пад харугваю дэманаў? Хіба не лепш было б мець верным сабе такога чалавека, з чыёй дапамогаю і парадай ты мог бы атрымліваць даніну ды чыніць святыя і найбольш хрысціянскія справы для паганскага народа? О як хацеў бы я мець князя Баляслава, пра якога кажу, не ворагам, але верным [саюзнікам]! Ты, магчыма, адкажаш: «І я хачу».

Тады з'яві міласэрнасць, адкінь жорсткасць! Калі хочаш мець вернага [саюзніка], перастань пераследаваць! Калі хочаш мець рыцара, дзейнічай разам з Харобрым, каб гэта цешыла цябе. Сцеражыся, каролю, калі хочаш усё рабіць гвалтам, а ніколі з літасцю, якую любіць сам Харобры, каб выпадкам Езус, які спрыяе табе цяпер, не разгневаўся на цябе. Але не буду пярэчыць каралю. Хай будзе так, як хоча Бог і хочаш ты. Ці не лепей ваяваць з паганцамі дзеля хрысціянства, чым гвалт чыніць хрысціянам дзеля марнай свецкай славы? Сапраўды, чалавек мяркуе, а Бог рахуе. Ці не з паганцамі і хрысціянамі ўступіў кароль на гэтую зямлю з моцаю ўсяго каралеўства?[20] Што ж сталася тады? Ці не ахавалі яго[21] святы Пётр, праннікам якога ён сябе прызнае, і святы мучанік Адальбэрт? Калі б не хацелі дапамагаць пяць святых мучанікаў, якія пралілі кроў і былі забітыя ды, абуджаючы боязь Божую, чыняць тут шматлікія цуды, то ніколі не спачывалі б яны ў ягонай зямлі[22]. Гаспадару мой, як кароль ты не мяккі, бо гэта шкодзіла б, але справядлівы і рашучы ўладар, а гэта падабаецца: калі толькі дадаць, каб быў ты таксама міласэрны і не заўсёды сілаю, але і міласэрнасцю набліжаў да сябе народ ды рабіў яго прыязным да сябе. Ты ўбачыў бы, што хутчэй здабудзеш народ дабрадзействам, а не вайною, і калі цяпер маеш вайну з трох бакоў, то тады яе не было б увогуле.

Але што мне да таго? Хай глядзіць сам кароль, які, будучы мудрым, моцна трымаецца справядлівасці і дабра, няхай глядзіць, даючы парады, кожны добры біскуп, граф і князь. Што да маёй, а хутчэй, Божай справы, скажу адно і другое, а да гэтага больш нічога не дадам. Дзве вялікія бяды хутка адчуе новы Касцёл, які Бог і змагарны Пётр пачалі закладаць сярод грубага паганства. Па-першае, князь Баляслаў, які ахвотна і з усёю моцаю духу і цела хацеў дапамагчы мне ў навяртанні прусаў і вырашыў не шкадаваць на гэта ніякіх грошай, цяпер уцягнуты ў вайну, якую мудры кароль палічыў неабходным распачаць, не мае ані часу, ані магчымасці дапамагчы мне ў абвяшчэнні Евангелля. Па-другое, хоць лютыя і паганцы ды ўшаноўваюць ідалаў, але Бог не схіліў сэрца караля, каб зваяваў гэткіх ворагаў у слаўнай бітве дзеля хрысціянства, гэта значыць, каб згодна з наказам Евангелля змусіў іх уступіць [у хрысціянства]. Хіба не было б вялікім гонарам і вялікім шчасцем для караля, калі б памножыў Касцёл і перад Богам здабыў бы тытул апостала, ды каб намагаўся ахрысціць паганцаў і прынесці мір хрысціянам, якія яму ў

---

[1] Генрык II Святы (973–1024), сын баварскага герцага Генрыка II Наравістага і бургундскай каралеўны Гізэлі, з 1002 г. нямецкі кароль, а з 1014 г. імператар Святой Рымскай імперыі, у 1046 г. быў кананізаваны. Меў трох братоў і дзвюх сясцёр. Ягоны брат Бруна стаў біскупам Аўгсбурга, сястра Гізэля, названая па імені маці, выйшла замуж за вугорскага караля Стэфана ((Іштвана) Святога (каля 970/975 — 1038, каранаваны на караля легатам Папы Рымскага на Нараджэнне Хрыстовае 1000 ці 1001 г., кананізаваны ў 1083 г.).

[2] Гэты Бруна, якога часам блытаюць з нашым святым Бруна Баніфацыем, быў братам нямецкага караля Генрыка II і Гізэлі, вугорскай каралевы (гл. папярэднюю спасылку). Разам з Баляславам Харобрым і маркграфам Генрыкам Швайнфуртскім удзельнічаў у змове супраць свайго брата, імкнучыся пазбавіць яго кароны. Калі Генрык II перамог, ён знайшоў прытулак у Польшчы і нейкі час быў пры двары Баляслава Харобрага. Затым перабраўся да вугорцаў і пры дапамозе свайго швагра караля Стэфана ў 1004 г. атрымаў ад Генрыка II прабачэнне з умоваю, што прыме духоўны сан. Таму неўзабаве атрымаў святарскае пасвячэнне, а ў 1007 г. стаў Аўгсбургскім біскупам. Праз нейкі час пасля гэтага з ім і бачыўся, напэўна пры двары караля Стэфана, Бруна Баніфацый.

[3] Пар. Кар 5, 3.

[4] Пар. Дз 20, 24.

[5] Печанегі — вандроўныя плямёны цюрскага паходжання, у час місіі Бруна Баніфацыя займалі велізарныя тэрыторыі на поўдзень ад Кіева ў стэпах ад Волгі да Дуная. Для абароны ад іхніх нападаў кіеўскі князь Уладзімір Святаслававіч пачаў ставіць гарады і ўмацаванні на мяжы з імі па рэках Дзясне, Востры, Трубяжы, Суле, Стугне. Мяжу з печанегамі на ўсходзе мела і Вугоршчына, але Бруна Баніфацый выправіўся на пропаведзь да іх з Кіеўшчыны, паколькі найбольш магутныя печанежскія рады былі, хутчэй за ўсё, на мяжы з уладаннямі Уладзіміра.

[6] Пад азначэннем «Гаспадар русаў» трэба разумець Вялікага Кіеўскага князя Уладзіміра Святаслававіча (каля 972 –1015), сына Святаслава Ігаравіча і Малушы Любячанкі, ключніцы-рабыні княгіні Вольгі. Пры Уладзіміры адбылося афіцыйнае прыняцце хрысціянства Кіеўскай Руссю.

[7] Бруна Баніфацый спявае тут відавочна грыгарыянскім напевам рэспансорый, які ўваходзіў у склад Літургіі гадзінаў і спяваўся пасля адпаведнага богаслужбовага чытання. Музыказнаўцы лічаць, што асабліва ўрачыстыя меладычна развітыя і працяглыя рэспансорыі (*responsoria prolixa*) спяваліся на Ютрані, падчас якой прадугледжваліся дзевяць чытанняў і адпаведна дзевяць рэспансорыяў. Рэспансорый, падобны да пададзенага ў лісце Бруна, змяшчаецца, напрыклад, у антыфанарыі з Кведлінбурга, перапісаным у першай палове XI ст. Тут на трохкротнае запытанне саліста-кантара «Пётр, ці любіш ты Мяне?» хор тройчы адказвае «Ты ведаеш, Пане, што я люблю Цябе!» Вельмі верагодна, што ролю кантара выконваў сам Бруна Баніфацый, а партыю хору — ягоныя спадарожнікі. Трохкротны зварот Езуса да Пятра азначаў перадачу яму духовай улады над Касцёлам і першынства сярод апосталаў. Апрача таго, Пётр як зверхнік апосталаў з'яўляецца яшчэ апекуном і заступнікам місіянераў. Магчыма таксама, што Бруна меў св. апостала Пятра сваім асабістым патронам. Вядома, напрыклад, што ў родным Квэрфуртскім замку ён асвяціў касцёл, адным з заступнікаў якога быў абраны св. Пётр. Таксама звяртае на сябе ўвагу тое, што ў тэксце ліста св. Пётр згадваецца аж 12 разоў. Тое, што на пачатку сваёй місіі да печанегаў Бруна спявае менавіта рэспансорый *Petre amas me*, павінна азначаць не толькі нагадванне пра абавязак прававeдаваць Евангелле, але і зварот да св. Пятра з просьбаю пра заступніцтва і дапамогу. (гл.: Карцовник В. Владимир Великий, Брунон Кверфуртский и григорианское пение в Киевской Руси // Старинная музыка. 2003. 1).

[8] Час адлічваецца тут паводле рымскага звычаю, калі светлая частка сутак (прыкладна ад 6-й да 18-й гадзіны) падзялялася на 12 гадзінаў, а цёмная (прыкладна ад 18-й да 6-й гадзіны) — на чатыры варты (вігіліі). Гэты звычай быў прыняты і Каталіцкім Касцёлам, напр., у адпраўленні Літургіі гадзінаў. Першая гадзіна дня адпавядала нашай шостай гадзіне раніцы. Трэцяя гадзіна — гэта прыкладна дзевятая гадзіна раніцы паводле нашага часазлічэння.

[9] Гэта значыць каля трэцяй гадзіны папалудні.

[10] Тут ідзе гаворка пра раду старэйшынаў, якая складалася з племяннной арыстакратыі, у супрацьпастаўленні сходу печанежскіх ваяроў.

[11] Хутчэй за ўсё, маюцца на ўвазе чатыры племені заходняга аб'яднання печанегаў.

[12] Даследчыкі згодныя ў тым, што гэтым закладнікам быў Тураўскі князь Святаполк Яраполчыч (каля 980–1019 г., тураўскае княжанне атрымаў ад айчыма — Уладзіміра Кіеўскага ў 988 г.), прыёмны сын князя Уладзіміра і родны сын Яраполка Святаслававіча. Тое, што гэта быў менавіта Святаполк Тураўскі, вынікае і з таго факту, што ў 10-я гады другога тысячагоддзя гэты князь меў цесныя сувязі з печанегамі падчас змагання за ўладу.

[13] Прусы — народ, які паводле паходжання займаў сярэдняе становішча паміж балтамі і славянамі, хоць некаторыя даследчыкі лічаць, што частка Прусіі была заселеная славянамі, блізкімі па мове і звычаях да беларусаў, а частка — балтамі, блізкімі альбо ідэнтычнымі сённяшнім летувісам. У IX — XVIII стст. яны засялялі тэрыторыю сённяшняй Калінінградскай вобласці Расіі і Вармінска-Мазурскага ваяводства Польшчы. У часы Бруна Баніфацыя і пазней, яшчэ ў XIII ст., да прускіх адносілі таксама землі Літвы-Беларусі.

гэтым дапамагаюць.

Але ў тым палягае ўсё зло, што ані кароль не мае даверу да Баляслава, ані ён да загневанага караля. Авохці нам, якія ж нешчаслівыя нашы часы! Пасля святога імператара Канстанціна Вялікага, пасля найлепшага ўзору веры Карла, ёсць цяпер той, хто праследуе хрысціяніна, і няма амаль нікога, хто б навяртаў паганца! Таму, о каролю, калі ты дасі мір хрысціянам і будзеш дзеля хрысціянства ваяваць супроць паганцаў, дык будзеш задаволены ў апошні дзень, калі, пакінуўшы ўсё, станеш перад аблічам Пана з тым меншым смуткам і большай радасцю, прыгадваючы, што больш зрабіў дабра. Няма чаго баяцца каралю, каб чалавек веры, помнячы пра беды, яднаўся з паганцамі. Толькі не дамагайся немагчымага: іншага, чым кароль, жадае наш князь. Гэты Баляслаў запэўнівае цябе, што павек цябе не пакіне, а ў зваяванні паганцаў заўсёды з вялікай руплівасцю будзе табе дапамагаць і ва ўсім ахвотна служыць. О якія выгоды і карысць былі б для абароны хрысціянства і навяртання паганцаў, калі б гэтак, як ягоны бацька Мешка з памерлым імператарам[23], так і сын Баляслаў жыў з табой, нашым каралём, які застаецца адзінай надзеяй свету!

Між тым хай не будзе схавана ад караля тое, што наш біскуп, якога разам са слаўным мніхам Родбэртам, якога ты ведаеш і якога я паслаў за мора свіям на абвяшчэнне Евангелля, — як праўдзіва апавялі прыбылыя веснікі, — ахрысціў, дзякуй Богу, самога гаспадара свіяў, жонка якога ўжо даўно была хрысціянкаю[24]. Неўзабаве ж, калі разам з ім тысяча людзей і сем плебеяў прынялі тую ж ласку, а іншыя, абураныя гэтым, паспрабавалі іх забіць, усе разам з біскупам на нейкі час адышлі, спадзеючыся зноў вярнуцца. Як толькі вернуцца назад веснікі пасланыя, каб даведацца пра іх стан і вяртанне, тады тое, што яны паведамяць, маючы гэта за абавязак як твой слуга, я пастараюся дакладна перадаць табе, каралю, які ўмацаваў мяне ў абвяшчэнні Евангелля.

Што больш? Ведай — і сведкам няхай будзе Хрыстус — што я, дзе толькі магу, як найвярнейшы прыхільнік стаю на тваім баку. І хоць не ўмею маліцца перад аблічам Пана, ды не перастаю благаць, каб благаславіў цябе Бог Збаўца, а ва ўсіх справах каб заўсёды была з табою спрыяльная ласка нашага Пятра. Ты ж не марудзь, калі можаш даць нейкую раду і дапамогу ў навяртанні люцічаў і прусаў, як прыстоіць пабожнаму каралю, надзеі свету, бо дзеля навяртання цвёрдых сэрцаў гэтых паганцаў мы павінны апрануцца ў натхненне Духа Святога і няспынна з падтрымкаю змагарнага Пятра прыкладаць на гэта ўсе намаганні і высілкі.

Бывай здаровы, каролю! Жыві сапраўды дзеля Бога, памятаючы пра добрыя справы, і памірай у старасці, у поўні цнотаў і дзён.

*З лацінскае мовы пераклаў Алесь Жлутка з выдання: Monumenta Poloniae historica = Pomniki dziejowe Polski. T. I. Wyd. A. Bielowski. Lwów, 1864. P. 224–228.*

---

[14] Насельнікі Вугоршчыны на ніжняй Тысе і Марошу.

[15] Гэта значыць да Баляслава Харобрага (967–1025 гг.), сына польскага князя Мешкі I і чэшскай князёўны Дуброўкі. З 992 г. ён — князь Польшчы, а ў канцы жыцця ў 1025 г. стаў першым каранаваным польскім каралём. Вялікую ролю адыграў у станаўленні Каталіцкага Касцёла ў Польшчы: пры ім было заснавана незалежнае ад немцаў Гнезненскае арцыбіскупства і мітраполія. Спрыяў місіям св. мучанікаў Адальбэрта-Войцеха і Бруна Баніфацыя. Так, Баляслаў выкупіў у прусаў парэшткі св. Адальбэрта і ўрачыста захаваў іх у Гнезне, святы стаў лічыцца патронам Польшчы. Баляслаў быў у саюзе са Святаполкам Тураўскім у ягоным змаганні за кіеўскі пасад і аддаў за яго сваю дачку.

[16] Маюцца на ўвазе люцічы (таксама вядомыя пад назваю вільцы ці велеты) — адна з групаў палабскіх славянаў, якія засялялі тэрыторыі на поўнач ад сённяшняга Берліна. Яны былі таксама ядром Велецкага племяннога аб'яднання, якое займала абшары паміж верхняй Одраю і Лабаю. Люцічы, нягледзячы на старанні немцаў, у часы Бруна Баніфацыя яшчэ заставаліся ў паганстве. У доўгай (1002–1018 гг.) вайне Баляслава Харобрага супраць Генрыка II былі хаўруснікамі апошняга. Некаторыя даследчыкі (напр., Ё. Шафарык, В. Пануцэвіч ды інш.) выводзяць ад наймення люцічаў назву «Літва».

[17] Сварожыч ці Сварог, паганскае божышча, якое ўшаноўвалі ўсходнія заходнія славяне, у тым ліку і вільцы-люцічы, з якімі быў у ваеннным хаўрусе Генрык II.

[18] Святы Маўрыцый — камандзір рымскага легіёна, які адмовіўся ваяваць супраць хрысціянаў. Быў забіты на загад імператара Максіміліяна ў другой палове III ст.

[19] Гэтак званая святая дзіда ці дзіда св. Маўрыцыя. У ёй, паводле падання, быў цвік, узяты з крыжа, на якім укрыжавалі Хрыста. Дзіда была адной з інсігніяў нямецкіх каралёў, пачынаючы ад Генрыка I (гады жыцця 876–936, з 936 г. кароль Усходне-Франкскага каралеўства). Папярэднік Генрыка II Ота III (нямецкі кароль, а з 996 г. імператар, гады кіравання 980–1002), з якім быў у прыязных саюзных дачыненнях Баляслаў Харобры, зрабіў копію гэтай дзіды, відаць, з дадаткам нейкай аўтэнтычнай часткі з нямецкага арыгіналу, і ўрачыста перадаў яе Баляславу Харобраму падчас устанаўлення Гнезненскай мітраполіі ў 1000 годзе. Абедзве дзіды захаваліся да нашага часу: нямецкая, якую адшукалі нацысты і выкарыстоўвалі як містычны сімвал моцы III Рэйху, цяпер знаходзіцца ў Вене, польская захоўваецца ў Кракаве.

[20] Тут Бруна згадвае няўдалую выправу ў 1005 г. Генрыка II на польскія ўладанні, у якой ён згубіў шмат рыцараў і, як піша кведлінбургскі хранікар, «вярнуўся назад з жалю годным войскам».

[21] Г.зн. Баляслава Харобрага.

[22] Пяць святых мучанікаў — гэта таварышы Бруна Баніфацыя па Пэрэйскай пустэльні (каля Равэнны ў Паўночнай Італіі), дзе ён быў у 1001–1002 гг., італійцы Ян і Бэнэдыкт ды іхнія славянскія паплечнікі Мацей, Крыстын і Ісак. Загінулі мучаніцкай смерцю ад рук разбойнікаў пад Казімежам (недалёка ад Гнезна) у 1003 ці ў 1004 годзе. Ім Бруна Баніфацый прысвяціў свой твор «Жыццё пяці братоў». У 1034 г. іх парэшткі былі перанесеныя ў Гнезна, а адтуль у 1038 г. забраныя ў Прагу. Разам з парэшткамі св. Адальбэрта-Войцеха, які загінуў ад рук прусаў у 997 г., з'яўляліся найважнейшымі рэліквіямі Гнезненскай мітраполіі.

[23] Маецца на ўвазе Ота I (нямецкі кароль, а з 962 г. імператар, гады кіравання 936–973).

[24] Пра місію да свіяў — шведаў (у арыгінале Suigis), выпраўленую Брунам, няма больш дакладных звестак. Імя біскупа невядомае, не сустракаецца ў іншых крыніцах і імя манаха Родбэрта. Жонка гаспадара свіяў — гэта, верагодна, дачка Мешкі I і сястра Баляслава Харобрага, якую выдаў яе за шведскага караля Эрыка Пераможнага, заключыўшы з ім мір. Сакс Граматык падае яе імя ў форме Сірыта, а Сноры Стурлусан называе яе «ганарыстай Сігрыдаю». Яна была хрысціянкаю і, відаць, паўплывала на свайго мужа, які таксама прыняў хрысціянства, але затым ізноў вярнуўся ў паганства. Ад яе нарадзіўся Олаф, знакаміты прапаведнік хрысціянства ў Швецыі. Місія, верагодна, магла мець і дыпламатычнае заданне: усталяванне шчыльнейшых адносінаў паміж Баляславам Харобрым і ягоным пляменнікам Олафам.

---

**Алесь ЖЛУТКА** нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветы). Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі». У яго перакладзе на беларускую мову друкаваліся паэзія Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.

Пётра Рудкоўскі

# «Крыжовы шлях» еўрапейскай свабоды

«Прысутнасць крыжа ў школьных памяшканнях з'яўляецца парушэннем права бацькоў на выхаванне сваіх дзяцей у адпаведнасці са сваімі перакананнямі і парушэннем рэлігійнай свабоды саміх навучэнцаў» — гэта змест пастановы Еўрапейскага суда па правах чалавека ў Страсбургу, выдадзенага 3 лістапада 2009 г. у адказ на апеляцыю, пададзеную грамадзянкай Італіі фінскага паходжання. Суд абавязаў італьянскі ўрад выплаціць жанчыне 5 тыс. еўра «за маральныя страты». На момант пісання гэтых радкоў ідзе працэс абскарджання італьянскім урадам пастановы страсбургскага трыбунала ў т.зв. Вялікай палаце.

Рашэнне еўрасаюзных суддзяў выклікала гучную палеміку ва ўсёй Еўропе. Гэты казус стаўся нагодай для ўзняцця пытанняў больш фундаментальнага значэння: у чым палягае духоўна-культурная тоеснасць Еўропы, што такое светапоглядная нейтральнасць публічнай прасторы і якую функцыю ў культуры могуць адыгрываць сімвалы, якія маюць рэлігійную генеалогію.

У прапанаваным чытачам артыкуле я б хацеў разважыць пытанне, якое з'яўляецца скразным для ўсіх гэтых дыскусій і палемік: *у якім стасунку знаходзяцца хрысціянская дактрына і этыка «адкрытага грамадства»?* Ці гэта ўзамавыключальныя, варожыя дактрыны, ці, можа, роднасныя і блізкія? Калі варожыя, то *што* ляжыць у аснове гэтай варожасці? А калі роднасныя, то адкуль столькі непаразуменняў паміж прыхільнікамі *open society* і *via christiana*?

### 1. Касцёл* — таталітарная арганізацыя?

Багаслоўскае вучэнне аб Касцёле, званае эклезіялогіяй, вучыць, што Касцёл — гэта *абраны народ*, што яго місія акрэсленая *святой гісторыяй* (званай таксама гісторыяй збаўлення), а галоўнай рысай гэтай місіі ёсць *месіянізм*, вера ў паўторны прыход на зямлю Збаўцы-Месіі і збаўленне чалавечага роду[1]. Вышэйпрыведзеная тэза ёсць агульнахрысціянскай: пад ёй падпісваюцца і каталікі, і праваслаўныя, і пратэстанты.

Гэтае вучэнне, аднак, можа гучаць скандальна для секулярнага ліберала. Карл Попер, аўтар манументальнай працы «Адкрытае грамадства і яго ворагі», падкрэсліваў, што *ідэя абрання*, *святая гісторыя*[2] і *месіянізм* — гэта сталыя атрыбуты т.зв. *замкнёнага грамадства* (*closed society*). А замкнёнае грамадства — гэта сітуацыя зняволення чалавечай адзінкі, падпарадкавання яе ўсёмагутнаму і ўсёпаглынаючаму ідалу калектыўнага Цэлага. Калі грамадства надзелена трансцэндэнтнай місіяй — аргументуе Попер — то гэта значыць, што мусіць існаваць «каста абраных» (каб весці грамадства ў «правільным» накірунку), чалавечая свабода мусіць быць зведзена да мінімуму (бо яна можа спарадзіць адхіленні ад прадвызначанай лініі), а інтэлектуальная дзейнасць мусіць быць паддадзеная дакладнаму кантролю.

Хоць навучанне Езуса Хрыста ўспрымалася Поперам як блізкае ідэалам *open society*, але ўсё ж сярэднявечны Касцёл (гэтаксама, як старажытны Ізраіль) кваліфікаваўся ім як прыклад замкнёнага грамадства[3]. Адносна Касцёла сучаснай пары Попер выказваўся значна больш мякка.

Аднак для многіх інтэлектуалаў ліберальнага толку Касцёл заўжды — і ў старажытнасці, і ў Сярэднявеччы, і ў сучаснасці — быў і застаецца «таталітарнай арганізацый». Вось некалькі красамоўных выказванняў:

«*Касцёл <...> — макіявелістычная арганізацыя, дзе ўлада на ўсіх узроўнях выконваецца па-дыктатарску*» і дзе існуе кантроль над «*ідэалогіяй, гэта значыць, паданнем веры, а ад вернікаў патрабуецца безумоўнае падпарадкаванне*»[4].

* *Гаворка тут будзе ісці ў першую чаргу пра Каталіцкі Касцёл. Аднак многія рэчы, якія будуць сказаны пра Касцёл, найпрост ці ўскосна тычацца і іншых хрысціянскіх канфесій.*

**Брат Пётра РУДКОЎСКІ ОП** — багаслоў, філосаф. Нарадзіўся ў 1978 г. у мястэчку Канвэлішкі, на Гродзеншчыне. У 2000 г. уступіў у дамініканскі Ордэн. Абараніў магістэрскую дысертацыю па багаслоўі ў дамініканскім калегіуме ў Кракаве і па філасофіі ў Ягелонскім універсітэце. Займаецца сацыяльнай этыкай і метадалогіяй навук, выкладае логіку і метадалогію ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце.

У Касцёле вярхоўную ўладу выконвае «*...святар-валадар, які здзяйсняе поўны кантроль як над адарваным тэалагічным дыскурсам, так і над легуценнай інтымнасцю пачуцця*»[5].

А вось сінтэтычная характарыстыка хрысціянскай рэлігіі (перадусім каталіцтва) у выданні аднаго з лібералаў-агностыкаў:

«*Сціслая дактрына, існаванне адзінага цэнтру, які мае права развіваць і інтэрпрэтаваць гэту дактрыну, надзеленага харызмай беспамылковасці ў справах веры і маралі, сістэма пакаранняў і ўзнагароджанняў за вернасць або нявернасць дактрыне, падзел на прававерных і ерэтыкоў, больш суровае трактаванне ерэтыкоў, чым іншаверцаў, крытыка абыякавасці адносна дактрыны, кансерватызм у стасунку да традыцыі, неахвотнае прызнаванне сваіх памылак у мінулым і ўжыванне адносна ўласнай дактрыны такіх фармулёвак, як вечная філасофія, класічная філасофія, адзіная і найвышэйшая ісціна*»[6].

Да ўсяе гэтай сімфоніі (не буду пярэчыць, калі хтось скажа: какафоніі) суворых галасоў наконт Касцёла можна дадаць голас айчыннага крытыка хрысціянства Валянціна Акудовіча. Яго голас яшчэ больш трывожны, бо сягае саміх фундаментаў хрысціянскае веры: «Бог, — кажа Акудовіч, — гэта татальная параза розуму. Ён — межавы камень, які пазначае апошнюю магчымасць мыслення, тую скрань, за якой чалавечаму розуму не дадзена абазнацца»[7].

Абстрагуючыся ад эмацыйнай нагрузкі прыведзеных выказванняў, закіды агностыкаў-лібералаў на адрас Касцёла (і Бога) можна падагульнена сфармуляваць наступным чынам: *Касцёл, дый хрысціянства ўвогуле, жыве паводле прынцыпаў замкнёнага грамадства, прапагандуе гэтыя прынцыпы навонкі і як такі ўяўляе пагрозу для ліберальнага этасу*. Алергія на хрысціянскія сімвалы, антыклерыкалізм, барацьба з «рэлігійнай экспансіяй» — усё гэта спрычынена не столькі злой воляй, колькі пэўным *спосабам бачання*, якое ад часоў Асветніцтва старанна культывуецца і прапануецца (каб не сказаць: навязваецца) публічнай думцы. «Таталітарнае аблічча» Касцёла ёсць інтэгральным элементам Вялікага Аповеду пра Вялікія Дасягненні Сучаснага Свету. І кожны, хто хоча інтэгравацца ў гэты рознакаляровы Сучасны Свет і ўвайсці ў велічны хорам Навукі, Тэхнікі і Свабоднае Думкі, мусіць асвоіць азбуку Вялікага Аповеду і паўтараць разам з усімі «асвечанымі», што *Касцёл нёс цемру і сеяў страх, а Праметэй новага часу — Атэістычны Секулярызм — даў людзям святло і свабоду*. І нічога дзіўнага ў тым, што мноства людзей добрай волі, прасякнутых гэтай «ісцінай», змагаюцца з хрысціянскімі сімваламі і маюць пры гэтым адчуванне, што спрычыняюцца да эпахальнай перамогі святла і свабоды над цемрай і зняволеннем.

У адказ на гэты стан рэчаў можна пайсці двума шляхамі. Можна распачаць працэдуру люстрацыі Праметэя, гэта значыць, паставіць пытанне, наколькі секулярна-атэістычная плынь была цягам гісторыі вернай ідэалам рацыяналізму і свабоды. У прыватнасці, чаму ў часе Французскай рэвалюцыі ўсяго за 2 гады гэты Праметэй-асветнік забіў 36000 чалавек, прычым каля 12000 — без суда і следства? І чаму ў гэты перыяд найбольш крыважэрнымі былі менавіта радыкальныя атэісты — гебертыны? Чаму ў атэістычных імперыях XX ст. усякае іншадумства выкаранялася больш жорстка і татальна, чым у сярэднявечных азіяцкіх сатрапіях? Чаму ў гэтых імперыях узнікла нават пачварная спецыялізацыя — узрыванне сакральных будынкаў, якія нярэдка былі бясцэннымі помнікамі культуры і гонарам абывацеляў?

Думаю, аднак, што не варта занадта доўга спыняцца над маральнымі «дасягненнямі» ваюючага атэізму, тым больш, што ён ужо даўно з'яўляецца *persona non grata* ў сямействе ідэалаў ліберальнага секулярызму і сярод лібералаў мы можам знайсці хутчэй хаўруснікаў у палеміцы з радыкальнымі атэістамі, чым праціўнікаў.

Намнога больш важным мне падаецца другі шлях, а менавіта: *перапрачытанне* ўласнай дактрыны. У працэсе гэтага чытання-перачытвання мы можам са здзіўленнем адкрыць, што шэраг ідэй *адкрытага грамадства* сваімі карэннямі сягае Евангелля. І што сам лібералізм, як такі, ёсць своеасаблівым пераказам новазапаветнай этыкі, хоць змест гэтага пераказу можа ствараць уражанне, што ён прайшоў праз каналы «глухога тэлефону».

Такім чынам, у далейшай частцы артыкула паспрабую ў вялікім скарачэнні прадставіць некаторыя евангелічныя топасы, у якіх можна заўважыць віткі каранёў сучаснай ліберальнае думкі, а потым указаць на «ўнутраную» прычыну напружання паміж хрысціянствам і лібералізмам, якая накладаецца на вонкавую (уплыў секулярысцкага Вялікага Аповеду). Перад тым, аднак, як перайду да топасаў, зраблю некалькі зацемак адносна *дзвюх канцэпцый свабоды*. Гэта будзе нам патрэбна для таго, каб лепш зразумець і больш кампетэнтна ацаніць закіды лібералаў на адрас хрысціянства.

## 2. Дзве канцэпцыі свабоды

Ідэя асабістай свабоды чалавека прайшла доўгую эвалюцыю (калі ўвогуле гэты шлях можна разглядаць у эвалюцыйных катэгорыях). Ужо на світанні грэцкай паэзіі з'явілася плеяда паэтаў, якія пачалі прасоўваць ідэі вызвалення ад тыраніі (напрыклад, Алкаёс з вострава Лесбас, VII–VI стст. да н.э.) і рабіць націск на індывідуальную свабоду (напрыклад, Сафо з таго ж самага Лесбасу, Архілох з Парасу, Мімнермос з Калафону і інш.).

У Новай гісторыі праблематыка свабоды аформілася ў адносна самастойны інтэлектуальны дыскурс, які найбольш вядомы пад назовам *лібералізму*.

Галоўнай дылемай дыскурсу свабоды сталася праблема суаднясення г.зв. *негатыўнай свабоды* (вольнасці ад рознага роду прымусу і абмежаванняў) і *пазітыўнай свабоды* (свабоды як здольнасці да канструктыўнага дзеяння). Праблема суіснавання негатыўнай і пазітыўнай свабоды цягам часу прыняла вельмі вострую форму. Шматлікія рэвалюцыі, вызваленчыя рухі і эмансіпацыйныя ідэалогіі XIX ст. (нярэдка шляхетныя ў сваёй задуме) часцяком фармулявалі свабоду як *гатоўнасць аддацца агульнай справе*. Інакш кажучы, ты свабодны не тады, калі дзейнічаеш *sua sponte*, згодна са сваёй індывідуальнай воляй, а тады, калі падпарадкоўваешся найвышэйшай калектыўнай Волі. Змагацца за вызваленне свайго народу, свайго класу, сваёй рэлігіі і г. д. — вось сапраўдная свабода.

Адразу можна заўважыць, што так разуметая свабода хавае ў сабе пэўную небяспеку — пазбаўленне чалавечай асобы індывідуальнасці і ператварэнне яе ў элемент калектыўнага арганізму. Трагічная гісторыя мінулага стагоддзя надзвычай яскрава паказала, наколькі рэальнай можа быць гэтая небяспека.

Гэтая сумная акалічнасць прывяла некаторых лібералаў да пераканання, што сама ідэя пазітыўнай свабоды ёсць ад пачатку небяспечнай, і што яна павінна быць раз і назаўсёды выкрэсленая з ліберальнага лексікону.

*Пазітыўная свабода,* — піша ў «Дзвюх канцэпцыях свабоды» Ісая Берлін, — *гэта сітуацыя, калі цэлае, шырэйшае ад чалавечага індывідуума (племя, раса, дзяржава, народ, канфесійная супольнасць), прызнае сябе* найвышэйшым, сапраўдным Я *і імкнецца сваю калектыўную, то бок,* арганічную, *волю навязаць сваім непаслухмяным чальцам, каб гэткім чынам даць ім* найвышэйшую *свабоду*[8].

Пад уплывам аўтарытэтнага голасу Ісаі Берліна сучасныя лібералы пачалі трактаваць свабоду як *вольнасць-ад*. Мінімум дзяржавы, мінімум Царквы, мінімум установаў... Неўзабаве гэты «мінімум» перакінуўся і на больш «далікатныя» сферы: мінімум нацыянальнай культуры, мінімум рэлігіі... А потым, гэта значыць цяпер: мінімум духоўных каштоўнасцяў, мінімум гістарычнай памяці, мінімум праўды...

Чаму *мінімум*? Каб раптам заяўленая занадта гучна каштоўнасць не спарадзіла ў кім-небудзь «адчування прымусу», а паказаны ў публічным месцы сімвал не пашкодзіў гэтаму камусьці органу зроку.

Мы жывем у эпоху этычнадухоўна-рэлігійнага мінімалізму. Парадаксальна, аднак тое, што ў працэсе гэтай апантанай «мінімалізацыі» разрастаецца да непамерных велічыняў тое, супраць чаго лібералы змагаліся першапачаткова: дзяржаўна-бюракратычная машына. Еўрасаюз — «паўвостраў свабоды» — не па днях, а па гадзінах разрастаецца інстытуцыянальна і ператвараецца ў бюрактратычнага монстра.

## 3. Хрысціянская канцэпцыя свабоды

А што робіцца з ідэяй свабоды, калі яна трапляе ў абсягі хрысціянскага светапогляду? Ці сапраўды хрысціянства дэфармуе і знішчае гэтую ідэю, як лічаць некаторыя інтэлектуалы-агностыкі?

Хрысціянства — гэта прастора, у якой дыскурс свабоды з'явіўся нашмат раней, чым паўстала навачасная ліберальная думка. *«Дзеля свабоды вас вызваліў Хрыстус», — пераконвае св. Павел галатаў (5, 1)*[9], а сам Хрыстус «праграму» сваёй дзейнасці фармулюе ў словах: *«Прыходжу, каб вязням абвяшчаць свабоду» (Лк 4, 18)*.

Сам стыль жыцця Заснавальніка хрысціянства пазначаны палемікай з фарысейскім этасам. Хрыстус рашуча крытыкуе перавагу закону над чалавечым дабром (пар. спрэчку пра суботу[10]) і дамінацыю рытуальнага кодэксу над чалавечай свабодай[11]. Хрыстус не асудзіў чужаложніцы[12], хоць шанаваны габрэямі Майсееў закон прадугледжваў каменаванне[13]. І што болей, расказваючы прыпавесць аб міласэрным самарыцяніне[14], Ён ускосна супрацьпаставіўся прэтэнзіям габрэяў на этнарэлігійную выключнасць.

Такім чынам, бачым няўзброеным вокам, што Езус прасоўвае ідэі: 1) першынства асобы перад нормамі, звычаямі і аўтарытэтамі нават такога фармату, як Майсей; 2) успрыманне іншых людзей не праз прызму іх культурнай, рэлігійнай ці палітычнай прыналежнасці, а выключна зыходзячы з прэзумпцыі чалавечай годнасці; 3) антыэксклюзівізм — выйсце па-за межы свайго этнасу ці рэлігійнай групы; 4) прызнанне, што нават вялікі грэшнік альбо злачынца мае чалавечую годнасць.

Хрысціяне ад пачатку імкнуліся жыць, зыходзячы з гэтых

прынцыпаў. Часам гэта ўдавалася лепш, часам горш. Патрэбны былі, аднак, доўгія стагоддзі, пакуль людзі пачалі спрабаваць класці гэтыя прынцыпы ў аснову грамадска-дзяржаўнага жыцця. Гэтыя стагоддзі аказаліся настолькі «доўгімі», што многія нават прызабылі, адкуль гэтыя прынцыпы родам.

Але ёсць яшчэ адна важкая ідэя-прынцып, якая месціцца ў Евангеллі. Гэта ідэя *metanoia*, навяртання-перамянення. Унутры хрысціянства яна ляжыць у аснове ўсіх астатніх ідэяў. Без асэнсавання свайго сапраўднага стану, змены мыслення і навяртання на лепшае немагчымае новае жыццё. І трэба сказаць больш: *без навяртання немагчыма свабода*.

Вось жа ў сучасным ліберальным дыскурсе гэтая ідэя — *metanoia* — выцеснена спрэчнай дактрынай пра «прыродную дабрыню» і «прыродны эгаізм» чалавечай асобы. Першая ідэя паходзіць ад Ж.-Ж. Русо, другая — ад Т. Гобса, а абедзве ў нейкім дзіўным сімбіёзе прысутнічаюць у ліберальным веравызнанні. Лібералы блытаюцца, адказваючы на пытанне, ці чалавек ёсць «па натуры» добры ці нядобры, але ў адказ на пытанне пра патрэбу навяртання бадай аднадушна будуць пацiскаць плячыма: *а навошта*? Чалавек па натуры добры, дык навошта навяртанне? Альбо: чалавек па натуры эгаіст, а супраць натуры ж не пойдзеш.

Папа Ян Павел II у энцыкліцы *Veritatis splendor* (Святло ісціны)[15] настойвае на тым, што свабода не можа быць адарваная ад ісціны. Свабода не можа быць абсалютнай, яна мусіць быць абумоўленая *ісцінай чалавечага быцця*[16].

*Свабода, абумоўленая ісцінай*... Вось унутраная прычына напружання паміж лібералізмам і хрысціянствам. Абумоўленасць ісцінай... Няўжо не чуеце тут подыху канцэпцыі пазітыўнай свабоды, ад якога так старанна намагаўся пазбавіцца Ісая Берлін? Так, Папа прасоўвае непапулярную ў ліберальным свеце ідэю аб'ектыўнай праўды і абумоўлення ёю чалавечай свабоды. На гэтай падставе Ян Валенскі, польскі ліберал-агностык, праводзіць паралель паміж папскай канцэпцыяй свабоды і канцэпцыяй Гегеля: «У Гегеля чалавечая свабода азначае ўдзел у свабодзе Абсалюту, а ў энцыкліцы азначае ўдзел у свабодзе Бога»[17]. Адзначу, што для Попера Гегель быў адным са штандаравых прадстаўнікоў этыкі *замкнёнага грамадства*.

Ліберальныя агностыкі маюць вялікую лёгкасць асацыявання выказванняў Папы дый увогуле хрысціянскага вучэння з дактрынамі «ворагаў» адкрытага грамадства. Тут аналогія з Гегелем, там — з інквізітарам Дастаеўскага, а вунь там — з камуністычным генсекам. Часта, аднак, паўстае сумнеў, а ці спрабавалі яны на момант задумацца над сэнсам фармуляваных Папам ці Настаўніцтвам Касцёла ідэяў. Мо, праведзеныя паралелі павярхоўныя і паспешлівыя?

Ян Павел II, прэзентуючы хрысціянскую канцэпцыю свабоды, зыходзіць з таго, што вызваленне ад «вонкавых» абмежаванняў (напрыклад, ад навязанай ідэалогіі, усеўладдзя дзяржавы, інстытуцыйнай бюракратыі і г.д.) будзе мець марны вынік, калі яно не суправаджаецца *ўнутраным вызваленнем*. Грамадства не стане свабодным, калі яно будзе складацца з асобаў, апантаных нізкімі інстынктамі і пазбаўленых маральнага хрыбта. Перадоленне ўнутранага зла — вось неабходная перадумова дэмакратыі. Грамадства, якое складаецца з індывідуалістаў-эгаістаў, вельмі хутка ператвараецца ў тыранію, бо ў такой сітуацыі зазвычай з'яўляецца якісь адзін найбольш мускулісты Эгаіст, які здольны будзе паспяхова і надоўга схапіць і трымаць за морду іншых, менш мускулістых эгаістаў. Механізм ператварэння дэмакратыі, выхалашчанай з каштоўнасцяў (ахлакратыя), выдатна апісаў Платон у восьмай кнізе *Politeia*.

Прадстаўленая ў папскай энцыкліцы канцэпцыя свабоды сфармулявана згодна з духам Хрыстовага Евангелля, дзе пасыл пра чалавечую свабоду цесна й непарыўна звязаны з заклікам да згаданай вышэй *metanoia*. Трэба, аднак, заўважыць, што парасткі гэтай ідэі выявіліся ў еўрапейскай культуры ўжо ў дахрысціянскую пару. Прыкладам, Сакрат навучаў, што свабода ёсць свайго роду сталасцю (*eleutheria ekkrateia estin*), а тое, наколькі чалавек свабодны, залежыць ад таго, наколькі развіты яго духоўныя здольнасці. Крыху пазней стоікі ідэю свабоды звязвалі з ідэяй *oikeiosis*, што можна перакласці як «ператварэнне сваёй натуры ў дом для сябе», «адамаўленне (асваенне) уласнай натуры».

Трэба прызнаць, што і сярод ліберальных агностыкаў ёсць тыя, хто ўсведамляе вагу ўнутранага вызвалення. Нядаўна памерлы Лешак Калакоўскі, экс-марксіст, пісаў: «Тое, што свабоду мы здабываем шляхам паслухмянасці праўдзе, проста азначае, што мы вызваляемся ад уласнага зла». І далей: «Канцэпцыя свабоды, прадстаўленая ў *Veritatis splendor*, скіраваная супраць экзістэнцыялісцка-ніцшэанскай задумы, згодна з якой чалавек існуе сваёю ўласнаю свабодаю і з гэтай свабоды адвольна стварае крытэры дабра і зла»[18].

Гэтае выказванне наводзіць на думку, што «пазітыўная свабода» і «негатыўная свабода» не толькі не процiпастаўляюцца адна адной, а выступаюць як два аспекты той самай з'явы: *свабоды духоўна развітага чалаве-*

*ка*. Паслухмянасць праўдзе і вызваленне ад унутранага зла — гэтыя моманты і абумоўліваюць тое, што Сакрат называў *ekkrateia* (сталасць), стоікі — *oikoiosis* (асваенне ўласнай натуры), а хрысціянскае багасloўе — *metanoia* (унутранае перамяненне, навяртанне).

Многія каментатары *Veritatis splendor* настолькі канцэнтраваліся на крытычнай частцы разважанняў аб свабодзе (дзе Папа крытыкуе тэндэнцыі да абсалютызацыі свабоды), што не заўважылі той часткі — значна большай, — дзе Папа пры дапамозе багаслоўскай аргументацыі паказвае веліч і каштоўнасць чалавечай свабоды. «Чалавек надзелены надзвычай шырокай свабодай, — чытаем у энцыкліцы, — ён можа спажываць плады *з кожнага дрэва гэтага саду*»[19]. Маецца на ўвазе вядомы нам з Кнігі Быцця сад Эдэм, міфічнае месцазнаходжанне Адама і Евы перад грэхападзеннем. «Але гэтая свабода, — дадае Папа, — усё ж абмежаваная: чалавек павінен спыніцца перад дрэвам *спазнання дабра і зла*».

Алегорыя Эдэмскага саду дазваляе нам увайсці ў багаслоўскае вымярэнне свабоды. Мноства дрэваў у садзе сімвалізуе мноства выбараў, якія чалавек можа прыняць або не прыняць. Пэўны выбар пацвярджае і павялічвае чалавечую свабоду, а нават больш: жыццё ў свабодзе ёсць свайго роду праслаўленнем Бога Стваральніка. Яму прыемна бачыць чалавека, г. зн. сваё любаснае стварэнне, свабодным. І толькі адзін выбар — выбар плоду з «дрэва спазнання дабра і зла» — мае драматычныя наступствы.

Тут мы можам заўважыць вялікую асіметрыю паміж «сферай забароненага» і «сферай свабоды»: гэтая другая сфера нашмат большая, а нават бясконцая, у параўнанні з першай. Але мы заўжды можам памяняць прапорцыі. Калі чалавек абірае хлусню і насілле як спосаб быцця ў гэтым свеце, то тым самым заганяе сябе ў рабства: аднойчы схлусіўшы, ён становіцца закладнікам хлусні, аднойчы забіўшы, ён атручвае самога сябе атрутай зла, аднойчы скраўшы, ён пачынае жыць у пастаянным страху перад самім сабой. Зло мае сваю логіку, жорсткую і згубную логіку. Трапіўшы ў пастку зла, даводзіцца альбо падпарадкавацца гэтай логіцы, альбо вызваліцца ад яе. Хрысціянства прапануе другі шлях, як больш перспектыўны.

* * *

Крыж, як сімвал і як элемент культурнай спадчыны, мае цэлы комплекс значэнняў. Перадусім ён выражае праўду чалавечага быцця. Чалавек — гэта кволая істота, надзеленая, аднак, велізарным духоўным патэнцыялам, які дазваляе яму перамагаць. Перамагаць і сябе, і абставіны, і сілы зла. Тое, што крыж выражае глыбокую праўду пра чалавека, было відавочным для Карла Г. Юнга, заснавальніка аналітычнай псіхалогіі, аднаго з найвялікшых знаўцаў чалавечай прыроды. Гэтаму навукоўцу-агностыку крыж не толькі не замінаў, але якраз дапамагаў адкрываць чалавечыя глыбіні.

Еўрапейскія леваліберальныя інтэлектуалы перастараліся, выгнаўшы праўду з ліберальнага светапогляду. Прычым выгналі яе, скажам так, «за вочы»: позірк *праўды* сапраўды часам бывае патрабавальны. Лібералам здавалася, што, пазбягаючы строгага позірку *праўды*, яны мацуюць фундаменты адкрытага грамадства, але яны не заўважылі, што робяць нешта адваротнае, ігнаруючы нават перасцярогу галоўнага ліберальнага гуру, Карла Попера: «Рэлятывізм (які сцвярджае, што няма аб'ектыўнае праўды) вядзе да найгоршых наступстваў у грамадскіх паводзінах». А ў іншым месцы яшчэ больш бескампрамісна: «Рэлятывізм — гэта найбольшае злачынства інтэлектуалаў»[20].

---

[1] Пар. *Катехизис Католической Церкви*. — Москва: Культурный центр Духовная библиотека 2001. 769–776.

[2] «Святыя гісторыі», вызнаваныя ў паасобных рэлігіях, былі для Попера разнавіднасцю *гістарыцызму*, тэзы аб існаванні гістарычнага наканавання, адназначнай скіраванасці ходу чалавечай гісторыі і магчымасці пазнання гэтага наканавання.

[3] Karl R. Popper. *Społeczeństwo otwarte i jego wrogowie*. Tom I. Tłum. H. Krahelska, oprac. A. Chmielewski. — Warszawa 1993. S. 38 & Tom II. S. 30—32.

[4] Bohdan Chwedeńczuk. *Kościół i kryzys państwa. Dyskusja redakcyjna*. // «Bez dogmatu», 1994 luty.

[5] Jacek Żychowicz. *Dlaczego nie chcę być zbawiony*? // «Bez dogmatu», 1994 styczeń.

[6] Jan Woleński. *Młot na laickich racjonalistów*. // «Tygodnik Powszechny». 4 września 1994.

[7] Валянцін Акудовіч. *Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека*. — Менск: БГАКЦ, 1998.

[8] Isaiah Berlin. *Dwie koncepcje wolności*. Wybór i opracowanie J. Jedlicki. — Warszawa 1991. S. 130–131.

[9] *Біблія. Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе. Пераклад Васіля Сёмухі*. — World Wide Printing Duncanville, USA, 2002.

[10] Гл.: Лк 6, 1–5; 13, 10–17.

[11] Гл.: Мц15, 1–9.

[12] Гл.: Ян 8, 1–11.

[13] Гл.: Лев 20, 10; Дрг 22, 22.

[14] Гл.: Лк 10, 30–37.

[15] Joannes Paulus II. *Litterae encyklicae cunctis catholicae Ecclesiae episcopis de quibusdam questionibus doctrinae moralis Ecclesiae* // «Acta Apostolicae Sedis. Commentarium officiale» 9 Decembris, 1993. Далей будзе ўжывацца скарачэнне «VS» (Veritatis splendor).

[16] Гл. VS 32 і 36 (пункты).

[17] Jan Woleński. *Wolność w «Veritatis splendor»*. // «Znak», 1993/11.

[18] Leszek Kołakowski. Prawda i wolność, co pierwsze? // «Znak», 1994/3. S. 72.

[19] VS 35.

[20] Karl R. Popper. Tolerancja i intelektualna odpowiedzialność. // Tenże. «W poszukiwaniu lepszego świata». Tłum. A. Malinowski. — Warszawa 1997. S. 18.

# АЗДАРАЎЛЯЮЧЫ ЦЕЛА, ЛЯЧЫЦЬ ДУШЫ



Мануэль Гомез-Морэно Гонзалез.
Св. Ян Божы, які ратуе хворага з агню. 1880 г.

Сёлета адзначаецца чатырохсотгадовы юбілей прысутнасці баніфратаў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай, землі якой складалі Польска-літоўскую правінцыю супольнасці. На жаль, цяпер на гэтых землях ужо няма кляштараў баніфратаў, але ў Польскай правінцыі працуюць тры браты беларускага паходжання: брат Эмануэль (навіцый) — Антоні Юран з парафіі святых Сымона і Алены ў Мінску, брат Юры (навіцый) — Віктар Барцэвіч з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне, брат Атаназы — Юры Яскевіч з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Адэльску. У Польшчы працуе вядомы сваімі медыцынскімі парадамі ўжо пажылы брат аблат (без законных шлюбаў) Ян Грандэ — Юры Маеўскі, які паходзіць з вёскі Быцень каля Слоніма. Пасля прыходу бальшавікоў на заходнебеларускія землі ў 1939 годзе яго сям'я была выслана ў Сібір. Пасля вызвалення Юры трапіў у Варшаву і ў 1978 годзе далучыўся да баніфратаў. Пасля распаду Савецкага Саюза кангрэгацыя рабіла спробы вярнуцца на Беларусь, але безвынікова. Толькі ў Віцебску на тэрыторыі парафіі св. Антонія ў доме састарэлых была адчыненая капліца св. Яна Божага, у якой працуюць сёстры-служабнічкі на чале з Антоніяй Тарноўскай. Магчыма, што з цягам часу, калі будуць узнікаць новыя пакліканні, браты міласэрнасці вернуцца на Беларусь.

Пачаткі шпітальнай справы братоў на былых землях Рэчы Паспалітай звязаныя з дзейнасцю рэлігійных кангрэгацый і супольнасцяў і асабліва са шпіталямі. Гэтыя арганізацыі займаліся прытулкамі, харчаваннем і адзеннем, паслугамі для дарослых і дзяцей, бяздомных і калекаў. Кляштарныя шпіталі-прытулкі насілі назву «гасцінных дамоў».

Ад самага пачатку свайго існавання шпітальная кангрэгацыя святога Яна Божага стала вельмі папулярнай дзякуючы сваёй дабрачыннай дзейнасці. Гэта была адзіная мужчынская манаская кангрэгацыя, якая ў асноўным займалася служэннем хворым і асабліва псіхічна хворым. У гэтай галіне медыцыны баніфраты з даўніх часоў працавалі з вялікім поспехам. Доктар Ротэ ў «Нарысе аб справах псіхіятрыі ў Польшчы» (1893 г.) піша: «З пачатку дзейнасці братоў міласэрнасці можна цвёрда сказаць, што нашых няшчасных вар'ятаў сталі лічыць сапраўды хворымі людзьмі, праца баніфратаў зрабіла пераварот у галіне медыцыны, які да гэтага часу з'яўляецца неацэнным дасягненнем, становіцца пачаткам новай эпохі ў гэтай сферы». Кангрэгацыя зрабіла істотны ўнёсак у гуманізацыю медыцынскай апекі дзякуючы цэласнаму падыходу да хворых паводле жадання яе заснавальніка, «аздараўляючы цела, лячыць душы», па задуме якога браты павінны клапаціцца не толькі пра фізічнае здароўе, але перадусім пра захаванне чалавечай годнасці хворых і церпячых. Баніфраты таксама вядомыя як знаўцы лекавых зёлак.

Шпітальная кангрэгацыя святога Яна Божага (лац. *Ordo Hos-*

*pitalarius sancti Joannis de Deo,* скарочана — *OH*), якую ў Польшчы называюць супольнасцю баніфратаў, узнікла ў Гранадзе (Іспанія) у сярэдзіне XVI стагоддзя як працяг дабрачыннай дзейнасці святога Яна Божага. Ён нарадзіўся ў 1495 годзе ў Мантэмор-о-Нова (Партугалія) і памёр у Гранадзе 8 сакавіка 1550 года. Гісторыя жыцця і дзейнасці гэтага святога — яскравае сведчанне велічы чалавека, які, нягледзячы на неспрыяльны жыццёвы досвед, дзякуючы ласцы Божай пераадолеў уласны эгаізм і дасягнуў найвышэйшай ступені гераічнай хрысціянскай любові да бліжняга. Пасля 44 гадоў вірлівага жыцця, поўнага трагічных здарэнняў, доўгіх вандраванняў і пошукаў (васьмігадовым хлопчыкам Ян уцёк з роднай хаты, рос на чужыне, прымаў удзел у двух вайсковых паходах, перажыў глыбокае расчараванне, вярнуўшыся дадому, надоўга стаў нявольнікам у Афрыцы, нарэшце застаўся ў Гранадзе гандляром кнігамі). Пад уплывам Божага слова ён перажыў раптоўнае навяртанне, у выніку чаго на 4 месяцы трапіў у каралеўскі шпіталь для псіхічна хворых. Там ён адчуў пакліканне да служэння хворым і ўбогім. Выйшаўшы са шпіталя, пры падтрымцы свайго духоўнага кіраўніка Яна з Авілы, пад чыім уплывам ён і перажыў навяртанне, у 1539 годзе Ян заснаваў уласны шпіталь у Гранадзе і там да канца жыцця з хрысціянскай міласэрнасцю служыў хворым пакінутым людзям. Жывучы як жабрак, ён нястомна хадзіў па вуліцах Гранады і вандраваў па ўсёй Андалусіі, каб за сродкі, сабраныя такім чынам, клапаціцца пра хворых у сваім шпіталі, стаўшы жывым вобразам евангельскага самарытаніна. Сёння святы Ян Божы — галоўны і надзвычай шаноўны апякун Гранады.

У 1572 годзе папа Пій V зацвердзіў існаванне супольнасці братоў, якія верна працягвалі справу, распачатую святым Янам, пад назваю Шпітальнай кангрэгацыі святога Яна Божага, названай у народзе «супольнасцю братоў міласэрнасці», і таксама рэгулу св. Аўгустына з абавязкам складання, апрача трох звычайных законных шлюбаў (чыстасці, убоства, паслухмянасці), асаблівага чацвёртага шлюбу — шпітальнага (гасціннага) — шлюбу служэння хворым і ўбогім. З тых часоў Шпітальная кангрэгацыя, усведамляючы дар, атрыманы ад Бога ў Касцёле праз пасрэдніцтва святога Яна Божага, узіраючыся на Езуса Міласэрнага з Евангелля, развівае ў свеце сваю апостальскую дзейнасць сярод церпячых.

Супрацоўнікі кангрэгацыі святога Яна Божага працягвалі распачатую ім справу. За 20 гадоў пасля смерці заснавальніка браты арганізавалі тры шпіталі ў Іспаніі. У 1584 годзе яны набылі кляштар бэнэдыктынак на выспе Тыберына ў Рыме і зрабілі з яго шпіталь (з таго часу там знаходзіцца сядзіба Генеральнай Курыі кангрэгацыі). Вельмі хутка супольнасці баніфратаў з'явіліся ў розных краінах Еўропы і ў калоніях.

У Польшчы супольнасць братоў міласэрнасці з'явілася дзякуючы баніфрату з Вены, прыватнаму лекару караля Фердынанда II, брату Габрыэлю (Каміла, граф Фэррары). Нашчадак знакамітага італьянскага роду, брат Габрыэль быў не толькі адным з самых вядомых лекараў, але і аўтарам неацэнных трактатаў па медыцыне і таксама заснаваў некалькі шпіталяў. Кракаўскі каралеўскі двор выклікаў яго да ложка цяжка хворага караля Жыгімонта III Вазы, і праз некаторы час лекар здолеў паставіць польскага манарха на ногі. Удзячныя жыхары Кракава ў якасці ўзнагароды за ўратаванне жыцця свайго караля вырашылі запрасіць братоў міласэрнасці ў горад. У 1609 годзе ад заможнага гандляра Валяр'яна Мантэлюпі (Ваўкагорскага) супольнасць атрымала ў горадзе будынак на скрыжаванні вуліцаў св. Яна і св. Марка, дзе змяшчаліся кляштарныя памяшканні, шпіталь на 12 месцаў, а таксама касцёл святой Уршулі. Адданасць і самаахвярнасць братоў у служэнні хворым і церпячым, дасведчанасць і кампетэнтнасць у медыцыне, а таксама выкарыстанне сучасных метадаў лячэння выклікалі да супольнасці ўсеагульную павагу і ўдзячнасць. У Польшчы братоў сталі менаваць баніфратамі (лац. «*boni fratres*» — добрыя браты). Натхнёныя харызматам братоў міласэрнасці, у кангрэгацыю ў вялікай колькасці пачалі ўступаць маладыя людзі рознага паходжання. Магнаты і заможная шляхта актыўна станавіліся фундатарамі кляштараў і шпіталяў для іх. Баніфраты дапамагалі не толькі мірным людзям, якія асабліва моцна пакутавалі падчас шматлікіх у XVII стагоддзі эпідэмій, але працавалі таксама і на палях змаганняў, дзе нярэдка плацілі жыццём за сваю ахвярнасць. У 1633 годзе была створаная польска-літоўская правінцыя Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі.

У XVII — XVIII стагоддзях на тэрыторыі Рэчы Паспалітай узнікла 19 кляштараў і шпіталяў (13 у Польшчы і 6 у Вялікім Княстве Літоўскім). Пасля Кракава былі заснаваныя наступныя кляштары і шпіталі: па фундацыі вялікага каралеўскага маршалка Мікалая Зэбжыдоўскага — у Зэбжыдовічах (1611), па фундацыі кракаўскага каноніка (пасля Плоцкага біскупа і Гнезненскага арцыбіскупа) Генрыка Фірлея — у Пултуску (1615) і

Ловічу (1626). Наступным быў кляштар у Вільні, закладзены ў 1635 годзе Віленскім біскупам Абрагамам Войнам (кляштар і шпіталь дзейнічалі да 1843 года). Браты зноў вярнуліся ў Вільню ў 1924 годзе, а ў 1946 годзе апошні баніфрат мусіў пакінуць горад.

У 1639 годзе ксёндз Балтазар Тышка паклікаў братоў у Луцк, што на Валыні, дзе пабудаваў для іх касцёл святой Марыі Магдалены. Баніфраты заснавалі тут шпіталь і апекаваліся псіхічна хворымі людзьмі. Каб утрымліваць кляштар і шпіталь, яны займаліся зборам ахвяраванняў у бліжэйшых паселішчах. Па словах гісторыка, «гэта, пэўна, была найцудоўнейшая кангрэгацыя, што дзейнічала на Валыні». Кляштар луцкіх баніфратаў быў ліквідаваны ў 1843 годзе. У Гданьску браты з'явіліся ў 1646 годзе (грошы на кляштар ахвяраваў Ян Тэшмер, каралеўскі сакратар). У 1649 годзе ўзніклі кляштары кангрэгацыі ў Любліне, Красным Ставе, Замосці (фундацыя Хельмскага біскупа суфрагана Мікалая Свірскага), у Варшаве (фундацыя Багуслава Ляшчынскага пры дапамозе Кіеўскага біскупа Тамаша Уейскага) і ў Падэгродзі на Спішы (фундацыя Станіслава Гераклія Любамірскага, вялікага каралеўскага маршалка). У Львоў баніфратаў запрасіў каралеўскі харунжы (які пазней стаў каралём) Ян Сабескі ў 1659 годзе. Асаблівую прыхільнасць караля супольнасць заслужыла, калі апекавалася параненымі жаўнерамі. Больш за сто гадоў баніфраты працавалі ў Львове. Супольнасць была ліквідаваная ў 1783 годзе каралём Ёзафам II, а кляштар і шпіталь перайшлі ва ўласнасць вайскоўцаў. У 1665 годзе быў заснаваны кляштар у Пшэмыслі (фундацыя Паўла Мнішка, земскага пісара Пшэмысля). У 1667 годзе падольскі стольнік Габрыэль Сільнік-Сільніцкі набыў шляхецкі двор у Камянцы Падольскім для кляштара баніфратаў, але далейшы яго лёс невядомы. Апошнім кляштарам баніфратаў, заснаваным у Рэчы Паспалітай, быў кляштар Святога Духа ў Калішы і шпіталь пры ім. Арцыбіскуп Гнезна Міхал Юры Панятоўскі ў 1788 годзе запрасіў туды баніфратаў на чале з братам Людвікам Перзынам. Па невядомых прычынах браты пакінулі кляштар пасля пяцігадовай працы ў 1793 годзе.

На тэрыторыі Беларусі кангрэгацыя мела 5 канвентаў (канвент складаўся са шпіталя, кляштарных памяшканняў, касцёла ці капліцы).

У 1646 годзе Казімір Леў Сапега, падканцлер Вялікага Княства Літоўскага, заснаваў у Наваградку канвент Святога Духа і святой Барбары (комплекс быў ліквідаваны ў 1836 годзе ўладамі царскай Расіі).

У Ракаве, што пад Мінскам, шпіталь баніфратаў узнік у 1649 годзе намаганнямі Віленскага біскупа суфрагана Гераніма Сангушкі (кляштар праіснаваў толькі некалькі гадоў).

У 1709 годзе шпіталь і кляштар святога Яна Божага ў Мінску (на Старым рынку) заснаваў Тэадор Антоні Ваньковіч, староста падусвяцкі, стольнік і падстароста мінскі. У сваім тэстамэнце ён ахвяраваў баніфратам 10 тысяч злотых, а таксама пляц на Старым (Нізкім) рынку ў Мінску і фальварак Кальварышкі непадалёк ад горада. Дзякуючы фундацыі Тэадора Ваньковіча баніфраты збудавалі кляштар і шпіталь на 18 ложкаў. Час асаблівага росквіту гэтага шпіталя прыпаў на пачатак XIX стагоддзя, калі браты прымалі акрамя ўбогіх яшчэ і вязняў, якіх бясплатна забяспечвалі лекамі і ежаю. Канвент быў закрыты ў 1839 годзе. На жаль, будынкі гэтага комплексу не захаваліся да нашага часу.

У 1728 годзе фундатарам канвента баніфратаў у Гродне стаў Віленскі біскуп Караль Пётр Панцажынскі. Ён ахвяраваў баніфратам набытыя ў гродзенскіх езуітаў будынкі на ўсходняй ускраіне горада. Старыя пабудовы былі знесеныя, і на іх месцы пабудаваны новы кляштар, шпіталь, а таксама капліца Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Яна Божага, асвечаная ў 1830 годзе. Браты спецыялізаваліся на лячэнні псіхічна хворых людзей. Шпіталь быў разлічаны на 20 асобаў, якіх абслугоўвалі трое братоў. Кляштар і шпіталь утрымліваліся на сродкі ад сабранай міласціны, а таксама на ахвяраванні заможных жыхароў горада. Старэйшы брат супольнасці таксама выконваў абавязкі капелана ў кляштары брыгітак (за ежу для сябе і сваіх братоў). Частка кляштарнай тэрыторыі была перададзена гараджанам, якія будавалі на ёй свае дамы і плацілі братам так званыя «пляцовыя» на ўтрыманне шпіталя. Браты атрымлівалі ахвяраванні ад заможных гараджанаў, польскіх каралёў, а пасля і ад рускіх цароў. У 1808 годзе цар Аляксандр I падараваў ім бровар каля моста на Гарадніцы. Кляштарны комплекс баніфратаў быў ліквідаваны ў 1843 годзе ў выніку рэпрэсій пасля лістападаўскага паўстання.

У 1785 годзе канцлер Вялікага Княства Літоўскага Аляксандр Сапега запрасіў кангрэгацыю ў Высокалітоўск (цяпер Высокае Брэсцкай вобласці), старажытнае ўладанне князёў Сапегаў. Там кляштар і шпіталь братоў міласэрнасці працавалі да 1842 года. Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай (1795 г.) літоўскія канвенты з дазволу расійскіх уладаў былі аб'яднаныя ў асобную Літоўскую правінцыю.

Асобна варта ўзгадаць гісторыю кляштарнага комплексу баніфратаў, заснаванага ў 1635 годзе ў Вільні, сталіцы тагачасных беларускіх земляў, і шпіталя пры ім, які праіснаваў да пачатку XX стагоддзя. Касцёл Святога Крыжа, паводле паданняў, быў пабудаваны на месцы заснаванага яшчэ Гаштольдам старажытнага францішканскага кляштара, дзе ў часы князя Альгерда сямёра братоў прынялі пакутніцкую смерць за веру. У гонар гэтага хрысціянскага подзвігу на іх магіле ў 1543 годзе біскуп Павел Альгімунд, князь альшанскі, пабудаваў каменную капліцу Святога Крыжа. У 1635 годзе па фундацыі Абрагама Войны баніфраты набылі ў маёмасць суседні з капліцаю будынак і пашырылі яго, пабудаваўшы касцёл, які таксама атрымаў назву Святога Крыжа. Аддадзеныя братам суседнія дамы былі перабудаваныя ў вялікі кляштарны комплекс, у якім дзейнічаў шпіталь для хворых. Баніфраты таксама адчынілі ў Вільні знакамітую аптэку лекавых зёлак. Улады царскай Расіі зачынілі кляштар ў 1843 годзе, а шпіталь перадалі Радзе апекі, сярод удзельнікаў якой быў вядомы навуковец і грамадскі дзеяч граф Яўстахій Тышкевіч. У 1903 годзе шпіталь для псіхічна хворых быў пераведзены ў спецыялізаваныя памяшканні ў Новай Вільні. Пасля Першай сусветнай вайны па запрашэнні біскупа Юрыя Матулевіча ў 1924 годзе баніфраты ўзнавілі сваю дзейнасць у Вільні: вярнуліся ў кляштар, арганізавалі пры ім прытулак для старых нямоглых людзей і бясплатную сталоўку для бедных *Caritas*. У пачатку Другой сусветнай вайны ўлады кангрэгацыі загадалі братам пакінуць горад. У 1945 годзе яны прыбылі ў Лодзь і прывязлі з сабою запас лекавых зёлак, рэцэптуры лекаў, а таксама рэкамендацыі па іх выкарыстанні. З аптэкі зёлак у Лодзі пачалося развіццё навукі лячэння зёлкамі ў Польшчы, і вялікая заслуга ў гэтым належала вядомаму знаўцы зёлак брату Меланію Скверэнсу (1902–1977).

У 1947 годзе кляштар быў перададзены сёстрам кангрэгацыі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, якой ён належыць і цяпер.

Польска-літоўская правінцыя дала кангрэгацыі шмат пабожных братоў, вядомых правінцыялаў і знакамітых лекараў, з якіх найвялікшага поспеху дасягнуў брат Людвік Перзына (1742–1812), аўтар шматлікіх прац па анатоміі, акушэрстве, хірургіі, гігіене і медыцынскай асвеце.

Канец развіццю дзейнасці баніфратаў паклалі падзелы Рэчы Паспалітай у XIX стагоддзі. Ліквідацыя кляштараў прывяла да знішчэння Польска-літоўскай правінцыі. Працягвалі існаванне толькі кляштары ў Кракаве, Зэбжыдовічах і Цешыне, якія пасля падзелу 1865 года адышлі да Аўстрачэшскай правінцыі. Пасля атрымання Польшчай незалежнасці ў 1918 годзе яны далі пачатак адраджэнню супольнасці баніфратаў у краіне.

Цяпер кангрэгацыя баніфратаў у Польшчы мае адну правінцыю Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі з сядзібаю ў Варшаве і Сілезскую дэлегатуру св. Караля Барамея і св. Ядвігі Сілезскай з сядзібаю ва Ўроцлаве. Правінцыя налічвае 13 канвентаў і 98 братоў. Пры кожным кляштары арганізаваная справа служэння церпячым: 4 шпіталі, 4 дамы грамадскай дапамогі, 5 аптэкаў, 2 баніфрацкія асяродкі дапамогі ў пераадоленні крызісу, 3 прытулкі апекі, 2 вялікія сталоўкі для бедных. Усяго ў гэтай працы прымаюць удзел каля 1400 супрацоўнікаў. Згодна з патрэбамі сённяшняга часу браты атрымліваюць медыцынскую кваліфікацыю, якая дазваляе ім прафесійна служыць хворым і ўбогім.

У канцы 2008 года кангрэгацыя мела ў свеце 23 правінцыі, 2 генеральныя дэлегатуры і 7 правінцыяльных дэлегатураў. Браты кангрэгацыі працуюць на 5 кантынентах у 50 краінах свету, у 224 канвентах. Сярод іх 137 святароў і адзін біскуп (у Іспанскай правінцыі). З пачатку свайго існавання Кангрэгацыя рэалізуе шпітальны харызмат разам са свецкімі супрацоўнікамі, якіх цяпер каля 45 000, і валанцёрамі (8000). Усе разам яны складаюць адзіную сям'ю Шпітальнай кангрэгацыі, якую натхняе духоўнасць святога Яна Божага. Узор яго жыцця і святасці спрыяе штогадовым пакліканням. Заахвочваннем для ўсіх баніфратаў служаць прыклады святога жыцця іх братоў: св. Яна Грандэ (1546–1600), св. Бэнэдыкта Менні (1841–1914), св. Рышарда Пампуры (1897–1930) і 71 благаслаўлёных братоў пакутнікаў (загінулі ў Іспаніі ў 1936–1939 гадах). У 2008 годзе адбылася беатыфікацыя першага брата з Кубы — Юзафа Оальё Вальдэса (1820–1914), а 4 кастрычніка 2009 — беатыфікацыя брата Яўстахія Куглера (1867–1946) у Рэгенсбургу (Германія).

Тыя, хто адчуў ў сабе голас паклікання, уступаюць у шэрагі братоў баніфратаў, іншыя становяцца дабрачынцамі кангрэгацыі, супрацоўнікамі і проста падтрымліваюць супольнасць праз малітву і валанцёрскія паслугі.

*Брат Атаназы,*
*адказны за пакліканні*
*кангрэгацыі баніфратаў.*

*Пераклад з польскай мовы*
*Юліі Шэдзько.*

# Аксана ДАНІЛЬЧЫК



**Аксана Данільчык** — кандыдат філалагічных навук, перакладчыца. Закончыла філфак БДУ і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Аўтар зборнікаў вершаў «Абрыс Скарпіёна» (1996) і «Il Mezzogiorno. Поўдзень» (2006), кніжкі вершаў для дзяцей «Павуцінка на агрэсце» (2005). Перакладае з італьянскай мовы, займаецца даследаваннем беларускай і італьянскай літаратуры. Жыве ў Мінску.

* * *

Калі табе трыццаць пяць,
можна ўжо не баяцца
іспытаў па матэматыцы
і белых мышак,
якіх аднакласнікі імкнуцца
закінуць за каўнер сукенкі,
калі табе трыццаць пяць,
можна не думаць
пра гістарычную граматыку —
у цябе ўжо свая граматыка і свая гісторыя,
дзе пакуль што ў роўных колькасцях
мінулае і будучыня,
калі табе трыццаць пяць,
цябе яшчэ аклікаюць «дзяўчына»,
але ты з неахвотай усведамляеш,
што хутка гэтая радасць скончыцца,
калі табе трыццаць пяць,
у цябе ёсць зямля і неба,
родныя праменьчыкі і родныя магілы,
і свет, які ты не можаш не любіць,
таму што табе — трыццаць пяць.

## Memento mori

Небам, небам — апошняе ззянне —
як атрамантам на атлас,
сцятым болем, самотай змяркання,
барвай лініяў лётных трас,
водсвет падае мне на далоні,
асыпае нябачным дажджом,
гэта я, назіральнік староннi
за сваім уласным жыццём,
гэта я ў невядомае ззянне
адпускаю завершаны дзень,
суцішаю агню баляванне,
распускаю святло па вадзе,
караблі ператворацца ў цені,
травам — сохнуць, а рэкам — мялець:
непазбежнасць працэсу старэння
супыняе адна толькі смерць.
Ці нябеснай парой, ці зямною,
ціхім звонам напоўніцца сад, —
заставацца навек маладою
ці жыццё далюбіць да канца?..
Лістападаўскім ранкам замглёным
у маўчанні знямелых вятроў
я гляджу за парэнчы балкона
і да неба звяртаюся зноў...

* * *

Тваё сэрца,
сціснутае да памераў
бярозавага лісціка,
яшчэ не ўсведамляе,
што рана ці позна
ўсе прыходзяць,
але чамусьці
ўсе прыходзяць толькі тады
калі дзверы зачыняюцца:
ад безнадзейнасці,
ад таго,
што стаміліся чакаць,
ад глыбокай пранізлівай цішыні.
Яны мяняюць свой колер
у залежнасці ад асвятлення:
з белага ён робіцца шэрым,
а потым чарнее,
пакуль электрычнае святло
не абпаліць яго,
не высвеціць зморшчыны і драпіны
развітальнай пяшчотай,
развітальным сумам, —
таму што болей зайсці
немагчыма.

Прыйдуць усе,
але сэрца сцісненца да памераў
бярозавага лісціка...

Хто ведае,
куды панясе яго вецер...

* * *

Снег — падобны да пенапласту —
на чорнай бітумнай масе.
Пальцы заледзянелі
і страцілі адчувальнасць.
Свету не вытрымаць ціску,
і ён, безумоўна, здасца
на літасць пільнага неба,
а можа на ўседаравальнасць.

Кропкі чырвонай фарбы
для гарадской эстэтыкі
настолькі невызначальныя,
што іх не бяруць у разлік.
І душы рацыянальныя,
пазбаўленыя патэтыкі,
усіх засведчаных вартасцяў
вядуць няспынны падлік.

А снег — не пух і не вата —
падобны да пенапласту —
на чорнай бітумнай масе,
нібы на пухліне зямлі,
і роўныя ўсе дарогі,
а шлях такі пакручасты
у кропках чырвонай фарбы,
што між снягоў расцвілі.

* * *

У вежы
канарэечна-жоўтага будынку,
падобнай да тысячы іншых вежаў,
адкуль назіраю
за зменамі часінаў года
і не бачу нікога,
акрамя варты,
хто я?
Прыгажуня ў сонным царстве?
Зомбі?

Аднак калі, здаецца,
успрыманне навакольнага свету
страчана канчаткова
і птушкі,
разбіўшыся аб сцяну
канарэечна-жоўтага будынку
падаюць уніз,
губляючы пёркі,
я пачынаю рэагаваць.
Але далоняў маіх
недастаткова,
каб спыніць гэтае падзенне,
але голас мой занадта слабы,
каб паклікаць на дапамогу…
І тады нарэшце
я заўважаю анёлаў.
Дык вось хто час ад часу
кідае ў маё вакно каменьчыкі…
Цяпер ніводная птушка не загіне…

Паварочваецца флюгер,
прадказваючы змену ветру.
З вежы
канарэечна-жоўтага будынку
я ўсміхаюся анёлам,
а мой вартавы распальвае камін.
Хутка зіма.

* * *

Музыка сціхне,
сціхне каханне,
болем працьме
і адпусціць назад,
мне застанецца
маё пакліканне,
свет мой бясконцы,
мой зарапад.

Можа праз слёзы
ўсмешкаю светлай,
ці праз усмешку
светлай слязой,
ці ледзь заўважнай,
ці ледзь прыкметнай,
ці ледзьве чутнай
песняй маёй.

Ты — не пакута,
не пакаранне,
ты — не Галгофа,
не крыж,
не цяжар.
Ты — мая радасць,
маё пакліканне,
непараўнальны
мой уладар.



Партрэт Джотто работы Паоло Уччэлло.

Пётр Вайль

# На пачатку: Джотто

Бадай ва ўсёй сусветнай гісторыі мастацтваў немагчыма знайсці такую бездакорную рэпутацыю. Джотто захапляліся яго сучаснікі, у яго вучыліся і пераймалі яго стыль нашчадкі, яго маглі ўзносіць трошкі вышэй або трошкі ніжэй, але адносіны да яго па-сапраўднаму ніколі не пераглядаліся.

Выпадак насамрэч беспрэцэдэнтны. Ні з адным прызнаным геніем не абыходзіліся гэтак пачціва на працягу ўсяго часу. Леанардо дакаралі і дакараюць за незавершанасць яго працаў і задумак, і гэтая незавершанасць стала яго фірменным знакам, амаль дыягназам. Мікеланджэло дакаралі і дакараюць (цалкам справядліва) за збыткоўнасць скульптурнасці жывапісу, якая даходзіць да груваcткасці сякеры. Рафаэль многім здаваўся і здаецца прыгладжаным, амаль што саладжавым. Гэта толькі імёны першага шэрагу, але Джотто застаецца той непахіснаю манументальнаю печкаю, ад якой танчыць усё заходняе выяўленчае мастацтва.

Больш за тое — ён унікальны і для ўсёй гісторыі культуры. У архітэктуры — мастацтве функцыянальным паводле яго прызначэння — густы пераглядаюцца часцей, чым дзе-небудзь, і, скажам, дасягненні грэкаў, безумоўна, выклікаюць захапленне, але ўслед за гэтымі дасягненнямі ў XX стагоддзі імкнуліся ісці толькі будаўнікі парламентаў і калгасных дамоў культуры. Адкрыццё афрыканскай і палінезійскай скульптуры назаўсёды парушыла гегемонію антычных узораў у гэтым мастацтве. Рытмы і катаклізмы часу вызначаюць у кожнай эпосе сваіх галоўных прадстаўнікоў у музыцы. Няма аўтарытэта, падобнага да джоттаўскага, і ў літаратуры: і гэта яшчэ больш зразумела, таму што прыгожае пісьменства існуе толькі на роднай для чытача мове. Як рускаму праверыць сапраўдную веліч Сервантэса, іспанцу — Дастаеўскага, італьянцу — Рабле, французу — Дантэ? Іншая справа — Гамер, якога паважаюць усе, ведаючы, што з яго пачыналася славеснасць Захаду. Розніца, праўда, у тым, што гамераўскі эпас чытаюць нямногія, а вось джоттаўскі глядзяць і працягваюць глядзець — і ў Асізі, Фларэнцыі, Падуі.

Джотто быў пастаўлены на тое месца, якое ён займае і сёння, яшчэ пры жыцці. Дантэ ў «Боскай камедыі» напісаў: «Кисть Чимабуэ славилась одна, // А ныне Джотто чествуют без лести, // И живопись того затемнена».

Пры гэтым Дантэ, равеснік Джотто (старэйшы за яго на два гады), зусім не меў на ўвазе нейкі паступальны рух, прагрэс — ён гаварыў пра змену перавагаў у густах: учора — адзін, сёння — другі. Аднак атрымалася эпахальна.

Чымабуэ памёр да таго, як Джотто ўзяўся за сваё самае значнае стварэнне — падуанскую капэлу Скравэны, а то мог бы і пашкадаваць, што цікаўнасць прымусіла яго спыніцца каля моста цераз ручай ва ўзгорыстай даліне Муджэлло на поўнач ад Фларэнцыі.

... Мы ехалі па гэтых краях з Віккіо ў Веспіньяно і ўбачылі паказальнік налева: *Ponte Cimabue.* Павярнулі — і метраў праз трыста апынуліся ў тым месцы, дзе адбылося зачацце еўрапейскага

---

**Пётр Вайль** — журналіст, пісьменнік. Нарадзіўся ў 1949 г. у Рызе. Памёр 7 снежня 2009 г. у Празе. Закончыў рэдактарскі факультэт Маскоўскага паліграфічнага інстытута. У 1977 г. эміграваў у ЗША. Працаваў у розных эмігранцкіх перыядычных выданнях у Нью-Ёрку. Апублікаваў мноства артыкулаў і эсэ ў Расіі і за мяжою. Аўтар кніг «Гений места», «Карта родины», «Стихи про меня», а таксама «60-е: Мир советского человека», «Американа», «Русская кухня в изгнании», «Родная речь» (у сааўтарстве з А. Генісам), «Иосиф Бродский: труды и дни» (у сааўтарстве з Л. Лосевым). Складальнік і аўтар пасляслоўяў да зборнікаў Іосіфа Бродскага «Рождественские стихи» и «Пересеченная местность». Лаўрэат некалькіх літаратурных прэмій. Член-заснавальнік Акадэміі рускай сучаснай славеснасці, член рэдсавета часопісаў «Иностранная литература», «Знамя». З 1995 г. жыў і працаваў у Празе галоўным рэдактарам Рускай службы радыё «Свабода».

мастацтва.

Джорджо Вазары ў «Жыццеапісаннях знакамітых жывапісцаў» расказвае, як ужо масціты 37-гадовы мастак Чымабуэ ў 1277 годзе ўбачыў дзесяцігадовага пастушка, які каля моста з натуры маляваў завостраным каменьчыкам авечку на абломку скалы. Уражаны майстэрствам малюнка, Чымабуэ папрасіў бацьку хлопчыка адпусціць яго з сабою ў Фларэнцыю — у вучні. Даследчыкі (з той катэгорыі, што ненавідзяць прыгажосць жыцця) даказвалі, што ўсё было не так, што сям'я Джотто, разбагацеўшы, сама перабралася ў Фларэнцыю, і там падлетак трапіў у майстэрню Чымабуэ.

Але вось жа стаіць перад намі стары, даўно парослы мохам, магутны (не па памерах дохленькага ручая) мост. І побач — абломак скалы, на якім напісана, што ён той самы. Скептыкі з катэгорыі (гл. вышэй) скажуць, што камень падштукавалі пад Вазары, але навошта сутыкаць гісторыю з міфам? Зразумела, што міф усё роўна пераможа — ніколі і нідзе не бывала іначай.

На ўскраіне Веспіньяно стаіць дом, дзе нарадзіўся Джотто ды Бандонэ — гэта яго ці то сапраўднае, «па пашпарце», імя, ці то скарочанае ад Амброджо (Амброджотто), або Анджэло (Анджэлотто). Дом і сапраўды заможны, салідны, прыгожы, захаваны трошкі больш, чым належыць будынку XIII стагоддзя, але затое яго не сорамна паказваць. Злева адразу ўверх ідзе сцяжынка — да блякла-жоўтага касцёла святога Марціна, дзе сем стагоддзяў назад сын Джотто служыў парафіяльным святаром. Цяпер гэты пост займае айцец Жан-Дэні з Конга. Прыветлівы, усмешлівы, лакіраванагачорны, ён ажыўлена гаворыць, размахвае рукамі, стоячы пад двума надгробнымі векавымі кіпарысамі над домам Джотто — вось яна, жывая гісторыя, перамяшаная з міфам.

Зразумела, калі Джотто вучыўся ў Чымабуэ, значыць да яго ў выяўленчым мастацтве Італіі нешта праяўлялася. Яшчэ як! Амаль на паўвека старэйшы за Джотто грандыёзны скульптар Нікколо Пізано, на 10–20 гадоў — скульптар і архітэктар Арнольфо ды Камбіо, жывапісцы П'етро Каваліні, Дуччо ды Буонінсэнья. Трошкі маладзейшыя за Джотто сіенцы Сімонэ Марціні і браты Ларэнцэцці, П'етро і Амброджо. Кожны з іх — слава і гонар свайго горада і народа.

Дык чаму ж печка? Адкуль такое адзінадушша: на пачатку быў Джотто?

І сумненняў у гэтым няма. Перш чым звярнуцца непасрэдна да тварэнняў Джотто, варта вызначыць ускоснае — але надзвычай важнае — доказ яго месца ў культуры. Пра іншых мастакоў Рэнесанса расказваюць гісторыі. Пра Джотто — анекдоты. І гэты крытэрый беспамылковы. Чапаеў заўсёды будзе важнейшы за Катоўскага, чукча — за эвенка, паручнік Ржэўскі — за любога генерала, незалежна ад аб'ектыўных якасцяў і заслугаў.

З найбольш вядомых анекдотаў пра Джотто — пра тое, як у юнацтве, калі Чымабуэ пайшоў па справах, ён намаляваў на яго карціне муху, і майстар, вярнуўшыся, безвынікова намагаўся сагнаць яе з палатна. А яшчэ пра тое, як Папа Рымскі накіраваў свайго пасланніка ў Фларэнцыю, каб ён прывёз узоры жывапісу найлепшых мясцовых мастакоў, але Джотто замест малюнка проста накрэсліў адным рухам рукі ідэальную акружнасць.

Тры навелы прысвяціў яму ў канцы XVI стагоддзя Франко Саккэцці. У Навеле 75 — прыклады дасціпнага розуму Джотто.

Неяк мастак з прыяцелямі прагульваўся па вуліцы і раптам «адна з прабягаўшых побач свіней святога Антонія, разагнаўшыся, у шаленстве так ткнула сваім лычам Джотто, што той упаў на зямлю». Аднак мастак не раззлаваўся, а ўсяго толькі згадаў, што са свіной шчаціны робяць пэндзлі: «Ну ці ж яны не маюць рацыі? Дзякуючы іх шча-



Ісаў перад Ісаакам. Фрэска Джотто.



Уцёкі ў Егіпет. Фрэска Джотто.

ціне я зарабіў за сваё жыццё тысячы, а між тым ні разу не даў ім і місачкі пахлёбкі».

Пытанне пра свінняў, дарэчы, стаяла востра. Петрарка, звяртаючыся да Франчэско I да Каррара, адукаванага правіцеля Падуі, у ліку найважнейшых дзяржаўных турботаў называў выдаленне свінняў з гарадскіх вуліцаў, бо яны, свінні, непрыгожа выглядаюць і палохаюць коней. Жывапісцаў, як бачым, таксама. Але ўтрыманне свінняў у горадзе было прывілеяй манахаў брацтва святога Антонія, таму змагацца з гэтым было цяжкавата.

Другі прыклад з Навелы 75. Адзін з прыяцеляў Джотто, разглядаючы чыюсьці карціну са Святою Сям'ёю, запытаў: «Чаму гэта Юзафа заўсёды малююць такім засмучаным?» Джотто адказаў: «Хіба ж у яго няма для гэтага прычыны? Ён бачыць сваю Жонку цяжарнаю і не ведае, ад каго Яна зацяжарыла».

Саккэцці робіць выснову: «Розум адораных людзей вызначаецца вялікай тонкасцю». Гэта адметны пасаж. Пачатак XIV стагоддзя, час Джотто, ды і яго канец, час Саккэцці, не той час, калі мастакі былі на роўных з іншымі творцамі — найперш з пісьменнікамі. Іх сапраўднае прызнанне такімі ж вартымі прыйшло паступова, недзе ў сярэдзіне наступнага стагоддзя, калі не зусім у XVI стагоддзі. Тлумачэнне простае: жывапісцы і скульптары працуюць рукамі, а значыць яны — рамеснікі. Не дарэмна ж на працягу ўсяго ранняга і сярэдняга Рэнесанса фларэнцыйскія мастакі для таго, каб працаваць легальна, плаціць падаткі і ўвогуле быць законапаслухмянымі грамадзянамі, уступалі ў Гільдыю аптэкараў і фармацэўтаў (*Arte dei Medici e Speziali*). Блізкасць прафесіяў забяспечвала расціранне субстанцыяў — што парашкоў, што фарбаў. Пры гэтым цікава, што гербам гільдыі была Мадонна з Дзіцем — сімвал міласэрнасці медыкаў і найбольш часты сюжэт у мастакоў.

Адсюль гэтая настойлівасць Саккэцці: «Джотто не толькі вялікі майстар у жывапісе, але і майстар ва ўсіх сямі вольных мастацтвах». Быццам мала жывапісу. Быццам мала! З сямі мастацтваў Джотто прафесійна патрабавалася хіба што геаметрыя, а астатняе — так сабе, факультатыўна: граматыка, рыторыка, дыялектыка (гэтак званы славесны «трывіум»), арыфметыка, астраномія, музыка (разам з геаметрыяй — матэматычны «квадрывіум). Арыфметыка яшчэ можа спатрэбіцца — каб не падманулі з ганарарам.

Саккэцці, па-першае, узнімае Джотто на інтэлектуальны п'едэстал, па-другое, спрабуе вытлумачыць сам сабе і іншым найвысачэйшы аўтарытэт мастака, які апярэдзіў час.

Пра яго хвалебна пісаў Дантэ. Петрарка за чатыры гады да сваёй смерці завяшчаў правіцелю Падуі «Мадонну» Джотто, «выдатнага жывапісца... прыгажосці якой не разумеюць невукі, пры тым што майстры гэтага мастацтва ў захапленні ад яе». У «Даведніку для падарожніка па Сірыі» Петрарка піша пра Неапаль так: «Не забудзь зайсці ў капэлу караля, дзе мой суайчыннік, першы з жывапісцаў нашага часу, пакінуў вялікія помнікі сваёй рукі і розуму» (гэтыя фрэскі Джотто страчаныя). Петрарка сябраваў з Сімонэ Марціні, супернікам Джотто, але аб'ектыўнасць (і пачуццё гумару) змушалі яго ставіць іх побач: «Я ведаю двух выдатных, але непрыгожых жывапісцаў — Джотто, фларэнцыйскага грамадзяніна, чыя слава сярод новых агромністая, і Сімонэ з Сіены».

Нават непрыгожая знешнасць зрабілася прадметам анекдотаў — вось якая адзнака прызнання!

Мала таго, што Джотто быў непрыгожы, дык і ягоныя дзеці ўсе пайшлі па бацьку. Іх было восем — ад жонкі, якую звалі

Рычэвута ды Лапо дэль Пела, скарочана Чута. Калі Дантэ, наведаўшы сям'ю мастака ў Падуі, запытаў, чаму так атрымліваецца, што дзеці гэткія непрыгожыя, а карціны прыгожыя, Джотто адказаў: «Я пішу пры святле, а дзяцей раблю ў цемры».

Джаванні Бакаччо ў «Дэкамероне» расказвае пра нейкага месера Фарэзэ, які «быў такога маленькага росту, брыдкі, з гэткім пляскатым тварам і гэткі кірпаты, што было б гадка і таму чалавеку з сям'і Барончы, у якога твар быў найбольш агідны за ўсё астатняе». А пра свайго спадарожніка Джотто ён напісаў так: «І хоць яго мастацтва было найвыдатнейшае, сам ён ні фігураю, ні тварам не быў прыгажэйшы за месера Фарэзэ». І далей робіць глыбокадумную выснову: «Прырода хавае ў брыдкіх чалавечых целах найцудоўнейшыя дараванні».

Гэта ўсё было сказана пра новенькага: жывапісец — і дасціпны інтэлектуал; брыдкі — а спараджае прыгожае.

З яго, з Джотто, і пачалася перамена паняццяў і ўяўленняў пра мастака і мастацтва.

Што датычыць яго жывапісу, дык больш правільна паслухаць не пісьменнікаў і крытыкаў, а прафесіяналаў, яго калегаў. Вось што піша Леанардо: «Жывапісцы пасля рымлянаў увесь час пераймалі ў творчасці адзін аднаго і з веку ў век увесь час штурхалі гэта мастацтва да заняпаду. Пасля іх прыйшоў Джотто, фларэнціец. Нарадзіўшыся ў пустынных гарах, дзе жылі толькі козы і падобныя да іх звяры, ён, пакліканы прыродаю да такога мастацтва, пачаў маляваць на скалах рухі козаў... Пасля яго мастацтва зноў заняпала, бо ўсе пераймалі ўжо створаныя карціны». На думку Леанардо, новае вяртанне да прыроды адбылося толькі са з'яўленнем Мазаччо — праз стагоддзе пасля Джотто.


Вяселле ў Кане. Фрэска Джотто.

І ўсе казалі наперабой: Джотто вучыўся ў прыроды (той жа Вазары, праслаўлены біёграфіямі мастакоў, але і сам пладавіты жывапісец: «Ён заслужыў таго, каб быць названым вучнем прыроды, а не іншых настаўнікаў»). Пры гэтым, гледзячы на роспісы Верхняга і Ніжняга касцёла ў Асізі, капэлаў Бардзі і Перуцці ў фларэнцыйскім Санта-Крочэ, на шэдэўр Джотто ў Падуі, нельга не ўбачыць пэўнай тэатральнасці, статычнасці і грувасткасці, якія былі пераадоленыя ўжо ў эпоху кватрачэнто, пачынаючы з таго ж Мазаччо.

Аднак Джотто ўспрымаўся — і гістарычна ўспрымаецца — як прарыў да натуральнасці.

Вось, дарэчы, чаму немагчыма паўнавартаснае, адэкватнае ўспрыманне старога мастацтва — жывапісу, музыкі, літаратуры: таму што кантэкст страчаны і яго нельга аднавіць. Мы не можам зразумець, што адчуваў італьянец канца XVI стагоддзя, акружаны нечым візантыйскім, калі бачыў фрэскі Джотто. Згуляць у гэта прынамсі можна: напрыклад, можна перабегчы — добра, што недалёка — з Успенскага сабора Крамля ў Пушкінскі музей, у залы Новага часу.

Вельмі аўтарытэтны даследчык Лучано Беллозі дэталёва гаворыць пра тое, якія стэрэатыпы пераадолеў Джотто. Гэта «формулы, прызваныя пастаянна ў літаральным сэнсе намякаць на рэальнасць, не падобную да рэальнасці гэтага свету, формулы, паводле якіх рукі чалавека нагадвалі відэльцы, брушная поласць, складзеная з трох частак, як бы ўтваралася з трох жыватоў, яміны вачэй моцна падкрэсліваліся, а нос меў форму дзюбкі».

У розных варыянтах усе пішуць пра тое, што Джотто «пераклаў жывапіс з грэцкай мовы на латынь». Латынь была моваю сучаснай культурнай Еўропы. А чым у той час была грэцкая мова? Візантыяй. Калі Ларэнцо Гібэрці (зноў думка найвысачэйшага прафесіянала) піша, што Джотто, «развітаўшыся з

грубасцю грэкаў... сцвердзіў мастацтва натуральнае і разам з тым прыцягальнае і гарманічнае», для яго «грубасць» — гэта візантыйская застыласць вобразаў, адвечная непарушнасць канона.

Але калі Візантыя і стварыла нешта значнае ў культуры, дык гэта школу гісторыкаў і іканапіс. Джотто цудоўна засвоіў урокі візантыйскага жывапісу, аднак не хацеў мірыцца з яго застыласцю. Асучасніванне гістарычнага вопыту адбываецца заўсёды, ва ўсіх новых плынях і з’явах. Бывае цалкам чужы вопыт — як афрыканскае мастацтва для Пікассо або палінезійскае для Гагена; бывае вопыт інтэлектуальна свой — як італьянскае кватрачэнто для англіканаўпрэрафаэлітаў; бывае вопыт кроўна свой — як сацрэалізм для сац-арту. Другі і трэці варыянты — выпадак Джотто.

Як сапраўдны геній, ён быў успрымальны і пераймальны. Джотто ўжо пераваліла за пяцьдзесят і ён знаходзіўся на вяршыні славы, калі ўсё большая папулярнасць Сімонэ Марціні прымусіла яго зрабіцца больш вытанчаным (капэла Бардзі ў Фларэнцыі). Аб прычыне невялікай, але заўважнай змены ў яго стылі можна толькі здагадвацца, бо лістоў і дакументаў пра гэта няма, але здагадка вельмі праўдападобная. У гісторыі культуры нярэдкія выдатныя прыклады ўплыву творцаў няхай сабе і не мацнейшых, але роўных, хоць і цалкам іншых, чужых. Напрыклад, Вэрдзі, які бліскуча працягваў Белліні і Даніцэцці і пайшоў далёка наперад па гэтым оперным мэйнстрыме, раптам у двух сваіх апошніх творах — «Атэлло» і «Фальстафе» — упершыню прыслухаўся да свайго вечнага і ненавіснага суперніка Вагнера (магчыма, таму што ён ужо памёр), і ў выніку атрымаліся два непараўнальныя шэдэўры.

Работы Сімонэ і яго захапляльную манеру Джотто мог бачыць і, хутчэй за ўсё, бачыў у Неапалі, пры двары Роберта Анджуйскага, дзе ён быў на дзесяць гадоў пазней за сіенскага майстра. Іншых супернікаў не ведаў — зрэшты іх і не было. Ужо пасля выдатнага цыклу ў Верхнім касцёле Асізі яго пачалі запрашаць у розныя гарады. У тым ліку ў Падую.

Вельмі трапныя, хоць і недакладныя, словы пра Падую сказаў Хэмінгуэй. У рамане «За ракою, у цяні дрэваў» палкоўнік Кантуэл неўзабаве пасля вайны па дарозе ў Венецыю праязджае Падую, размаўляючы з вадзіцелем.

— Не, вы толькі падумайце, — сказаў шафёр. — У іх што ні мост, што ні станцыя — вакол на цэлыя паўмілі адны развалiны.

— Адсюль мараль, — сказаў палкоўнік, — не будуй сабе дом або касцёл і не наймай Джотто пісаць фрэскі, калі твой касцёл стаіць за паўмілі ад моста».

Недакладнасць у тым, што касцёл Эрэмітані, разбураны ў 1944 годзе авіяналётам саюзнікаў, распісваў Мантэнья, а не Джотто. А вось распісаная Джотто капэла Скравэны, якая стаіць побач з мастом праз гарадскі канал, ацалела. Бог з ёю, з блытанінаю, — для сюжэта рамана гэта не важна, а ў даведнік мы зазірнем самі. Важнейшая трапнасць — не авіяцыі, а пісьменніка, які ўжо тады заўважыў, як вайна вызначыла аблічча Падуі.

Уся прастора ад вакзала да цэнтра — пасляваенная забудовы, а там было на што паглядзець. На шчасце, цэнтральная і паўднёвая часткі горада захаваліся, і Падуя, якая, на жаль, не ўваходзіць у турыстычныя маршруты, безумоўна, вартая ўвагі. Зрэшты, уся Італія такая: ніякіх маршрутаў ні на чыё жыццё не назапасіш.

Плюс Падуі — паўгадзіны на цягніку, на аўтобусе ці на машыне ад Венецыі. Горад лёгка дасягальны з Мілана, Вероны, Балоны, Мантуі — менавіта тут былі ўсе, хто складаў славу італьянскай культуры.

Данатэлло тут прапанавалі дом каля сабора святога Антонія, і ён з вакна другога паверха (месца пазначана мемарыяльнаю дошкаю) назіраў, як ідуць работы па ўсталяванні яго помніка правадыру наёмнікаў Гаттамелату. Упершыню з часоў антычнасці ўзводзіўся вялікі бронзавы конны манумент. Узорам для яго паслужыў помнік Марку Аўрэлію на рымскім Капітолії — ён адзіны ацалеў пры хрысціянстве, яго не знішчылі выпадкова, палічыўшы помнікам імператару Канстанціну, першаму хрысціяніну на чале Рымскай імперыі. Данатэлло пераўзышоў дасягненне старажытнасці. Гаттамелата — мянушка паўкаводца Эразмо да Нарні — літаральна азначае «мядовы кот», і скульптару трэба было мець найвялікшы талент, каб перадаць асцярожлівую грозную пластыку чалавека з атраду драпежных, праслаўленага кандацьера.

Зрэшты, Падуя знакамітая не толькі сваімі мастацкімі скарбамі. Тут ёсць кавярня, якая ўваходзіць у прызавую італьянскую тройку, а дзве іншыя — «Грэко»

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

*Пераклад з рускай мовы Лідзіі Камінскай.*
*«Иностранная литература», № 6, 2009.*



Ірына Багдановіч

# НА ШЛЯХУ НАЦЫЯНАЛЬНАГА І ДУХОЎНАГА АДРАДЖЭННЯ БЕЛАРУСІ

## Да 150-годдзя з дня нараджэння Браніслава Эпімаха-Шыпілы

Жыццё і дзейнасць Браніслава Эпімаха-Шыпілы (1859—1934) былі пазначаны самаадданым і самаахвярным служэннем Беларусі на шырокім абсягу культурна-адраджэнскай справы. Патомны беларускі шляхціц, ён нарадзіўся ў фальварку Будзькаўшчына Лепельскага павета, а неўзабаве сям'я пераехала ў маёнтак Залессе Ветрынскай воласці (цяпер Полацкі раён), дзе прайшлі дзіцячыя гады Браніслава. Рана асірацелы, ён з 1871 года жыў у Рызе ў роднага дзядзькі, вучыўся ў Аляксандраўскай гімназіі, якую скончыў у 1880 годзе з залатым медалём. У гэтым жа годзе Браніслаў Эпімах-Шыпіла бліскуча здае экзамены і становіцца студэнтам аддзялення класічных моваў гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта. Адораны выключнымі здольнасцямі, ён авалодаў некалькімі дзесяткамі моваў, сярод якіх былі старажытныя: санскрыт, грэчаская, латынь (на латыні Эпімах-Шыпіла свабодна размаўляў і нават вёў перапіску ў пазнейшыя гады з беларускім музыказнаўцам Юліянам Дрэйзіным). Закончыўшы універсітэт са ступенню кандыдата ў 1886 годзе, ён некаторы час даваў прыватныя ўрокі, выконваў абавязкі намесніка рэдактара «Журнала Министерства путей сообщения», быў хатнім настаўнікам. З 1890 года яго як выдатнага выкладчыка грэчаскай і лацінскай моваў запрашаюць у Пецярбургскую рыма-каталіцкую духоўную акадэмію, дзе ў яго на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў навучаліся будучыя ксяндзы беларусы (Адам Станкевіч, Віктар Шутовіч ды іншыя). Класічныя мовы Эпімах-Шыпіла выкладаў таксама на курсах Аляксандра Чарняева і ў мужчынскай гімназіі Пецярбурга. З 1891 года ён ужо стала працуе ў бібліятэцы Пецярбургскага універсітэта. За сваю вялікую вучонасць і апекаванне шматлікімі вучнямі ён атрымаў пачэснае званне прафесара.

На пачатку XX стагоддзя, у перыяд магутнага ўздыму нацыянальнага адраджэння, працавіты памочнік дырэктара бібліятэкі Пецярбургскага універсітэта і грунтоўны філолаг-класік у галіне беларусазнаўства Браніслаў Эпімах-Шыпіла становіцца адной з цэнтральных фігур беларускага літаратурна-грамадскага руху і адным з лідэраў культурнага адраджэння сваёй Бацькаўшчыны. Ён быў нібы жывы масток паміж апошняй чвэрцю XIX стагоддзя, Багушэвічавым перыядам літаратуры, і пачаткам XX стагоддзя — новым, «нашаніўскім», яго этапам. Маючы сталую працу і жыццё ў Пецярбургу, Эпімах-Шыпіла падтрымліваў студэнцкую моладзь з Беларусі, займаўся выдавецкай справай, быў у цэнтры беларускага літаратурнага і культурнага жыцця ў паўночнай сталіцы Расійскай імперыі.

У 1924 годзе Эпімаха-Шыпілу абіраюць правадзейным членам Інбелкульта і неўзабаве, у 1925 годзе (магчыма, у 1926), ён пераязджае ў Мінск дзеля служэння Беларусі на самой Бацькаўшчыне. Сюды ж ён перавёз і перадаў Акадэміі навук БССР у 1929 годзе найкаштоўнейшую ўласную бібліятэку ў пяць тысяч тамоў.

У 1930 годзе Эпімах-Шыпіла стаў ахвярай сталінскіх рэпрэсій: шаноўны вучоны быў арыштаваны НКВД па справе так званага «Саюза вызвалення Беларусі» і зняволены. Каля двух месяцаў, маючы 71 год, ён стаўся вязнем новага рэжыму, які за некалькі гадоў перад гэтым абвясціў акцыю беларусізацыі, што падкупіла Эпімаха-Шыпілу і многіх адданых працаўнікоў адраджэння. Выпушчаны на волю, ён пісаў ксяндзу Віктару Шутовічу 1 лістапада 1930 года: «…Сказана мне пакінуць Менск, і я мусіў выехаць у Ленінград, дзе апынуўся выкінутым на брук, <…> не магу знайсці сабе не толькі кватэры, але хоць бы пакойчыка, і, можа, прыйдзецца згінуць дзе на вуліцы ад холаду і

**Ірына БАГДАНОВІЧ** — паэт і літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук. Нарадзілася ў г. Лідзе на Гродзеншчыне. Скончыла гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржуніверсітэта (1978) і аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі (1983). Аўтар кніг вершаў «Чаравікі маленства» (1983), «Фрэскі» (1989), «Вялікдзень» (1993), «Прыватныя рымляне» (2006), манаграфіі «Янка Купала і рамантызм» (1989), «Авангард і традыцыя: беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння» (2001). Перакладае з польскай мовы. Жыве ў Мінску.

голаду» [1]. Праз некалькі пакутліва праведзеных гадоў у пакінутасці і нястачы 6 чэрвеня 1934 года Браніслаў Ігнатавіч памёр у адным з ленінградскіх шпіталяў, месца яго пахавання застаецца невядомым.

Уся асветніцка-выхаваўчая, выдавецкая і навуковая дзейнасць Браніслава Эпімаха-Шыпілы была скіравана на служэнне Беларусі і на яе нацыянальна-культурнае адраджэнне. Гэта была ў поўным сэнсе тытанічная шматгаліновая праца. «Бліжэй апісваючы беларускую <...> працу Шыпілы, — пісаў аб ім у 1930-я гады ксёндз Адам Станкевіч, — трэба зазначыць што ішла яна передусім у трох кірунках: сабіранне кніжак і агулам культурных памятак беларускай мінуўшчыны, гадаванне, арганізаванне і ўсведамленне беларускай моладзі і ўрэшце арганізаванне беларускай культурнай, передусім выдавецкай працы»[2]. Былы вучань Эпімаха-Шыпілы, Адам Станкевіч высока ацэньваў заслугі свайго настаўніка ў фармаванні цэлай кагорты свядомых руплівцаў нацыянальна-культурнага, грамадска-палітычнага і рэлігійнага адраджэння. Ён адзначаў, што ўсе яны, свецкія і рэлігійныя дзеячы, — Янка Купала, Браніслаў Тарашкевіч, Зміцер Жылуновіч, Тамаш Грыб, Язэп Варонка, Клаўдыюш Душэўскі, ксяндзы Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч, Фабіян Абрантовіч, Віктар Шутовіч, Андрэй Цікота ды іншыя — у большай або меншай ступені яго, Эпімаха-Шыпілы, выхаванцы і духоўныя дзеці.

Адам Станкевіч параўноўваў Эпімаха-Шыпілу з Францішкам Багушэвічам, выказваў думку, што яны былі добра знаёмыя ў 1890-я гады: «Багушэвіч — гэта патрыярх сучаснага нацыянальнага адраджэння, а Шыпіла — першы практычны піянер, пачынальнік гэтага адраджэння, — пісаў Адам Станкевіч. — Першы тварыў тэорыю, а другі — жыццё»[3]. Эпімах-Шыпіла нібыта сапраўды сімвалічна звязваў у адну найкаштоўнейшую ніць некалькі стагоддзяў і некалькі культурных эпохаў — канец XIX стагоддзя з яго прадвесцем будучага адраджэння беларусаў і пачатак XX стагоддзя, калі гэтае адраджэнне ўжо расквітнела багатым плёнам дзякуючы нястомнай працы ў ліку іншых самога Эпімаха-Шыпілы.

Асветніцкай і выдавецкай дзейнасці Эпімаха-Шыпілы ў 1910—1920-я гады папярэднічала руплівая збіральніцкая праца ранейшага часу. З 1889 года ён пачаў складаць рукапісную «Беларускую хрэстаматыю», якая захоўваецца цяпер у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэта унікальная крыніца, дзякуючы якой да нас сёння дайшлі многія вершаваныя творы другой паловы XIX — пачатку XX стагоддзя. Менавіта адсюль яны былі ў свой час передрукаваныя і занялі належнае месца ў гісторыі беларускай літаратуры: гэта вершы Фелікса Тапчэўскага, зашыфраванага псеўданімам «Хвэлька з Рукшэніц» («Панскае ігрышча», «Саўсім не тое, што было», «Грошы і праца» ды іншыя); ананімны твор «Гутарка старога дзеда», што прыпісваецца Вінцэсю Каратынскаму; верш «Добрыя весці» Уладзіслава Сыракомлі і рускі пераклад яго гутаркі «Паштальён»; знакамітая паэма «Тарас на Парнасе», перапісаная складальнікам з газеты «Минский листок»; верш Зыгмунта Нагродскага на смерць ягонага сябра Францішка Багушэвіча «На памятку зычліваму для сям'і»; знакамітыя творы Цёткі «Мора» і «Хрэст на свабоду»; адзін з лепшых узораў лірыкі Альберта Паўловіча — верш «Сумная восень» у арыгінале і з некалькімі перакладамі, два з якіх (на польскую і нямецкую мовы) зрабіў сам Браніслаў Эпімах-Шыпіла, а таксама шматлікія іншыя вершы. Як сведчаць крайнія даты дакумента, пачаў Эпімах-Шыпіла запісваць беларускія вершаваныя тэксты ў спецыяльна заведзены для гэтага сшытак летам 1889 года на сваёй роднай Лепельшчыне, апошнія ж запісы былі зроблены напрыканцы жыцця ў 1931 годзе ў Пецярбурзе. Як бачна, на працягу паўстагоддзя не расставаўся Эпімах-Шыпіла са сваёй «Беларускай хрэстаматыяй», хаця выдаць яе так і не паспеў, а можа, і не збіраўся, захоўваючы яе як унікальны беларускі рукапісны альманах.

Збіранне беларускіх тэкстаў у XIX стагоддзі было досыць распаўсюджаным заняткам у асяроддзі асвечанай беларуска-польскай шляхты. Так, вядомыя былі сваімі бібліятэкамі і калекцыямі рукапісных матэрыялаў нясвіжская бібліятэка Радзівілаў, сядзіба Храптовічаў у Шчорсах, маёнтак Аляксандра Ельскага ў Замосці пад Мінскам, дзе ўжо ў канцы XIX стагоддзя збіральніцкая праца гаспадара была скіраваная менавіта на беларускія рарытэты. Гэтую справу на пачатку XX стагоддзя творча пераняалі і працягнулі браты Іван ды Антон Луцкевічы, якія стварылі вядомы Беларускі музей у Вільні (ініцыятарам і пачынальнікам быў, як вядома, Іван, Антон працягваў справу жыцця свайго брата пасля яго смерці ў 1919 годзе), і сам Эпімах-Шыпіла, які сабраў унікальную калекцыю рукапісаў і кніг у сваім родным фальварку Залессе ў Лепельскім павеце. Штогод улетку Эпімах-Шыпіла прыязджаў туды з Пецярбурга. Пачатак збіральніцкай дзейнасці Эпімаха-Шыпілы і яго рукапіснай хрэстаматыі быў пакладзены менавіта ў яго родных мясцінах, на Лепельшчыне. Відавочна, гэта адбылося ў прыватнай бібліятэцы яго суседа Вінцэнта Мяніцкага ў блізкім да Залесся ўладанні апошняга — маёнтку Селігоры.

Калі мы ўважліва прыгледзімся да зробленага мініяцюрнымі літарамі подпісу пад першым вершам «Беларускай хрэстаматыі», а ім быў вядомы рэлігійны верш-гімн «О, мой Божа, веру Табе!», то ўбачым наступную заўвагу: «Спісана ў чэрвені 1889 г. у Селігорах у п. Вінцэнта Мяніцкага з карткі друкаванай» [4]. У той жа час і там жа былі перапісаны «Гутарка старога дзеда» і верш «Добрыя весці» Сыракомлі. Было яшчэ некалькі твораў з такой жа паметай. У свой час аўтара гэтых радкоў зацікавіла постаць невядомага збіральніка беларускіх рукапісаў Вінцэнта Мяніцкага і ў выніку пошукавай працы ў архівах і бібліятэках былі знойдзены яго радавод і ўдакладнены біяграфічныя рэаліі[5].

Радавод, аднак, не даваў падрабязных звестак пра асобу Вінцэнта Мяніцкага, яго гісторыка-культурныя зацікаўленні і далучанасць да справаў беларускага адраджэння.

Некаторае святло на гэтае пытанне праліў ліст яго ўнука Гарольда Мяніцкага з Варшавы да аўтара гэтых радкоў. Так, паводле зместу ліста, Вінцэнт Мяніцкі меў шырокую карэспандэнцыю з вядомым польскім пісьменнікам XIX стагоддзя Генрыкам Сянкевічам, з выдаўцамі тагачасных польскіх часопісаў «Kraj», «Wisła», «Kwartalnik Historyczny» ды іншых. Удзельнічаў ён і ў тагачасным навуковым гістарычным і архівазнаўчым руху, збіраў дакументы, стадрукі. Цікавіўся таксама літаратурай, меў калекцыю беларускіх тэкстаў, аб чым яскрава сведчыць «Беларуская хрэстаматыя» Эпімаха-Шыпілы, які паклаў ёй пачатак менавіта ў Селігорах у Вінцэнта Мяніцкага. Збіраліся ў Селігорах абразы і гравюры. Захавалася фамільная легенда аб тым, што жонка Вінцэнта Мяніцкага Зоф'я Служка-Цяпінская (1863—1916), якая была дачкою паўстанца 1863 года, сасланага ў Сібір, дзе і сама яна правяла дваццаць гадоў свайго жыцця, паходзіла з роду Цяпінскіх, які выводзіўся з XVI стагоддзя і прадстаўніком якога быў славуты беларускі асветнік Васіль Цяпінскі. Гэта таксама цікавая, хоць дакументальна не пацверджаная згадка, якая яднае гісторыю Беларусі даўніх і новых часоў у адзінае духоўнае цэлае, звязанае ў сваё непарыўнае адзінства ніцямі канкрэтных чалавечых лёсаў, што ўтваралі магутны і велічны, часам трагічны, але неадменна слаўны Радавод Беларусі. Такім чынам, можна меркаваць, што Селігоры, прынамсі ў другой палове XIX стагоддзя, былі адным з асяродкаў культуры і духоўнасці на Полаччыне. Менавіта адсюль, праз Браніслава Эпімаха-Шыпілу і яго рукапісную хрэстаматыю, выцякаў адзін са струменьчыкаў жывой вады беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя.

Сама «Беларуская хрэстаматыя» заслугоўвае нешэраговай увагі як збор беларускіх літаратурных твораў, большасць з якіх існавала на працягу доўгага часу ў рукапісах. Аб незвычайнасці гэтага рукапіснага зборніка пісаў у спецыяльным раздзеле «Хрэстаматыя» аўтар першай манаграфіі пра Браніслава Эпімаха-Шыпілу Рыгор Семашкевіч: «"Хрэстаматыя" з'яўляецца адзіным, унікальным дакументам у гісторыі беларускай літаратуры. Лёс яе, праўда, склаўся не зусім шчасліва. Трапіўшы пасля смерці Эпімах-Шыпілы да рускага вучонага Пушкарэвіча, а потым да Бэндэ, яна да сённяшняга дня не траплялася на вочы даследчыкам, і хоць большасць з яе твораў ужо апублікавана, цэласнай характарыстыкі гэтага каштоўнага дакумента не было»[6]. Семашкевіч упершыню зрабіў літаратуразнаўчы аналіз хрэстаматыі, даў каментар да многіх уключаных у яе твораў. Атрыбутаваць некаторыя вершы і ідэнтыфікаваць аўтараў дапамагла таксама грунтоўная архіўна-даследчая праца Генадзя Кісялёва і Вячаслава Рагойшы. Аднак з хрэстаматыяй яшчэ і дагэтуль звязана шмат літаратурных загадак і таямніцаў, якія патрабуюць далейшых навуковых пошукаў. На сённяшні дзень «Беларуская хрэстаматыя» Эпімаха-Шыпілы разам з каментарыямі і са шматлікімі іншымі дакументамі біяграфічнага і творчага характару падрыхтавана да друку як годны помнік патрыярху беларускага нацыянальнага адраджэння. Хочацца спадзявацца, што сёлетні юбілей славутага дзеяча Беларусі паспрыяе выданню гэтай кнігі.

Адметна, што хрэстаматыя адкрывалася беларускім рэлігійным гімнам «О, мой Божа, веру Табе!» Менавіта так належала верніку-хрысціяніну, якім, бясспрэчна, быў Браніслаў Эпімах-Шыпіла, пачынаць усякую справу — ад Бога і дзеля Бога! Гэты твор, названы ў хрэстаматыі «Песьня», — узор народнага малітоўнага верша, а дакладней, касцёльнай песні, якая была шырока распаўсюджанай у XIX стагоддзі. «Песьня» звычайна выконвалася падчас літургіі грамадою вернікаў у святынях або падчас хатняга набажэнства. Як сцвярджаў Адольф Клімовіч, на Віцебшчыне і Магілёўшчыне «Песьня» трывала да Першай сусветнай вайны. Аб гэтым жа пісаў у свой час і Вацлаў Ластоўскі: «Урэшце песня "О, мой Божа, веру Табе!" — гэта самая папулярная духоўная каталіцкая песня. Яна дагэтуль пяецца ў касцёлах у некалькіх парафіях Магілёўшчыны»[7]. Варыянт гэтай песні быў надрукаваны таксама як народны рэлігійны гімн у зборніку «Беларускія народныя песні» П.Шэйна (1874), аднак у тэкстах маюцца істотныя адрозненні: так, апрача іншага, запісаны Эпімахам-Шыпілам варыянт на тры страфы даўжэйшы за варыянт, запісаны Шэйнам. Эпімах-Шыпіла, падаючы тэкст «Песьні» ў сваёй хрэстаматыі, называе ў паслятэкставым каментары імя полацкага біскупа Якуба Мартусевіча як яе аўтара. Адольф Клімовіч, які даследаваў і збіраў рэлігійныя песні ў Заходняй Беларусі і ў паваеннай Вільні, таксама пісаў, што гімн «О, мой Божа, веру Табе!» быў «зложаны ў 1829 годзе полацкім біскупам Мартусэвічам»[8]. Аб шырокай папулярнасці песні сведчыць таксама выкарыстанне яе Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам у вершаванай аповесці «Вечарніцы». У гэтым творы вясковая грамадка збіраецца да старога Ананіі ў хату, каб правесці доўгі зімовы вечар за казкамі і кудзеляй, і перш чым апавядаць свае байкі, стары Ананія заклікае пачынаць усякую добрую справу «ад Бога» — гэта значыць з малітвы. У якасці малітвы прысутнымі была выканана якраз названая песня:

*Тут дзед старэнькі голас свой падняў*
*Дый «Ах, мой Божа! Веру» заспяваў,*
*А стары, малы калені згібалі,*
*Пець святу песню дзеду памагалі*[9].

Многія беларускія вершаваныя творы, перапісаныя на працягу жыцця Браніславам Эпімахам-Шыпілам, не ўвайшлі ў названую рукапісную хрэстаматыю і засталіся ў розных архіўных зборах. Калекцыю духоўных твораў, сабраных вучоным, папоўніў надрукаваны ў каталіцкай газеце «Belarus» у 1913 годзе верш «Дзесяць Боскіх прыказанняў», які таксама выконваўся ў святынях падчас набажэнстваў як песня на матыў «Ах, мой Божа, веру Табе!». (Заўвага: у хрэстаматыі першы радок запісаны як «О, мой Божа, веру Табе!»). Зважаючы на даўнасць і маладаступнасць выдання гэтага духоўнага твора, падаём яго для чы-

тачоў «Нашай веры» ў кірылічнай транскрыпцыі.

Ушаноўваючы ўрачыстую юбілейную дату — 150 гадоў з дня нараджэння руплiўца беларускага культурнага і духоўнага адраджэння — скіроўваем разважанні на тое, што неймаверна тытанічны абсяг працы настаўніка, асветніка, вучонага, а таксама ўсе выпрабаванні, якія выпалі на яго долю, Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла здолеў з высокай годнасцю выканаць і вытрымаць, бо ў сваёй пакліканасці да гэтага подзвігу ён, несумненна, быў асвечаны жыватворчай моцай Божае ласкі.

[1] Спадчына, 1989. 2. – С. 29.
[2] Станкевіч А. Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла // Калоссе. Вільня. 1935. – 2. – С.103.
[3] Беларуская Крыніца. Вільня. 1934. 16 снеж.
[4] БДАМЛІМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 1256, арк. 3.
[5] Аб гэтым зацікаўлены чытач зможа прачытаць у нашай кнізе: Багдановіч І.Э. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. – Мінск: Беларуская навука, 2001. – С. 48–57.
[6] Семашкевіч Р. Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Мінск, 1968. – С. 17.
[7] Выпісы з беларускае літаратуры. Злажыў і выдаў В.Ластоўскі. Часць 1. Вільня, 1916. – С.18.
[8] Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ Беларусі. Ф.5, воп. 1, адз.зах. 14, арк.1.
[9] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мінск, 1984. – С. 211.


Hod I. Wilnia 8 Žnlunia 1913 hodu № 21.

BIEŁARUS

tydniowaja katalickaja hazeta.

Kasztuje s pierasyłkaj: na hod 1 rb. 50 kap. na 6 miesiacau 80 kap. addzielny numer 3 kaplejki.

Rukapisy pawinny być padpisany pfaudziwaj familijej dziela wiedama redakcii, inaksz nia buduć drukawany; rukapisy nie zwiertajucca. Hroszy možna pasyłać pacztowymi markami.

Usie adresawać: Wilnia Wilenskaja wulica, № 18 kw. 6. Redakcija „Bielarusa".

Szkada mnie hetaho narodu... bo nie maje czaho ješci (słowy Chrystusa).

Dziesiać Boskich prykazańniau.

(Piajecca na notu „Ach, moj Boże, wieru Tabie!")

Hej, wy ludzi, chryścijanie!
Zbierahajcie prykazańnia,
Szto Boh każeć, prykazujeć,
Szto nia wolna, zakazujeć!

Pierszaje znajmieńnie Boha:
Ty nia miej sabie druhoha,
Nia wier u gusły, u szepty, u czary,
A jdzi do Bożaj achwiary.

A druhoja: nie bażysia
I duszoju nie klanisia:
Hety hrech, Bohu nia luby,
Prywodzie duszu da zhuby.

A treciaja treba znaci,
Dzień niadzielny światkawaci,
Chadzić u kaściol malicca,
Służyć Bohu nie lanicca,

Czaćwiertaja: szanuj baćku
I poważaj swaju matku:
Chto ajca, matku szanujeć,
Tamu Boh wieku darujeć.

Piataja woś: nie zabiwaj,
Czużoj krywi nie praliwaj:
Krou klicze pomsty ad Boha;
Nie zabiwajżeż nikoha!

A szostaja: zbirahajsia,
Czużałożstwam nie marajsia:
Hety hrech duszu pahubić;
Jaho Boh duża nia lubić.

Siomaja: Nie kradź niczoha!
I nie nawuczaj nikoha;
Ni z skacinki, ni z adzieży,
Nia rob nijakaj kradzieży.

Wośmaja: nia świedcz chwalszywa;
Żywi z ludźmi sprawiadliwa;
Nie nalehaj ni na koha;
Pakiń hraszyć, bojsia Boha!

Dziewiataja: Ścierażysia,
S czużoj żonkaj nie wadzisia,
Nia jszczy pryczyny da hrechu,
Pakiń czartousku uciechu.

Dziesiataja: Ani domu
Nie zawidywaj nikomu,
Ni skacinki, ni paszeńki,
Żywi z ludźmi charaszeńka;
Żywi z ludźmi z Boham z Panam
Aż na wieki wiekau. Amen.

Zapisau ad wialebnaha ksiandza Andreja Bujewicza rodam z Lepla Witebskaj huberni, katory byu wice proboszczam kaściola św. Kaciaryny u Piaciarburzi, a ciapier Maskouski wajskowy kapelan. Jon czuú jaje ad starcou padkaścielnych.

Br. Epimach-Szypillo.

# Дзесяць Боскіх прыказанняў*

## (Пяецца на матыў «Ах, мой Божа, веру Табе!»)

Гэй, вы людзі, хрысціяне!
Зберагайце прыказання,
Што Бог кажэць, прыказуець,
Што не вольна, заказуець!

Першае знайменне Бога:
Ты не мей сабе другога,
Не вер у гуслы, у шэпты, у чары,
А йдзі да Божай Ахвяры.

А другое: не бажыся
І душою не кляніся:
Гэты грэх Богу не любы,
Прыводзе душу да згубы.

А трэцяе трэба знаці,
Дзень нядзельны святкаваці,
Хадзіць у касцёл маліцца,
Служыць Богу не ляніцца,

Чацвертае: шануй бацьку
І паважай сваю матку:
Хто айца, матку шануець,
Таму Бог веку даруець.

Пятае вось: не забівай,
Чужой крыві не пралівай:
Кроў кліча помсты ад Бога;
Не забівай жа ж нікога!

А шостае: збірагайся,
Чужаложствам не марайся:
Гэты грэх душу пагубіць;
Яго Бог дужа не любіць.

Сёмае: не крадзь нічога!
І не навучай нікога;
Ні з скацінкі, ні з адзежы,
Не роб ніякай крадзежы.

Восьмае: не сведч хфальшыва;
Жыві з людзьмі справядліва;
Не налягай ні на кога;
Пакінь грашыць, бойся Бога!

Дзевятае: сцеражыся,
З чужой жонкай не вадзіся,
Не йшчы прычыны да грэху,
Пакінь чартоўску уцеху.

Дзесятае: ані дому
Не завідывай нікому,
Ні скацінкі, ні пашэнькі,
Жыві з людзьмі харашэнька;
Жыві з людзьмі, з Богам з Панам
Аж на векі векаў. Амэн.

*Запісаў ад вялебнага ксяндза Андрэя Буевіча родам з Лепля Віцебскай губерні, каторы быў віцэ пробашчам касцёла св. Кацярыны ў Пецярбурзе, а цяпер Маскоўскі вайсковы капелан. Ён чуў яе ад старцаў падкасцельных.*

*Бр. Эпімах-Шыпілло*

* Друкуецца паводле тыднёвай каталіцкай газеты «Bełarus» (1913 г., 8 жніўня) з захаваннем некаторых моўных асаблівасцяў.



Алтар Маці Божай Ружанцовай. Каля 1730 г. Касцёл францішканаў. Пінск.

Аўтарам артыкула ўпершыню зроблена спроба паказаць адкрыццё беларускіх рэстаўратараў і ўвесці яго ў навуковы ўжытак. Гутарка ідзе пра паліхромію разьбяных алтароў.

Рэстаўрацыя ў пінскім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі была, верагодна, першай і адзінай, выкананай з дазволу ўладаў і пад навуковым кантролем. Рэстаўрацыя ў дзейным касцёле і клопат органаў аховы пра навуковасць здаваліся «патураннем» уладаў Касцёлу, культуры і гісторыі пры ўсеагульным атэістычным уціску.

Алтар Маці Божай Ружанцовай і сёння не расчышчаны, але вынікі даследаванняў і зандавання фарбавальных слаёў дазволілі дваццаць пяць гадоў назад выканаць праект рэканструкцыі і паказаць ва ўсёй прыгажосці і арыгінальнасці манументальны твор старых беларускіх майстроў, сказаць пра забытую традыцыю паліхромнага вырашэння ў будаўніцтве касцёльных алтароў перыяду Барока. Хутчэй за ўсё, паліхромныя вырашэнні ў XVIII стагоддзі былі не адзінкавымі выпадкамі і прымяняліся не толькі ў інтэр’ерах. Даследаванні і расчысткі алтароў, да якіх не дакраналася рука рэстаўратара, але якія ў чарговы раз былі старанна перафарбаваныя і паноўленыя ў сувязі з рэлігійным рэнесансам у нашай краіне, магчыма, пацвердзілі б гэтае меркаванне. Выкарыстанне колеру ў дэкоры алтароў і архітэктурных збудаванняў было, напэўна, звычайнаю, забытаю сёння справаю.

*Аркадзь Шпунт*

Алена Карпенка

# Да гісторыі алтара Маці Божай Ружанцовай у пінскім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

Пінск — адзін з самых старажытных гарадоў Беларусі. Упершыню ён згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1097 годам. Разам са спрадвечна праваслаўнымі цэрквамі і манастыром (Ляшчынскім) тут ужо ў канцы XIV ст. пінскім і тураўскім князем Жыгімонтам Кейстутавічам па просьбе яго жонкі Ганны Мазавецкай быў заснаваны каталіцкі францішканскі комплекс. Неўзабаве кляштар стаў адным з самых багатых у Вялікім Княстве Літоўскім, бо атрымліваў шматлікія ахвяраванні ад вялікага князя Казіміра Ягелона, караля Аляксандра, каралевы Боны, Жыгімонта II Аўгуста, Уладзіслава IV.

Першапачатковы касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, заснаваны ў 1396 г., быў драўляным. На працягу XVI–XVII стст. яго пабудовы згарэлі і адбудоўваліся таксама з дрэва. Захаваўся інвентар касцёла, адноўленага ў 1675 годзе[1], у якім апісаны архітэктурныя формы будынка і шэсць алтароў — галоўны і пяць бакавых: святога Францішка, святога Антонія, Панны Марыі, Звеставання, святой Ганны.

У другой палове XVII ст. была створана асобная літоўская правінцыя, у якой пінскі францішканскі кляштар лічыўся адным з самых буйных. На працягу 1687–1723 гг. была ўзведзена каменная пабудова, устаноўлены шэсць алтароў і амбоны. 7 мая 1730 г. адбылася кансэкрацыя касцёла. Фасад і кляштарныя корпусы былі завершаныя ў 1766 годзе. У 1817 г. па праекце архітэктара Казіміра Каменскага перад касцёлам была пастаўлена званіца. Пазней, у 1820 г., яна была надбудаваная.

Цяпер мастацкія вартасці інтэр’ера складае манументальна-дэкаратыўны комплекс алтароў, завершаных да 1730 г.: галоўнага — Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, на стыках навы і прэзбітэрыя — святога Францішка і Езуса, алтароў у капліцах — Маці Божай Ружанцовай, святога Антонія Падуанскага, святых Ганны, Яўхіма і Марыі (раней — святога Юзафа, па інвентары 1829 г.). Ёсць таксама алтары Арханёла Міхала

**Алена Карпенка** — мастацтвазнаўца, загадчыца аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Закончыла Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Рэпіна ў Санкт-Пецярбурзе (1984 г.). Аўтар каталогу «„Образ литой, старинный...” Медное литьё XII–XX веков из собрания Национального художественного музея Республики Беларусь» (2006), альбома-каталогу «Православная икона России, Украины, Беларуси» (2008), аўтар артыкулаў «Гравюры изданий Киево-Печерской лавры как иконографический источник для белорусской иконописи XVII–XVIII веков» (у зборніку «Могилянскія читанні», на укр. мове, 2002), «Рускае меднае ліццё ў зборы НММ РБ» (у зборніку дакладаў «Стараабрадная ікона», на польск. мове, 2008) і інш.



Алтарная ніша.
Задняя сценка.
У працэсе рэстаўрацыі.

і святой Барбары, выкананыя ў тэхніцы гіпсавай лепкі і роспісу ў другой палове XVIII ст. Сваё мастацкае значэнне маюць афармленне табэрнакулюма і амбоны з мноствам скульптураў і разьбяных арнаментальных элементаў.

Аўтарам дэкаратыўнага аздаблення касцёла лічыцца Ян Шміт (пам. у 1731 г.), які працаваў у той час у францішканаў, у прыватнасці, у кляштарным комплексе вёскі Гальшаны (цяпер Гродзенская вобласць). Гэтае меркаванне, выказанае польскім даследчыкам К. Кантакам у пачатку XX ст.[2], да цяперашняга часу захоўваецца ў навуковай літаратуры.

Пінскі ансамбль як помнік архітэктуры часта згадваецца ў спецыяльнай літаратуры ў розных аспектах. Публікаваліся таксама асобныя творы яго жывапісу, скульптуры і ўжытковага мастацтва. Найбольш поўна і ўсебакова яго даследаваў беларускі мастацтвазнаўца А.А. Ярашэвіч. На аснове захаваных дакументаў ён вывучыў гісторыю будавання ансамбля, зрабіў апісанне алтароў, вызначыў іх верагоднае датаванне і частковую рэканструкцыю[3]. У пачатку 1980-х гг., калі ў касцёле праводзілася рэстаўрацыя, з'явілася магчымасць дапоўніць вядомыя звесткі пра пінскі ансамбль новымі дадзенымі (вынікі комплекснага аналізу выкананых даследаванняў не разглядаліся ў спецыяльнай літаратуры).

У гэтым артыкуле мы звернем увагу на унікальны, яшчэ не апублікаваны матэрыял, які датычыцца рэстаўрацыі жывапісу і паліхромнай разьбы інтэр'ера касцёла, а таксама ўдакладнім іканаграфію некаторых твораў.

Абследаванне помніка ў 1980-я гг. выявіла аварыйнае становішча ляпнога і разьбянага дэкору. Апошні раз інтэр'ер рэстаўраваўся мастаком з Варшавы Станіславам Рудзінскім у 1909 годзе. У 1981 г. у касцёле пачалася планамерная праца, якая праводзілася пад кіраўніцтвам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР. Асноўнымі выканаўцамі работы былі А. С. Шпунт і П. Г. Журбей (цяпер супрацоўнікі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, рэстаўратары вышэйшай катэгорыі). Упершыню ў Беларусі былі праведзены ўсебаковыя даследаванні алтарнага ансамбля, якія далі магчымасць прасачыць і зафіксаваць змены помніка ў часе.

У ходзе працы былі выяўлены факты, якія істотна ўдакладнілі гісторыю стварэння і існавання алтара Маці Божай Ружанцовай. Алтар размешчаны ў капліцы на паўночнай сцяне, каля галоўнай апсіды, звернуты да галоўнай навы. Архітэктурна-планавальная кампазіцыя алтара ўяўляе з сябе шасцікалонны порцік на высокім цокалі, увенчаны дэкаратыўнай глорыяй, якая абламоўвае паўцыркульнае акно бакавой навы. У цэнтры алтара пад разьбяным балдахінам у дэкаратыўнай раме знаходзіцца адлюстраванне Маці Божай Ружанцовай, створанае, хутчэй за ўсё, у XVII ст., пад срэбным чаканным акладам (1775 г., вота датаваная 1620 г.). Па баках — скульптуры арханёлаў Габрыэля і Міхала, святых Георгія і Казіміра. У бакавых крылах — маляўнічыя палотны XVIII—XIX стст.: Ганна, Яўхім, Марыя і Маці Божая Сямістрэльная (Балесная). На антэпендыуме — разьбяныя клеймы з сімвалічнымі адлюстраваннямі. У цэнтры — Арка запавету, Брама нябесная, Залаты дом. Па баках у два ярусы — Люстра справядлівасці, Сталіца мудрасці і Ружа містычная, Сталіца мудрасці.

У ніжняй частцы ў трох рамах, дзве з якіх металічныя, а знешняя драўляная, змешчана невялікая карціна (34 х 31 см), выкананая алеем на метале «Святая Сям'я са святым Францішкам». У верхнім ярусе — анёлы, якія спяваюць песню хвалы, і дзве скульптуры невядомых святых без атрыбутаў (на думку А. А. Ярашэвіча — святыя Марыя і Альжбета).

Выява Маці Божай Ружанцовай акружаная ў верхняй частцы круглымі клеймамі, якія хstation храналагічна чытаюцца справа налева: «Звеставанне», «Сустрэча Марыі з Альжбетаю», «Нараджэнне Пана», «Ахвяраванне Пана», «Хрыстус юнак у святыні». На раме таксама ёсць круглыя клеймы, выкананыя ў тэхніцы грызайль.

Развіццё сюжэтаў паказана супраць гадзіннікавай стрэлкі: «Бічаванне Хрыста», «Укаранаванне цернем», «Укаранаванне Маці Божай», «Езус нясе крыж» і, верагодна, «Малітва ў Гефсіманскім садзе». Вызначэнне апошняга сюжэта — нашае меркаванне, заснаванае на метадзе выключэння. У публікацыях сюжэты клеймаў на раме не апісаныя, але ў рэстаўрацыйных дакументах ёсць іх фотаздымкі. Фотаздымак апошняга кляйма выкананы да рэстаўрацыі, і адлюстраванне на ім амаль немагчыма распазнаць.

У час рэстаўрацыйных працаў ікону вынялі з алтара і выявілася, што яна двухбаковая. На адваротным баку адлюстраваны Хрыстус у карычневым хітоне, які нясе крыж. Да яго папярочнай жэрдкі прымацаваныя лесвіца, калона, коп'і — знакі Мукі Пана. Постаць акружаная авальным ззяннем. Хрыстус стаіць на гарызантальнай перакладзіне манаграмы з ружаў, якая абазначае Яго імя. Пад манаграмаю — сэрца і цярновы вянец. Ніжэй, па баках, у аблоках — паясныя адлюстраванні анёлаў, якія ўзносяць малітвы да Бога. Гэты твор не публікаваўся і не вывучаўся як іканаграфічны.

Кампазіцыя твора пабудавана на аснове заходнееўрапейскіх выяўленчых крыніцаў XIV—XVI стст., у якіх часта распрацоўваліся сцэны Крыжовага шляху. Адзін з самых ранніх прыкладаў іканаграфіі «Знакаў Мукі» — індульгенцыя, аб'яднаная з 1216 г. з малітвай перад абразом «Хрыста Нерукатворнага», у якой пералічваліся прадметы для катавання. У еўрапейскім мастацтве, асабліва ў перыяд Паўночнага Адраджэння, такія сюжэты ёсць у жывапісе станковым (Раберто дзі Агепесіо) і манументальным (Фра Бэато Анжэліко), у графіцы (Урс Граф, Вольф Траут) і ўжытковым мастацтве. М. В. Пакроўскі прыводзіць апісанне ліста з «Сійскага іканапіснага аўтэнтыка» другой паловы XVII ст.



Федэрыко Барочча (1526–1612). Святая Сям'я. Італія. 2-я пал. XVI ст. Гравюра са збору Нацыянальнага Кіева-Пячорскага гісторыка-культурнага запаведніка.

(л. 212), падобнага да кампазіцыі пінскага помніка: «1. Хрыстус стаіць без німба, у Яго дзясніцы — чатырохканцовы крыж, да якога ў месцы перасячэння жэрдкаў прымацаваны цярновы вянец, у левай руцэ — посах і кап'ё з губкаю, унізе — лесвіца, цвікі, малаткі, начынне, абцугі, кап'ё, калона з бічом...»[4]. Найбольш ранняй літаратурнай крыніцаю такіх кампазіцый з'яўляецца апакрыфічнае казанне пра муку Езуса Хрыста і створаная на яго аснове кніга «Мука Пана», перакладзеная з польскай мовы на беларускую у XV ст.[5] У еўрапейскай графіцы маленькі Езус часцей за ўсё адлюстроўваецца з дзяржавай або скруткам у атачэнні анёлаў, якія нясуць знакі Мукі Пана. У пінскім помніку праявілася своеасаблівае спалучэнне іканаграфіі «Нядрэмнага Вока»[6], пашыранай у беларускім і ўкраінскім мастацтве, з заходнееўрапейскай варыяцыяй «Крыжовага шляху». Такая іканаграфія вобраза Хрыста — унікальная для беларускага мастацтва. Нам удалося падабраць блізкія аналогіі ў жывапісе Літвы другой паловы XVII ст. Гэта дзве карціны з аднаго алтара ў Кантаўчы. У цэнтры — Маці Божая Ружанцовая са святым Дамінікам, уверсе — Хрыстус юнак, які стаіць на фоне крыжа на манаграме з тонкім жазлом наперавес[7]. У гэтым жа выданні зроблена рэпрадукцыя ферaтрона XVIII ст. Малады Езус у кароне прытрымлівае крыж левай рукою, а пад перакладзінаю манаграмы схематычна адлюстраваныя дзве галоўкі анёлаў[8]. Можна меркаваць пра ўстойлівасць такога спалучэння сюжэтаў: «Маці Божая Ружанцовая — Хрыстус юнак». Іканаграфічнаю крыніцаю такіх кампазіцый былі іконы-індульгенцыі, нямецкія і польскія гравюры, а таксама зборнік іканаграфічных выяваў «Лицевые страсти», якія траплялі на Беларусь праз Польшчу і Украіну.

Рама гэтага іканаграфічнага твора ўпрыгожаная тэматычнымі клеймамі: «Уваскрэсенне», «Унебаўшэсце Хрыста», «Укрыжаванне», «Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі», «Спасланне Духа Святога». Такім чынам, сюжэты клеймаў ферaтрона будуюцца на спалучэнні пятнаццаці радасных, хвалебных і балесных ружанцовых таямніцаў, што раней не адзначалася даследчыкамі. Сярод беларускіх іконаў такой паўнатой іканаграфіі вылучаецца толькі вобраз Маці Божай Ружанцовай

XVIII ст. з вёскі Радунь Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці[9].

Даследаванне рэстаўратарамі месца размяшчэння фератрона паказала, што ў задняй драўлянай сценцы алтарнай нішы выпілаванае гняздо памерам 43 х 47 см, якое дакладна адпавядае памерам твора «Святая Сям'я» ў дзвюх металічных рамах. Таксама ёсць сляды дэталяў дэкаратыўнага аблямавання, пакінутыя ў выніку позніх фарбаванняў. Гэтая інфармацыя ўпершыню была апублікаваная беларускаю даследчыцаю Н. Ф. Высоцкаю ў каталогу выставы 1989 г. (наклад 1000 ас.), якая экспанавалася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь[10]. У 2001 г. А. А. Ярашэвіч апублікаваў сваё тлумачэнне гэтага факта. На яго думку, гэта здарылася ў 1831 г., калі фератрон «Маці Божая Ружанцовая. Езус» быў перанесены да францішканаў пасля пераабсталявання пінскага дамініканскага касцёла, дзе ён захоўваўся, у праваслаўны Фёдараўскі сабор[11]. У выніку пасля змены галоўнага абраза змянілася і назва алтара.

Можна дапусціць, што алтар быў створаны ў 1730-я гг. спецыяльна для карціны «Святая Сям'я з Францішкам», якая ацалела ў пажарах і войнах XVII ст. У выніку даследаванняў — пробных расчыстак, зандавання фарбавальных слаёў, аналізу пігментаў і злучальных матэрыялаў — была выканана графічная рэканструкцыя алтара. На эскізе (прамалёўцы) першапачатковага выгляду паказаны алтар «Святой Сям'і». Ікона акружаная двайной металічнаю рамаю, зверху і па баках — драўляная разьба: «Дух Святы» ў выглядзе голуба, стылізаваныя аблокі. Ніжэй — гарызантальная таблічка, верагодна, для надпісу або размяшчэння вотыўных падвескаў. Пад ёю — месца для табэрнакулюма. Да пачатку XIX ст. лак на карціне значна пацямнеў і, верагодна, яна была заменена іконаю «Маці Божая Беззаганнае Зачацце», якая ў інвентары касцёла 1829 г. згадваецца як алтарная. З архіўнага апісання размяшчэння алтароў вынікае, што тут знаходзіліся «10 фігур драўляных і два абразы: адзін у срэбнай шаце, другі на палатне»[12]. У цэнтры алтара рэстаўратарамі знойдзены сляды карціны, якая была большай па памерах, чым «Святая Сям'я», і знаходзілася там раней за фератрон «Маці Божая Ружанцовая», што пацвярджае нашае меркаванне. Затым, у канцы XVIII — пачатку XIX ст., адбылася чарговая замена і алтар атрымаў адпаведную ёй назву. Карціна «Святая Сям'я з Францішкам» была ўпершыню апублікаваная Н. Ф. Высоцкай у 1983 г. як праца італьянскага майстра другой паловы XVI ст.[13]. Нядаўна беларуская даследчыца-мастацтвазнаўца Н. Я. Трыфанава выявіла несумненнае падабенства пінскага помніка з гравюраю, выкананай з карціны Федэрыко Барочы (1526–1612) «Мадонна з кацянём»[14]. Гравюра знаходзіцца ў зборы Нацыянальнага Кіеўска-Пячорскага гісторыка-культурнага запаведніка[15]. Аўтар алтарнай карціны спрацоўў кампазіцыю. Замест Яна Хрысціцеля, які гуляе з птушкаю, ён адлюстроўвае святога Францішка, які з глыбокай пашанаю і набожнасцю дакранаецца да рукі Немаўляці. Невядомы мастак адмовіўся ад лішніх дэталяў, наблізіў персанажы да гледача і надаў сюжэту ўзвышаную адушаўлёнасць. Цнатлівасць мясцовага майстра выявілася ў імкненні прыхаваць галізну Немаўляці тонкаю тканінаю і паказаць Божую Маці ў закрытай сукенцы. Гісторыя гэтага твора нам невядомая. Ёсць меркаванне, што ён прывезены з Італіі, дзе і быў створаны. На нашу думку, гэтая праца магла быць выканана мясцовым майстрам па замове пінскіх францішканаў у першай палове XVII ст., калі ў Беларусі існавалі ўсе ўмовы для развіцця партрэтнага жывапісу і майстры актыўна выкарыстоўвалі дасягненні еўрапейскай культуры. Што датычыць тэхналогіі, на першы погляд незвычайнай, то метал быў вядомы тутэйшым мастакам у якасці асновы для сармацкіх надмагільных партрэтаў. Традыцыя выкарыстання гравюраў як узораў для жывапісу існавала на беларускіх землях з XVI ст. Высокі ўзровень мясцовых майстроў дэманструе ікона «Пакланенне мудрацоў» XVI–XVII стст. з в. Дрысвяты Браслаўскага раёна Віцебскай вобласці (Музей старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі). Параўнанне гэтых твораў дае ўяўленне пра помнікі адной плыні, у якіх дамінуе вобразная выяўленчасць еўрапейскага рэнесансу. Даследаванне карціны «Святая Сям'я» паказала, што яе фарбавы слой знаходзіцца ў добрым стане — рэстаўратары толькі знялі забруджванні з паверхні карціны.

У выніку даследавання помніка выявілася, што кораб алтара правіс, перакасіўся і павінен быць умацаваны. Рэстаўратары выраўнялі яго сценкі, увялі новыя дэталі з дубу, дэзінфекталі драўніну спецыяльнымі растворамі. Устаноўлена, што старыя майстры выкарыстоўвалі ў працы такія віды драўніны як ліпа, сасна, елка. У дэкаратыўнай разьбе яны спалучалі глухую (дзяўбаную) разьбу з аб'ёмнаю, скразною. Для беларускіх майстроў характэрная тэхналогія паліхроміі скульптуры. Грунт клеевакрэйдавы, пазалота і пасярэбранне ляжаць на цёмначырвоным паліменце, роспісы выкананыя тэмпернымі фарбамі, ёсць лакавае пакрыццё. Задача рэстаўратараў заключалася ва ўмацаванні грунту і фарбавага слоя па методыцы Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута рэстаўрацыі (Масква), расчышчэнні лаку, аднаўленні страчаных дэталяў. Умацаванне грунту і фарбавага слоя паліхромнай скульптуры выконвалася палімернымі матэрыяламі: СВЭД і ВА2ЭГА. За мінулыя больш чым 20 гадоў кантрольныя

абследаванні не выявілі разбурэння грунту і фарбавага слоя і паказалі ўстойлівасць матэрыялу да зменаў тэмпературна-вільготнаснага рэжыму. У асобных выпадках выконваліся вырэзванні дэкаратыўных дэталяў па аналогіях або замяшчэнне страчаных атрыбутаў. Напрыклад, святы Юры раней трымаў у правай руцэ шаблю або меч, ад якога засталося толькі дзяржальна. Па рашэнні рэстаўрацыйнай рады адсутная дэталь была замешчана новаю. Роспісы алтара неаднаразова абнаўляліся. Былі праведзены шырокамаштабныя даследаванні па выяўленні першапачатковага выгляду алтара. Вынікі былі зафіксаваныя ў спецыяльных планшэтах, выкананых па ініцыятыве рэстаўратараў А. С. Шпунта і П. Г. Журбея. Гэты матэрыял не быў апублікаваны і толькі аднойчы, у 1989 г., дэманстраваўся ў Нацыянальным мастацкім музеі РБ на выставе, прысвечанай рэстаўрацыі музейных каштоўнасцяў у БССР. На планшэтах былі прадстаўлены этапы каларыстычнага вырашэння алтарнай паліхроміі ў 1730-я гг., на мяжы XVIII—XIX стст. і ў наш час. Фізіка-хімічныя даследаванні паказалі, што ў аўтарскай паліхроміі выкарыстаны натуральныя пігменты на злучальным матэрыяле жывёльнага паходжання: індыга, кінавар чырвоная, яр-мядзянка, вохра чырвоная. Алтар выглядаў ярка і дэкаратыўна. Экспрэсіўны стыль эпохі Барока атрымаў найбольш поўнае выяўленне ў спалучэнні чырвоных і зялёных плоскасцяў з асобнымі пазалочанымі і пасярэбранымі дэталямі. Сёння цяжка ўявіць такое багацце фарбаў у інтэр'еры. Класіцызм прынёс сваё разуменне колеравай гамы, і з той пары нават самыя раннія помнікі адлюстроўвалі каларыстычныя густы больш позняга часу. Пры рэстаўрацыі амаль ніколі не аднаўляецца першапачатковая расфарбоўка алтароў. Тым часам даследчыя працы, праведзеныя летам 2003 г. у касцёле езуітаў у Гродне, паказалі наяўнасць яркай паліхроміі пачатку XVIII ст. на большай частцы алтароў. Падчас пробных расчыстак былі выяўлены тонкія арнаментальныя роспісы на сталях каля галоўнага алтара, цяпер пакрытыя карычневым колерам, пацверджана паліхромія амбоны. Гэтыя звесткі змяняюць звыклае ўяўленне пра эмацыйнае і эстэтычнае ўспрыняцце інтэр'ера сучаснікамі. На мяжы XVIII—XIX стст. роспісы пінскага алтара аднаўляліся ўжо ў іншым колеры (мал. 9). Былі выкарыстаны краплак, вохра залацістая, карычневыя землі. Асноўным стаў пурпурова-фіялетавы колер, на якім выйгрышна выглядалі пазалочаныя дэталі. Для новага часу была больш характэрная класіцыстычная строгасць. Цяпер інтэр'ер касцёла аздоблены стрыманымі зеленаватымі колерамі — гэта вынік аднаўлення роспісаў у 1909 г., захаваны пры рэстаўрацыі 1980-х гадоў.

У выніку сабраных намі звестак устаноўлена:

**1.** Даследаванне пінскага касцёла было і застаецца адзіным прыкладам комплекснага вывучэння манументальна-дэкаратыўнага ансамбля XVIII ст. у Беларусі.

**2.** У час рэстаўрацыйных прац атрыманы важныя гістарычныя звесткі пра рэканструкцыю алтара «Святой Сям'і з Францішкам» і яго перайменавання ў алтар «Беззаганнага Зачацця», а затым «Маці Божай Ружанцовай», не адзначаныя ў архіўных дакументах і не ўстаноўленыя даследчыкамі да пачатку рэстаўрацыі.

**3.** Дзякуючы рэстаўратарам у навуковы ўжытак уведзены новыя помнікі, якія ўзбагацілі гісторыю беларускага мастацтва. Такія адкрыцці працягваюцца. Дзесяць гадоў таму ў працэсе раскрыцця жывапісу рэстаўратарам Аркадзем Шпунтам удалося ўдакладніць іканаграфію «Маці Божай Адзігітрыі» ў галоўным алтары касцёла Яна Хрысціцеля XVII—XVIII стст. у в. Камаі Віцебскай вобласці. Пры выдаленні позніх запісаў на абліччы Маці Божай былі выяўлены сляды «раненняў», звязаныя з іканаграфіяй «Маці Божай Чэнстахоўскай».

**4.** Для беларускіх даследчыкаў адкрываецца новая тэма — сістэма алтарнай паліхроміі ў інтэр'ерах касцёлаў XVII—XIX стст., — якая патрабуе грунтоўнага даследавання манументальна-дэкаратыўных ансамбляў гэтага перыяду.

*Выказваю вялікую падзяку мастаку-рэстаўратару вышэйшай катэгорыі Аркадзю Шпунту за дапамогу ў падрыхтоўцы артыкула.*

---

[1] Ярашэвіч А. Пінскія кляштары. Наша вера. 3 (9), 1999. С. 27.
[2] Kantak K. Franciszkanie Polscy. T. II. Kraków, 1917.
[3] Ярашэвіч А. А. Архітэктурна-скульптурны ансамбль касцёла францысканцаў у Пінску // Барока ў беларускай культуры і мастацтве. – Мінск: Беларуская навука, 2001. С. 187–203.
[4] Покровский Н.В. Евангелие в памятниках иконографии. Москва, 2001. С. 467.
[5] Гнутова С.В. Орудия Страстей Христовых на русских крестах XVII–XIX веков // Филевские чтения. Вып. 5. Москва, 1994. С. 72–74.
[6] «Нядрэмнае Вока» — адна з рэдкіх іканаграфій вобраза Езуса юнака ўяўляе з сябе сімволіка-містычную кампазіцыю, якая атрымала асаблівае развіццё ў сценапісе балканскіх святыняў XIV–XVI стст. У рускім жывапісе, у адрозненне ад балканскага, ложа, на якім ляжыць Хрыстус, адлюстроўваецца не на пустынным фоне, а на фоне мноства пладаносных дрэваў. Да Юнака з расплюшчанымі вачыма спускаецца анёл са Знакамі Мукі (Паводле: Филатов В. В. Словарь изографа. Москва, 2000. С. 125).
[7] Matušakaitë. Senoji med•io skulptûra ir dekoratyvinë dro•yba Lietuvoje. 1998. S. 245.
[8] Тамсама. С. 296.
[9] Ярашэвіч А. Абразы Маці Божай Ружанцовай. Наша вера. 3 (21), 2002. С. 5.
[10] Реставрация музейных ценностей в Белорусской ССР / Автор-составитель Н. Ф. Высоцкая. Минск, 1989.
[11] Ярашэвіч А. Тамсама. С. 6.
[12] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1781, воп. 827, адз. зах. 452.
[13] Пластыка Беларусі XII–XVIII стагоддзяў / Аўтар-складальнік Н. Ф. Высоцкая. Мінск, 1983. Іл. 120.
[14] Да 1577 г. Палатно, алей. 112,7x92,7 см. Лонданская Нацыянальная галерэя.
[15] Трифонова Н.Я. Гравюра «Святое Семейство» Ф. Бароччи из собрания Национального Киево-Печерского историко-культурного заповедника и одноименная картина из Пинского францисканского костёла // VII Міжнародні Могилянскія читанні, що присвячуються 130-й річниці заснування церковно-археологічного музею при Київській Духовній академії. «Музейна справа в Україні на зламі тысячоліть». Київ, 2003. С. 463.



Франц Сіўко — празаік, публіцыст. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча. Нарадзіўся 3 мая 1953 года ў вёсцы Вята на Мёршчыне. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Аўтар кніг прозы «З чым прыйдзеш» (1991), «Апошняе падарожжа ў краіну ліваў» (1997), «Удог» (2001), «Ягня ахвярнае» (2003), «Бялячык» (2003), «Асіметрыя» (2005), «Дзень Бубна» (2008). У творчасці аддае перавагу жанрам прыпавесці і кароткіх запісаў-эсэ. Творы друкаваліся ў перакладах на асецінскую, рускую, балгарскую мовы. Працуе выкладчыкам у тэхналагічным універсітэце ў Віцебску. З 1999 года — старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сон быў кароткі і абрывісты, як брэх баязлівага сабакі, збянтэжанага нечаканым з’яўленнем у двары больш дужага суродзіча. І разам з тым ён быў такі пранізліва рэальны, што, калі я прачнуўся, не ён, той сон, а, наадварот, сама ява падалася мне недарэчнаю відзежаю. Ці дзіва, што не адна хвіліна прамінула, перш чым шпалера на сцяне збоч канапы зноў набыла ў маіх вачах колеры звыклай будзённасці, а маляванка пры дзвярах з пакоя ў калідор і гадзіннік над ёй перайначыліся з суцэльнае расплывістае плямы ў знаёмыя рэчы, кожную з якіх можна без лішніх высілкаў успрымаць паасобку.

«*Ты* прыехаў?» — з нашай віртуальнай размовы ў сне гэта былі адзіныя словы, што я даў рады ўзгадаць пасля, лежачы на канапе ў атачэнні слоўнікаў мовы, за якую міжволі давялося ўзяцца, каб хоць збольшага кампенсаваць аніякае валоданне ўсюдыіснаю ангельскай. І гэта быў першы мой сон пра маці, хоць з дня яе адыходу ў лепшы свет прамінула без малога чвэрць стагоддзя.

Два словы — амаль нічога, калі не лічыць у дадатак бязгучнага дыялогу вачэй напрыканцы, пры расстанні каля брамы з круцёлкай кшталту тых, што аддзяляюць бальнічны калідор ад пакоя для наведнікаў ці месца перад касамі ад гандлёвай залы ў краме.

Але сам сон быў такі лагодны, такі поўны абяцання на працяг стасун-

Франц Сіўко

# Я пешкі, мама

## РАЗДЗЕЛ З НОВАЙ КНІГІ

каў у месцы з прывабным, хоць і не дарэшты вольным ад сумневу ў верагоднасці існавання таго месца з назовам «вечнасць», што наракаць на хуткаплыннасць яго ці на невыразнасць адбітку ў памяці нават не прыйшло мне ў голаў.

«*Ты* прыехаў!» — так яна сустракала мяне ў юнацтве, падчас маёй вучобы ва універсітэце і пазней, калі ўжо працаваў, кожнага разу вылучаючы націскам першае слова без увагі на тое, быў то прыезд загадзя вядомы ці, наадварот, неспадзеўны. І двух гэтых прамоўленых у звыклым, хоць крыху, папраўдзе, і счужэлым інтэр'еры сялянскае хаты словаў было мне заўсёды дастаткова, каб адчуць: я — дома, мяне тут чакалі.

«Ты *прыехаў*?» — з удаванай бясстраснасцю сказала пасля аднаго майго нявіннага падману, абражаная інтанацыяй адстароненасці, справакаванай сынавай далучанасцю да недасяжных тут, у глухім куце, дзе ўсё жыццё пражыла, дабротаў цывілізацыі. І заўсёды потым, нават тады, калі было відавочна, што не прыехаў, а прыйшоў, і не так ужо здалёку, быццам наўмысна ўзводзіла нябачную сцяну між сабою і сваім дарослым дзіцем, націскала знарок на «прыехаў». Маўляў, ты прыехаў, а мы вось тут усё пехатой, пехатой...

«*Прыйшоў*, мама, — папраўляў яе і лавіў сябе ўпотай на думцы, ці так ужо яна не мае рацыі ў сваёй прыхаванай за ўсмешкаю паняверцы: — Ты ж ведаеш, як падабаецца мне *хадзіць*». Думаю, менавіта тады ўпершыню пачаў мне адкрывацца глыбінны сэнс слова *пехатой*. Пехатой — гэта калі ўсё, што ў жыцці ні займеў, дарэшты аплачана і ніколі нічога — авансам.

*

Звычку і любоў да хаджэння пехатой прышчапілі мне абставіны: школа знаходзілася за шэсць, і то калі ісці напрасткі, а не кругам, дзе лепшыя сцежкі, вёрстаў ад хаты. Сам лёс быццам скіроўваў мяне да хаджэння пешкі. У выніку я налаўчыўся хадзіць так хутка, што перад апошнім класам дзесяцігодкі пераадольваў свае шэсць вёрстаў да школы менш як за сорак хвілін. І палюбіў хадзьбу, здаецца, на ўвесь астатні век. Сёння мне, на пяцьдзесят сёмым годзе жыцця, не зразумець чалавека, які наракае на тое, што сонца гэткае пякучае, а яму яшчэ ісці кудысьці, скажам, ажно пяць вёрстаў. Калі той чалавек, вядома, не невылечна хворы. Або калі мае 17-18-гадовыя студэнты, бегучы за мною па сходах, натужліва, быццам на іх узгрузілі няведама які цяжар, сапучы, кажуць: «Ну, ведаеце, вас не дагнаць».

Гэта была добрая школа, хоць, папраўдзе, на той час — не без каліва патаемнае надзеі, што гэтак вось — з дня ў дзень праз пераадоленне фізічнае стомы, у вечным клопаце не спазніцца — будзе не заўсёды. І мая тонкая, далікатная маці і тое, і другое выдатна бачыла і разумела. І, так зараз мяркую, можа, крыху сябе за сёе-тое і дакарала, напрыклад, за неабачлівы выбар месца на сталае жыццё, бо мелі-ся ж, напэўна, па шлюбе і нейкія іншыя, больш зручныя з пункту гледжання будучыні дзяцей варыянты.

*

Яна памерла ў пяцьдзесят шэсць, акурат у маім сённяшнім узросце. Гэта быў удар, моц якога напоўніцу можна асэнсаваць толькі з часам. Але гэта быў не толькі ўдар, а і навука, якую падаюць дзецям фактам свайго адыходу заўчасна памерлыя бацькі. Дачасная смерць бацькі або маці, хоць і з'яўляецца жорсткім урокам, як нішто ін-

шае нас загартоўвае, робіць больш трывалымі ў дачыненні да стратаў, што чакаюць у прышласці. Прымушае па-новаму зірнуць на сябе, а ў пэўным сэнсе і скарэктаваць, наколькі гэта магчыма, свае жыццёвыя прыярытэты. Гэта, так бы мовіць, — удар лёсу прэвентыўны. Падчас якога канцэнтрацыя болю, аднак, такая вялікая, што ўсе наступныя ўдары ў параўнанні з ім здаюцца бяскрыўдным дзіцячым тумаком.

Хваробу яе мы праглядзелі. Як дактары, што аказаліся не ў стане дыягнаставаць рак на ранняй стадыі, хоць сімптомы і былі, здаецца, навідавоку, так і мы, яе дарослыя дзеці. А калі спахапіліся, было позна. І мы з сястрою ды братам не знайшлі лепшага выйсця, як рабіць выгляд, што нічога асаблівага не здарылася: усё, маўляў, добра, мама, усё абыдзецца. Такі падман дорага каштуе. Але яго сапраўдную вартасць пачынаеш асэнсоўваць толькі тады, калі непазбежнае становіцца відавочным, а павуцінне хлусні, якім аплятаў, хай сабе і з лепшых меркаванняў, свядомасць блізкага чалавека, міжволі пачынае аблытваць цябе самога. Мы хавалі ад маці праўду на працягу года. Не ўпэўнены, што, калі стан яе рэзка пагоршыўся, яна не ўспрыняла гэткія нашы паводзіны як здраду.

Нават пры ўсёй любові да блізкага чалавека напачатку вельмі цяжка пазбавіцца ў асабістых стасунках з ім грэблівасці да яго хваробы. Тым больш, калі хвароба тая слаба вывучаная і чаго толькі пра яе ні наслухаешся. Жахліва: хворая маці гатуе абед, а цябе не пакідае сумнеў, ці здолееш ты яго есці. Унікаеш тых прысмакаў, да якіх дакраналіся яе рукі, і цябе ні на хвіліну не пакідае думка, як спрытней ды праўдзівей патлумачыць такое неспадзеўнае — ты ж дагэтуль ніколі кепскім апетытам не вылучаўся — стэнафагства*. Унікаеш ды вучышся быць «гаспадарлівым»: наступным разам «ні з таго ні з сяго» возьмеш, руплівец, які і бульбіны ніколі дагэтуль у роднай хаце не абабраў, клопаты па прыгатаванні ежы на сябе.

Адзін з урокаў, які яна паднесла нам падчас сваёй хваробы, — стаўленне да жыцця як да вялікага дару. Ні разу яна, нават у хвіліны самага нясцерпнага болю, не сказала, што не хоча жыць ці што хацела б як мага хутчэй усё скончыць, то бок, пазбавіцца пакутаў праз смерць. Наадварот, вера ў добры зыход да апошняе хвіліны не пакідала яе, і хаваць яе яна не лічыла патрэбным. З утрапеннем дзіцяці верыла ў моц малітвы і... грошай. Напярэдадні аперацыі дала мне сотню рублёў і загадала прэзентаваць доктару. Гэта быў мой першы досвед давання хабару, які, дарэчы, так і скончыўся нічым. Доктар не быў упэўнены ў станоўчым выніку аперацыі і грошай не ўзяў. І мне, каб не выклікаць лішніх падазрэнняў ды сумневу з яе боку, нічога не заставалася, як пакінуць тую сотню сабе.

Толькі аднойчы яна паказала, што ведае, мабыць, пра сваю хваробу болей, чым мы ўяўляем. Калі, збіраючыся напярэдадні нейкага свята ў касцёл, раптам сказала, што хацела б абрэзаць касу, бо валасы занадта даўгія і ў выпадку чаго паспрабуй даць ім рады... І я нажніцамі абрэзаў іх ёй па патыліцу. Атрымалася штосьці кшталту карэ — крыху нязвыкла, як для немаладой жанчыны, крыху экстравагантна. Яна з удзячнасцю паглядзела на мяне, а мне тады чамусьці згадалася, як колісь у маленстве я падхапіў педыкулёз і яна з дапамогаю сцізорыка пазбаўляла маю галаву, усклаўшы яе сабе на калені, ад трасцы. Я хацеў нагадаць ёй пра той выпадак, але не стаў: гэткіх сведчанняў духоўнае лучнасці з уласным дзіцем, узрослае на глебе штодзённага фізічнага судакранання, кожная маці і без нашага напаміну можа згадаць тысячу.

Яна памерла ўвосень, праз чатыры дні пасля маіх апошніх адведзінаў. Адведзіны былі кароткія, і адзіным суцяшэннем, што крыху супакойвала мой адчай падчас развітання ў хаце, дзе заставаліся пры ёй нязвыкла цвярозы бацька і дзядзька з цёткаю, якія прыехалі адведаць хворую з далёкага Данбаса, было тое, што дзякуючы аперацыі яе адыход здаваўся не такім пакутлівым, як зазвычай у людзей з гэткаю хваробаю. Затым адчай саступіў месца трывозе. Такой неадступнай, што калі ў дзверы кватэры, дзе я здымаў пакой, уначы пазванілі, я ўжо і спрасоння дакладна ведаў, што гэта тэлеграма.

Адмалку прызвычаены да не так ужо характэрнай у сялянскім асяроддзі стрыманасці ў праяве пачуццяў пры старонніх людзях, я і думкі не мог дапусціць, што буду развітацца з маці пры кімсьці чужым. Таму першае, што зрабіў, пераступіўшы праз парог хаты, — папра-

сіў усіх выйсці з пакоя, дзе яна ляжала. Канечне, гэта не было этычна ў дачыненні да суседзяў і сваякоў. Але, мабыць, на тую хвіліну такі крок уяўляўся мне найлепшым спосабам захавання ўнутранай блізкасці з нябожчыцай. Той глыбіннай, што мацуецца гадамі і для захавання якой адзіны надзейны сродак — самотнае маўчанне.

Як бы хутка ні мяняла смерць аблічча чалавека, на вочы нябожчыка яна прэтэндуе ў апошнюю чаргу. Вочы маці (як, мабыць, і вочы кожнага чалавека) па скананні, калі яны з нейкіх прычын засталіся незачыненымі (у нашай не зачыніліся з-за скрайняй усохласці цягліцаў твару), — невымерны калодзеж. Яшчэ не зацягнутыя жаўцізною нябыту, яны ўражваюць не гэтак адлюстраванымі ў іх апошнімі прыжыццёвымі пачуццямі, як неадпаведнасцю колеру зрэнак стану цела наогул. Жывое ў нежывым, сведчанне гатоўнасці да апошняга дыялогу з тымі, каму ён, такі дыялог, вельмі патрэбны. Не памятаю, колькі разоў я набліжаўся да труны, каб у іх зазірнуць, — напэўна, не меней дзесятка. Але памятаю дакладна, што кожны раз адыходзіў з адчуваннем, што зноў неўзабаве да яе вярнуся. Што было ў тых вачах? Думаю, наўрад мне калі-небудзь удасца гэта хоць збольшага дакладна апісаць.

Каб распавесці пра лёс чалавека, не абавязкова апавядаць шмат. Часам для гэтага дастаткова нейкага кароткага, але выразнага эпізоду, які прамовіць больш за самы падрабязны аповед. Мой самы яскравы (і самы, здаецца, жорсткі) успамін пра маці — з летняга спякотлівага дня падчас маіх школьных канікулаў, з канца сямідзесятых гадоў мінулага стагоддзя. Не ведаю, чаму, але ўсім маім згадкам пра яе менавіта ён спадарожнічае ў першую чаргу.

Як апісаць дзень, што адначасна — і Эдэм, і пекла? Эдэм — для чалавека, не абцяжаранага клопатам, які толькі і ведае, што бегаць раз-пораз да рэчкі ды плёскацца да пасінення ў яе не спаганеных выдаткамі цывілізацыі вірах. Пекла — для вырачанага на працу калгасніка незалежна ад паказанняў ртутнага слупка тэрмометра і самаадчування. Эдэм і пекла адначасна — такім застаўся той дзень у маёй памяці, такім пераследуе вось ужо больш як два дзесяткі гадоў. Але гэткае бачанне не тады з'явілася, а прыйшло пазней — магчыма, у той дзень, калі яе не стала.

Яна ідзе павольна, злёгку хістаючыся, і сонечныя блікі то патанаюць, збітыя з тропу гульнёю святла і ценю, у кволай засені чэзлага, акупаванага з усіх бакоў нахабнымі дубцамі лап арэшніку. Яна, як заўсёды, спяшаецца, бо, каб паспець падаіць карову ды зноў у пару вярнуцца на працу да калгаснае шахі**, мае ад сілы гадзіну часу. Гэта дзіўна бачыць: чалавек спяшаецца, але ідзе памалу, амаль брыдзе, быццам стрыножаны, быццам штосьці яго не пускае. Пяць дзён таму яна звалілася падчас пагрузкі сенажу з прычэпа і выцялася грудзьмі аб дол так моцна, што ледзьве ачуняла. То, можа, ёй усё яшчэ баліць? А можа, яна ніяк не дасць рады адысці ад заўчарашняга спалоху, калі прывезлі ў шаху разам з сенам вужаку і тая абвілася целам вакол яе нагі? Ці, можа, нагадвае пра сябе зубны боль, што трэцюю ноч запар вярэдзіць, а не палечыш ніяк, бо да Друі, дзе маецца адзіная на ўсё наваколле амбулаторыя, без малога паўтара дзесятка вёрстаў, ды і квіток да лекаркі толькі на паслязаўтра. Яна ідзе, і блікі слізгаюць па яе твары і постаці, то з'яўляюцца, то знікаюць, збітыя з тропу — не, не гульнёю святла і ценю — яе хадой. Такой натужліва ціхай ды змушана павольнай, што нават няўзброеным вокам бачна, як яна спяшаецца.

Кажуць, калі нябожчык не сніцца — ён не мае на цябе крыўды. Можа, гэта і насамрэч так, ды нават людзей, выхаваных у бясспрэчнай пашане да бацькоў, не абмінае небяспека аднойчы неадэкватна адрэагаваць на празмерную апеку апошніх ды зарабіць на той рэакцыі ў куфар уласнай памяці чорны шарык няўдзячнага сына (дачкі). Бо як дзецям уяўляецца натуральнай змена прыярытэтаў ва ўласным выбары ўчынкаў, або ладу жыцця, або атачэння, так бацькам, наадварот, іх усведамленне даецца часам куды як нялёгка. Дзеці прагнуць новых дэкарацый і новых дзейных асобаў на авансцэне свайго існавання, бацькі зацята не жадаюць бачыць у іх якасці кагосьці ці штосьці апроч сябе — старая, як свет, гісторыя. У выніку — сітуацыя небяспекі займець згаданы шарык. Адзін з маіх найбольш саромных успамінаў у дачыненні да маці — з часоў жыцця ў Дрысе, падчас пераправы на лодцы праз Дзвіну на латвійскі бок, паўз які выму-

шаны быў цягам чатырох з паловаю гадоў дабірацца ад бацькоў да месца працы.

«Не плыві, патонеш!» — тузанула да сябе лодку з роспаччу ў вачах.

Адпіхнуў ды і паплыў, не зважаючы на высачэзныя — вецер літаральна шалеў у той дзень — хвалі.

Нумар маёй банкаўскай карткі — 1928. Амаль дата нараджэння маці, з розніцай у адзін год. Адна з нямногіх лічбаў, якія я заўсёды памятаю — дзякуючы блізкаму суседству з другой. Валодаючы  неблагой памяццю на імёны і твары, тым часам дарэшты пазбаўлены здольнасці да запамінання датаў і лічбаў. Але гэтыя дзве — 1929 і 1928 — памятаю заўсёды.

Датклівыя, паэтычныя натуры губяць не праца і не цяжкія, у сэнсе фізічным, варункі жыцця. Іх губіць  неадпаведнасць заўсёднае ўнутранае арыентаванасці на пазітыўнае ўспрыманне свету акалічнасцям, якія нішчаць тую арыентаванасць недахопам  пазітыўнага ў рэальнай паўсядзённасці. І калі гэткая натура заўчасна адыходзіць, застаецца ўражанне незавершанасці лёсу, недарэчнага абрыву, з якім і праз гады цяжка прымірыцца. І тады міжволі вяртаешся ва ўспамінах да праяваў ўласнага эгаізму ў дачыненні да памерлага. Не ў апошнюю чаргу, канечне, і з падсвядомага жадання хоць зменшага той эгаізм апраўдаць.

*

Я не заўважыў, як зноў заснуў. Зрэшты, магчыма, гэта быў і не сон, а так, трызненне, эмацыйны калапс памяці, узварушанай успамінамі. Заспеты Марфеем на чарговай старонцы слоўніка, я праваліўся ў сон так неўпрыцям, што нават не паспеў адкласці той слоўнік убок.

І адразу ж амаль убачыў ЯЕ. Яна стаяла на тым самым месцы, што і раней, утрапёна глядзела на відарыс з адбіткам інтэр'еру несамавіта майго, здабытага на трыццаць восьмым годзе ад нараджэння жытла.

«Гэта ты зноў? — спытала яна і коратка дадала з драбінкаю іроніі ў голасе: — *Прыехаў*?»

«Nej, jag gick till fots, mamma»,*** — сказаў я, з жахам адчуваючы, як ліюцца насуперак волі з  роту, мабыць, справакаваныя слоўнікам пад скроняй, словы чужой і, канечне ж, няведамай ёй мовы.

Я баяўся, што яна абразіцца і пойдзе прэч, але гэтага не здарылася. Яна прыязна, — ні каліва дакору, ні намёку на асуджэнне — хітнула мне галавою ў знак згоды, лагодна ўсміхнулася.

«Я зразумела, ты — *пехатой*», — сказала і знікла ў бязважкай прасторы па той бок круцёлкі.

*

Наступны сон заспеў мяне прыкладна праз месяц і зусім неўспадзеў — падчас прабывання ў шведскім Вісбю****, у салоне аўто па дарозе на суседнюю выспу Форё, да магілы Інгмара Бергмана. Але і ён быў такі сумбурны і бязладны, што, ачнуўшыся на нейкім чарговым павароце, я нават не здолеў узгадаць з яго ані дэталі, ані рыскі. Быццам і не сон то быў, а проста нейкі напамін пра штосьці — няпэўны і зыбкі, як шэрая балтыйская хваля на сутыку дня і ночы.

Мы агледзелі пад самавітае бляянне авечак за мураванаю агароджаю кладоў больш як сціплую магілу знакамітасці, скіравалі ў шырку*****. У шырцы было ціха і пуста, і каб не свечкі за памерлых, што гарэлі збоч алтара, можна было б падумаць, што сюды і нага чалавека ніколі не ступае. Затым усе пайшлі на двор, а я затрымаўся ў памяшканні з намерам зрабіць пару фотаздымкаў.

Мой пагляд упаў на падстаўку са свечкамі, і мне здалося, быццам я зразумеў сэнс саснёнага ў аўто. Я памкнуўся да скрынкі са свечкамі, каб узяць адну і запаліць, але думка, што храм не каталіцкі, а лютэранскі, а маці ж усё жыццё была каталічкаю, стрымала маё памкненне. І, мабыць, дарэмна, бо ўвесь зваротны шлях і затым усю рэшту дня мяне не пакідала адчуванне чагосьці зробленага не так як след.

Праз тыдзень я выпадкова набрыў у Вісбю на будынак касцёла. І першае, што там зрабіў, — запаліў і паставіў ля ўзножжа Божае Маці сціплую свечку за маці сваю. І хоць гэта было і запозна, праз колькі дзён пасля таго, як яна нагадала пра сябе ў сне, не сумняваюся: яна мяне не асудзіла.

Яна ж, як і я, — заўсёды пешкі, і мы абое гэта выдатна, як ніхто іншы на свеце, ведаем.

*Антыпод усёяднасці.
** Вялікая пуня.
*** Не, я ішоў пешкі, мама (шведск.).
**** Галоўны і адзіны горад выспы Готланд у Балтыйскім моры.
***** Кірха (па-шведску вымаўляецца — шырка).

# Без музыкі жыццё было б пустым...



Вочы чалавека, які ў дзяцінстве прайшоў праз чырвона-карычневую віхуру вайны, скажуць нам больш за мноства банальных артыкулаў. Ягоная сапраўды шчаслівая ўсмешка заменіць стосы красамоўных радкоў. А найбольш раскажа музыка ў яго выкананні. Лёгкімі рухамі пальцаў маэстра прымушае клавішы спяваць пра боль і радасць, расказваць пра шчасце і пакуты... Менавіта такі ён, вядомы аўстрыйскі арганіст **Ёган Трумэр**, чалавек, які прайшоў праз шматлікія выпрабаванні, але захаваў у сэрцы любоў да непрадказальнасці жыцця. Падчас чарговага візіту ў Мінск маэстра згадзіўся на сустрэчу для інтэрв'ю нашаму часопісу.

— Упершыню я прыехаў на Беларусь увосень 1996 года па запрашэнні Уладзіміра Неўдаха і Ксеніі Пагарэлай, — узгадвае вядомы арганіст. — Тады я першым канцэртам адкрыў музычны фестываль «Званы Сафіі». З таго часу бываю на Беларусі ў сярэднім два-тры разы на год з канцэртамі, лекцыямі ў Акадэміі музыкі, Дзяржфілармоніі і ў архікатэдральным касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі.

*— І чым Вам запомнілася Беларусь?*

— Мае ўражанні пра вашую краіну — гэта найперш узгадкі пра людзей. З вялікаю павагаю я стаўлюся да кардынала Казіміра Свёнтка, з якім мы знаёмыя прыкладна з 2000 года. Вельмі плённа супрацоўнічаем з піяністам, прарэктарам Акадэміі музыкі Вадзімам Яканюком. І ў Грацы сёння навучаецца ўжо чацвёртае пакаленне беларусаў. А пачыналася ўсё калісьці з Уладзіміра Неўдаха...

Я нарадзіўся ў старым аўстрыйскім горадзе Грац. Мае бацькі былі вельмі пабожнымі людзьмі і ніколі не займаліся палітыкай, таму ў гітлераўскія часы нам прыйшлося вельмі цяжка. Акрамя мяне, бацькі выхоўвалі яшчэ шасцёра дзяцей. На жаль, двое старэйшых памерлі вельмі рана. Дарэчы, усе выбралі для сябе розныя жыццёвыя шляхі: сястра стала доктарам, старэйшы брат — дырэктарам гімназіі, яшчэ адзін брат працаваў чыноўнікам, а трэці — прафесар тэалогіі ва універсітэце Граца...

*— А Вы ў адрозненне ад іх сталі музыкантам. Цікава, Вы яшчэ ў маленстве адчулі сваё пакліканне ці напачатку ўзнікала жаданне займацца чым-небудзь іншым?*

— З самага дзяцінства я зацікавіўся музыкай, таму граць самому было для мяне вялікай радасцю і асалодай. Пасля вайны ў Аўстрыі толькі пачалі аднаўляць школы... Усе хацелі вучыцца. А з усялякага кшталту забавамі было вельмі цяжка. Каб схадзіць, напрыклад, на футбольны матч або на канцэрт, не было грошай. Але дзеці ёсць дзеці — ім не так шмат трэба для шчасця. Я памятаю, што вельмі любіў бавіць час з сябрамі ў гульнях, якія нічым не адрозніваюца ад сённяшніх. І вядома ж, любімым заняткам было вандраваць па гарах, што, дарэчы, зусім не дзіўна для аўстрыйца. Здаралася ўзыходзіць на вышыню каля 4000 метраў.

*— Але што Вы знаходзілі ў музыцы: свабоду ці засяроджанне, а можа, гэта быў спосаб збегчы ад свету з яго несправядлівасцю, праблемамі?*

— У тыя пасляваенныя часы

панавала нястача: людзі ўвогуле нічога не мелі, і тое, што чалавек проста застаўся жывы, — гэта ўжо было багацце. І магчымасць працаваць таксама ўспрымалася з вялікай радасцю. Нават калі я ўжо выбраў для сябе шлях музыканта, па-ранейшаму працягваў актыўнае жыццё. Як і іншыя маладыя людзі, я шмат чым цікавіўся, але быў шчаслівы, што ўжо выбраў для сябе любімы занятак.

*— Аўстрыя — краіна досыць багатая на музычную спадчыну: Моцарт, бацька і сын Штраусы, Малер, вядомыя дырыжоры Караян і Паўмгартнэр... Ці не было ў Вас з дзяцінства адчування культурніцкага ціску?*

— Уплыў музычнай айчыннай традыцыі адчуваўся заўсёды, інакш проста немагчыма. Гэтую муыку я з дзяцінства чуў, а пасля і сам граў у касцёле, навучаючыся ў музычнай школе, выконваў творы вялікіх аўстрыйцаў на віяланчэлі і фартэпіяна, з самага дзяцінства спяваў у хоры. А першай музыкай, якую я пачуў, былі народныя мелодыі, якія спявала нам маці.

*— Бацькі паўплывалі на жыццёвы выбар маленькага Ёгана?*

— Ведаеце, пасля вайны, калі пачалося паступовае адраджэнне, яны былі вельмі рады, што іх дзеці займелі магчымасць атрымаць адукацыю, скончыць гімназію, універсітэт. Таму і заахвочвалі нас: «Ты павінен вучыцца, развівацца сам, і сам павінен рабіць жыццёвы выбар», але прымушаць не даводзілася — мы і самі радаваліся навуцы ў школе, наведвалі заняткі па музыцы, былі міністрантамі ў касцёле.

*— Гер Трумэр, а якая бацькоўская мудрасць ідзе поруч з Вамі праз усё жыццё?*

— Маці і бацька не мелі адукацыі, але жыццё, кнігі і вера далі ім мудрасць. І, нягледзячы на цяжкія часы, нястачу, яны заўсёды былі гатовыя нечым падзяліцца з іншымі людзьмі. Мой бацька казаў: «Трэба жыць так, каб і для іншых заставалася трошкі, каб падзяліцца».

*— Сёння Вы ўжо дарослы чалавек, але ці хацелася б Вам вярнуць што-небудзь са свайго дзяцінства?*

— Я не хачу, каб тыя часы паўтарыліся. Гэта быў цяжкі, драматычны перыяд гісторыі. Аднак, нягледзячы ні на што, тады я адчуваў сапраўдную дзіцячую радасць жыцця і жадаў бы ўсім цяпер жыць з адчуваннем такой радасці. І яшчэ. Я перажыў Другі Ватыканскі Сабор, калі быў студэнтам, але не хацеў бы жыць да яго.

*— Кім Вы сябе адчуваеце больш — святаром ці музыкантам?*

— У дачыненні да сваёй асобы я не раздзяляю гэтых паняццяў. Адно для мяне немагчыма без другога. Гэтыя прафесіі вельмі падобныя: трэба шмат працаваць і працаваць для людзей. Як святар я магу дапамагчы людзям праз споведзь, духоўную размову, катэхетычныя заняткі, а як арганіст — праз музыку. Святарства — вельмі важнае, вельмі запатрабаванае пакліканне ў свеце. Яно патрабуе заўсёды быць сярод людзей, працаваць для іх, але святары адначасова працавалі і працуюць у культуры, і ў архітэктуры, і ў мастацтве.

*— А ў якім узросце Вы адчулі пакліканне да святарства?*

— Упершыню ў 8–9 гадоў. Я думаў пра гэта і пасля заканчэння вучобы, але канчатковае рашэнне прыйшло недзе гадоў у 25. За арган я ўпершыню сеў, калі мне было 13, і я ўжо мог дацягнуцца нагамі да педаляў. Акрамя аргана, я граў яшчэ на іншых інструментах, напрыклад, на віяланчэлі.

*— Цяпер Вы можаце пра сябе сказаць, што здолелі рэалізавацца?*

— Я працую ў катэдральным касцёле ў Грацы, выкладаю ва універсітэце, дзе доўгі час быў адказным за працу з замежнымі студэнтамі, прымаю ўдзел у канцэртах духоўнай музыкі, з'яўляюся адным з заснавальнікаў Бахаўскага таварыства і шэфам каталіцкага выдавецтва. Сапраўды, многае дасягнута ў жыцці. Я доўгія гады быў дэканам факультэта касцёльнай музыкі і арганаў, працаваў намеснікам рэктара семінарыі ў Грацы і цяпер шмат часу ахвярую на падтрымку сваіх былых студэнтаў ва ўсіх краінах свету.

*— Вы шмат чаго пабачылі на свае вочы. Выкладалі нават на Філіпінах. І што для Вас мела большае значэнне — канцэртная дзейнасць ці праца са студэнтамі?*

— Не магу адказаць адназначна. Мне вельмі падабаецца працаваць са студэнтамі. У мяне вучылася моладзь з 28 краінаў свету. Я шмат удзяляў увагі студэнтам з-за мяжы, каб стварыць для іх годныя ўмовы жыцця і працы. Радасна, што лепшыя з маіх студэнтаў паехалі дадому і могуць выдатна працаваць на радзіме. Я і надалей стараюся дапамагаць ім інструментамі, нотамі, каб кожны мог развівацца і расці прафесійна.

*— Гер Ёган, наколькі сёння сучасны чалавек з музычным густам, сфармаваным сённяшняй*

*культурай, гатовы ўспрымаць класічную музыку?*

— Зазвычай людзі могуць успрымаць любую, нават вельмі складаную музыку, калі яны адпаведна падрыхтаваныя. Нічога не змяняецца з часам, усяму трэба вучыцца. Але нікому не стане лепш, лягчэй жыць, калі знішчыць старыя дамы, разрабаваць оперу, разагнаць аркестры, знішчыць традыцыю...

*— Але ж якая менавіта падрыхтоўка патрэбная для такога ўспрыняцця? Ці больш пашанцавала ў гэтым плане аўстрыйцам з іх культурай і гісторыяй?*

— Калі чалавек вывучае мову музыкі, для яго раскрываецца вельмі прыгожы, шматфарбавы эмацыянальны свет. Аўстрыя мае выдатную гісторыю, бо тут нарадзілася безліч таленавітых і вядомых асобаў, у тым ліку і музыкантаў. Нашы людзі цікавяцца музычнай спадчынаю, і гэта іх аб'ядноўвае. Не памятаю, каму менавіта належаць гэтыя словы, але яны праўдзівыя: без музыкі жыццё было б пустым.

*— Ці цяжка замежным студэнтам, тым жа беларусам, далучыцца да гэтай традыцыі і культуры?*

— Межаў для разумення музыкі няма – як і для разумення любой іншай навукі, напрыклад, матэматыкі. Музыка — наднацыянальны феномен.

*— Але ж існуюць паняцці нацыянальных характараў, менталітэтаў... Часта прадстаўнікі розных, нават суседніх народаў, цяжка разумеюць іншую культуру. Дык ці можа беларус адчуць, выканаць твор Баха так, як разумее і выконвае яго немец?*

— А чаму ж не? Я лічу, што можа. Нават цікава, наколькі глыбока чалавек іншай культуры можа адчуць, перажыць гэтую музыку. Тут няма перашкодаў. Калі вы, напрыклад, прыходзіце да доктара ў Германіі, гэта такі ж доктар, як і ў Беларусі, і лечаць яны аднолькава. Так і з музыкай.

*— Тады музыку можна лічыць адным са складнікаў глабалізацыі...*

— Так, бо музыка аб'ядноўвае і злучае ўсіх.

*— Ці не губляецца такім чынам традыцыйнасць?*

— Вучыцца музыцы — гэта тое самае, як вывучаць замежную мову, яе асаблівасці, вымаўленне, граматыку, дыялекты... Можна дасканала валодаць чужою моваю, але захоўваць пры гэтым сваю нацыянальную адметнасць. Музыка — найлепшыя лекі ад хваробы нацыяналізму.

*— Дарэчы, якім чынам Вы асабіста рыхтуеце, развучваеце твор?*

— Гэта самая звычайная практыка. Чалавек часта да нечага рыхтуецца, пра нешта разважае, нешта вучыць... Прамоўца рыхтуе выступленне, святар — казанне, а музыкант развучвае твор. Як і любая іншая, гэтая праца патрабуе сур'ёзнасці і засяроджанасці.

*— Ці мае для Вас падчас развучвання значэнне асоба кампазітара, яго эпоха?*

— Безумоўна. Кожны твор мае свой стыль, адметнасць, філасофію. Я часта вывучаю дадатковую музычную літаратуру.

*— Узнікае адчуванне, што Вы — сапраўдны музычны працаголік...*

— Быць музыкам і не быць працаголікам немагчыма, пастаянная праца неабходная заўсёды. Вакол нас гучыць музыка, мы ўвесь час жывем ёю, гэта не справаздача, якую напісаў, аддаў і забыўся. Гэта бясконцасць.

*— Ну а як знаходзіцца час на адпачынак?*

— Яго не так шмат. Аднак, калі ён з'яўляецца, то люблю і пачытаць. Апошняя кніга, якую я прачытаў, гэта... як жа правільна вымавіць... ммм, «Майстар і Маргарыта» Булгакава! (Заўсміхаўся.) І яшчэ шмат чытаю біяграфічнай літаратуры пра кампазітараў. Так я рыхтуюся да чарговых навуковых кангрэсаў.

*— Вы вельмі любіце выконваць творы Баха і самі сталі заснавальнікам Бахаўскага таварыства. Цікава, а хто для Вас быў тым духоўным настаўнікам, якім стаў для Баха Букстэхудэ?*

— Гэта найперш Карл Райнэр, Ёзаф Ратцынгер, Рамано Гуардзіні... Людзі, якія моцна паўплывалі на фармаванне маёй асобы...

*Менавіта так, мабыць, на крыху нелагічным, аднак сімвалічным пытанні скончылася наша гутарка. Сімвалічным, таму што ёсць, была і будзе пераемнасць культуры паміж пакаленнямі. Букстэхудэ і Бах, Ратцынгер і Трумэр... І спадзяемся, што сярод беларускіх студэнтаў ёсць тыя, хто з радасцю працягне цяжкую, аднак вельмі неабходную, прасякнутую любоўю да людзей і музыкі справу Ёгана Трумэра.*

*Гутарку вялі*
*Юлія Шэдзько і Тарас Шчыры.*

*Рэдакцыя часопіса*
*«Наша вера» выказвае падзяку*
*за арганізацыю інтэрв'ю*
*прафесару Беларускай дзяржаўнай*
*акадэміі музыкі Уладзіміру Неўдаху.*

# Казімір Місюра



Прайшло тры гады, як Казімір Місюра аднаўляе згарэлыя часткі ў галоўным алтары гродзенскай катэдры імя святога Францішка Ксавэрыя. Алтар быў пашкоджаны начным пажарам 13 ліпеня 2006 года. Згарэлі драўляныя калоны з прыгожым унікальным рэльефам разьбы, драўляныя фігуры апосталаў Сымона і Тамаша, фігура святога Самуэля, біблійнага прарока, апекуна аднога з галоўных фундатараў галоўнага алтара ў касцёле — Самуэля Лазовага, мсціслаўскага кашталяна ў 1730–1738 гадах. Была пашкоджаная фігура Анёла ў верхнім радзе і яшчэ аднаго святога... Самы манументальны барокавы алтар на землях былой Рэчы Паспалітай быў зроблены майстрам Янам Смітам, які працаваў з шасцю майстрамі і вучнем, з 29 верасня 1736 года да 31 ліпеня 1737 года. Гэта неверагодна, бо вельмі ж кароткі час для такой работы. Але адкуль нам ведаць, як умелі працаваць майстры Сярэднявечча? З горада Рэшаля былі прывезеныя дзве гатовыя цэнтральныя фігуры — святога Францішка Ксавэрыя і Збаўцы нашага Езуса Хрыста... Так пішуць...

Скульптуры ў алтары, пастаўленыя паўкругам, у сукупнасці з калонамі ўтвараюць лес скульптураў і калонаў. Над ніжнім радам узвышаецца другі рад, у цэнтры якога знаходзіцца Пан Езус, паабапал стаяць чатыры Евангелісты: двое з іх з'яўляюцца і Апосталамі — Мацвей і Ян, таму ў ніжнім радзе вакол святога Францішка Ксавэрыя не дванаццаць, а дзесяць Апосталаў, бо два — у верхнім радзе...

Завяршае кампазіцыю вянокглёрыя з галубком у вітражы. Вітраж таксама аднавілі. Мне той галубок падабаўся больш, бо ён быў нябеснай белізны... Але першапачаткова ўвогуле ў цэнтры была манаграма HIS. Перад глёрыяй узвышаюцца чатыры алегарычныя скульптуры кантынентаў — Еўропы, Азіі, Афрыкі і Амерыкі.

Казімір Місюра гаворыць:

— Я тут працую не як мастак, а як канструктар ад Бога. Мне трэба было знайсці формулу, каб паўтарыць Яна Сміта, але яго працу перарабіць больш дакладна. Я хачу дагадзіць Яну Сміту. Няма экстрыма, дзе майстар вылазіць на паверхню... Згарэў шэдэўр, культавая зорка... Я не думаў, што я галоўны герой на гэтым пахаванні. Ішоў у калоне. Нават у сне мне такое не снілася. Спрацаваў армейскі варыянт: паклікалі мяне і сказалі: «Рабі!»... Здам Апостала, і будзе тры гады, як я раблю...

Першага мая ў Казіміра дзень нараджэння. 30 красавіка ён і яго сын Ігар прывезлі з Воранава твор пластычнай графікі — ажурныя ўзоры з узвеяных лістоў і кветак — шэсць кветак і адзін круглы «качан капусты з чатырма вокамі і адным фантастычным языком, высалапленым наверх». Усё гэтае прыгоства размешчанае ў няроўнай канструкцыі, тыпу абсечанай зверху арфы. Адарваць вочы немагчыма ад гэткай прыгажосці, ад дасканалай апрацоўкі. Магічна зацягвае вір лістоты ў глыбіні, ці ў вышыні. Ксёндз пробашч Ян стаяў, хадзіў вакол, цмокаў, што такія далікатныя адценні ліпы трэба замаляваць фарбай, што твор змяшчаецца на «сваё» месца, а гэта надта высока і людзі аглядаць такую прыгажосць не змогуць... Толькі Бог. І навошта было так дасканала выгладжваць звонку і з сярэдзіны? І разам з тым — ні да чога не прыдзярэшся, добра зроблена...

— А мы іначай рабіць не ўмеем,— кажа Казімір... У мяне адзін спытаў: «Чаму ты, Казюк, нарадзіўся не ў Нямеччыне, ты па прыродзе — натуральны немец».— А я адказваю: «Не-а. Формулы мыслення ў мяне іншыя,— на стабільнасць і на фантастычнасць...»

Над гэтай фантастычнай «палянай» з Песні Песняў, з пяці кветак і «качана капусты з чатырма вокамі і высалапленым наверх языком» майстроўня Казіміра Місюры працавала ад досвітку да паўночы роўна два месяцы. Стомлены Казімір у добрым творчым настроі, які ўзвышае і робіць чалавека значным, цікавым, прыгожым. Цяпер у яго няма сумненняў. Ведае наперад, што ўсё ўжо атрымаецца. Жыццё творчай сям'і Місюраў набывае знакавы сэнс.

Перад гэтым прывезлі яны святога Самуэля і паставілі на «сваё» месца: на фланзе на высокі цокаль, пакуль што без падстаўкі. Святы трымае рукой картуш з гербам Лазовых. У алтары

нейкі час стаяў адзін гэты святы. Алтар схаваны пад тканінай ад людскіх вачэй. Пажар падагнаў час рэстаўрацыі ўсяго шэдэўра — ад падножжа да Глёрыі.

Цяпер Казімір Місюра працуе над скульптурамі святых Апосталаў. Апостала Тамаша ён склейвае з брускоў ліпы. Вышыня скульптуры два з паловаю метры. Агонь пакінуў шмат «арыенціраў», на якія «нажыўляецца» цела. Галава, плечы даклейваюцца з дэталяў. Так што скульптар ідзе па шляху Яна Сміта, традыцыйна, паглыбляецца ў глыбіні разьбярства віленскага барока Сярэднявечча. Апостал Тамаш вырываецца з попелу.

— Затое апостала Сымона я цалкам зраблю з фантазіі. Ад яго амаль нічога не засталося. Гэта будзе мой мастацкі аўтарскі твор, найвышэйшая кропка. Дыпломная работа...

Так ён гаворыць і весялее, весялее, уздымаецца над сабой, бачыць ужо апостала Сымона з пілой у правай руцэ, якой яго распілавалі за веру ў Езуса, — бачыць найпрыгажэйшую малітву ў дрэве, уласнай творчасці.

Ігар Місюра — першы памочнік пры бацьку Казіміру, малады майстар з моцным духам. Сёння Ігар нават болей стомлены, чым бацька.

Яны стаяць пасярод касцёла — пробашч Ян і канструктар ад Бога, абодва воранаўскія хлопцы. Шчаслівыя, што знайшлі адзін аднаго, працуюць разам на хвалу Езусу. Праменне з купала дыміцца ў сівых скронях майстра і ксяндза. Постаць Ігара ўжо ўзнікае на самай верхняй балюстрадзе, на балконе ўнутры касцёла, на ўзроўні купала. Ён там здымае вісюлькі — пашкоджаныя дэталі на ўзор, каб вытачыць новыя. Ужо зроблена ўся дэкаратыўная пластыка — і спакойныя простыя рашотачкі, і ўзбуджаныя «бомбы-грушыны» з разналістымі языкамі на паверхні, з ракавінамі, веерамі, вушамі, бутонамі, пёркамі, віньеткамі, вянкамі, збанкамі, званкамі. Іх мноства — прыгожых плямаў, «палянак», якімі аздоблены круглыя і рабрыстыя калоны, цокалі, кансолі, пастаменты, карнізы, крылы, перагародкі. Як ні апісвай, хто вачамі не бачыць, уявіць гэтае фантастычнае ажурнае разьбярства проста немагчыма...

Казімір аглядае навостраным вокам творцы ўсю дасканала стракатую прыгажосць катэдры. Захапляецца інкруставанай спавядніцай. Мімаходзь заўважае, што ў святога Лукі, Евангеліста, які прымасціўся са сваім вослікам на карнізе амбоны, няправільна дарobленыя ногі. Вачамі моліцца перад абразом апостала Тадэвуша, каб даў яму сілу, каб кіраваў яго працай, якая падыходзіць да завяршэння.

...Калі будзем ехаць каля гарадскога парку, Казімір прыпыніць машыну каля скульптуры Жылібера, заўважыць: рука ад локця павінна быць у адну восьмую частку чалавечага росту, а тут рука зроблена ў адну чацвёртую частку.

Будзем піць каву на жоўтым палатняным маміным абруску, з тортам, які купілі за «святы» ганарар. Казімір зноў будзе апавядаць пра «паляну», якую яны пакінулі ў касцёле, над якой працавалі два месяцы без перадыху. Хвалі-флюіды эмацыйнай разгрузкі майстра будуць разыходзіцца па пакоі.

Я — яго малітоўная падтрымка. Мне гэты хлопец проста на вагу золата, бо сябры мае, з кім так добра размаўлялася, узялі ды паўміралі. Казімір знайшоўся 7 ліпеня 2007 года. А да таго мы былі аднадумцамі на адлегласці.

...Яны паедуць у Воранава адсыпацца. Я прачнуся апаўночы, на ружанцы памалюся таямніцы святла за Казіміра Місюру. Найменшая ў яго сям'і Ленка не за-



была перадаць мне і кату Рыжыку, якога яна палюбіла, шкляную чырвоную ружу...

...Дрэва ліпы шмат не каштуе. Але калі б не было пажару — разьбярыць святых Апосталаў і стаўляць іх удоўж сцежкі ад вуліцы да майстроўні — у Казіміра не атрымалася б.

Каб быць вольным майстрам, мастаком ці паэтам, тут мала Божай волі, але некаторым даводзіцца. Пасля таго, як страціў працу ў Міры з-за празмернага творчага натхнення, Казімір працаваў у школе ў Воранаве, вёў урокі малюнка. Звольнілі яго за віншавальныя паштоўкі да Дня волі (25 сакавіка) і за чытанне вершаў Рыгора Барадуліна на ўроку малявання. Чаго захацеў! У Воранаве — вершы Барадуліна! Гэта вершы майго дзядзькі Мікодыма вясковыя людзі і цяпер успамінаюць, бо яны пра жыццё:

*Ты набыў маёнтак,*
*бо меў жонку з Сонтак,*
*а мая з Няцечы,*
*то жыву ў галечы.*

Калі ж са мной здарыцца якая прыкрасць, то ніхто з маіх родных не паспачувае, што я паэтка. Кажуць: «Патрэбныя ёй былі гэтыя вершы!»...

...Адганяю дрэнныя думкі ціхай літаніяй да святога Юзафа-рамесніка, ахоўніка ўсіх разьбяроў і цесляў. Праз акно з вежы катэдры гадзіннік выбівае чатыры мілагучныя гадзіны.

...Усё дрэннае ўжо адбылося. Мая старасць прамінае ў коле гэтых цудоўных гукаў з вежы найпрыгажэйшага касцёла, які рэстаўруецца на маіх вачах.

...«Тамаш, адзін з Дванаццаці, называны Блізня, не быў разам з імі, калі прыйшоў Езус. Іншыя вучні казалі Яму: Мы бачылі Пана. Але ён сказаў ім: Калі не ўбачу на руках Яго ранаў ад цвікоў і не ўкладу пальца свайго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі сваёй у бок Яго, не паверу. І праз восем дзён зноў былі ў доме вучні Ягоныя і Тамаш з імі. Хоць дзверы былі замкнёныя, прыйшоў Езус, стаў пасярэдзіне і сказаў: Спакой вам! Потым кажа Тамашу: Дай сюды палец твой і паглядзі на рукі Мае; дай руку тваю і ўкладзі ў бок Мой; і не будзь няверуючым, але веруючым. Тамаш, адказваючы, сказаў Яму: Пан мой і Бог мой! Езус кажа яму: Ты паверыў, Тамаш, таму што ўбачыў Мяне. Шчаслівыя тыя, хто не бачыў, а паверыў» (пар. Ян 20, 24–29).

...Прывезлі апостала Тамаша з Воранава, але пробашч Ян у касцёл яго не пусціў, прапанаваў паставіць у гаспадарчым памяшканні, доўга аглядаў і знайшоў, што рукі і ногі Апосталу выразьбіў не той самы майстар... Не яго почырк. А яшчэ пробашчу не спадабалася прычоска — залішне акуратна завітыя валасы, нібы Апостал меў час наведваць цырульню. Казіміру надта не хацелася марнаваць прычоску Апостала, так ён прыгожа ўклаў валасы, такімі акуратнымі завіткамі. Пробашча Яна майстар не пераканаў, не ўгаварыў. «Малітоўная падтрымка» іх спрэчку слухала моўчкі.

Паставілі Апостала ў зацішны куток унутранага дворыка, і Казімір падстрыгаў яму галаву, дакладней, ускудлачваў, рукі і ногі «габляваў на свой капыл», гэтая праца заняла ў майстра цэлы тыдзень. Затое ён пазнаёміўся з рознымі людзьмі, якія заглядвалі ў той куток...

Я натхніла дзяўчат з Легіёна Марыі: калі ў сераду ўвечары скончылася малітоўная сустрэча, прапанавала ім паглядзець, як майстар працуе над вобразам Апостала. Казімір і апавёў, і разцом паказаў, як працуе. Адпачыў душой, размаўляючы з дзяўчатамі, якія пасля самі заходзілі да яго, нібы добрыя музы. А ён іх завёў на рыштаванні алтара, які рэстаўруецца...

За майстра, якога ведаеш, маліцца куды прасцей, чым за абстрактнага чалавека, аддаючы Богу з уласных запасаў малітвы — колькі трэба... Дзяўчаты, маліцеся за Казіміра!

Прыкладна праз два тыдні Казімір прывёз пробашчу Яну паказаць вобраз апостала Сымона, злепленага з пластыліну. Не ведаю, ці спадабаўся пробашчу макет, але ў мяне невялікая пластылінавая фігура выклікала захапленне. Казімір сказаў, што ён зробіць яшчэ адну мадэль з улікам таго, што знайшоў у абгарэлым арыгінале. Спяшацца не будзе, каб дагадзіць і Яну Сміту, і пробашчу Яну, і вернікам, і найперш — Пану Езусу. І каб самому было добра.

...Справа паважная: паміж майстрам і людзьмі стаяць Апосталы Пана Езуса. Майстар, творачы фігуры Апосталаў, прапануе еднасць духу праз любоў, згоду і спакой.

Езус сказаў: «Не толькі за іх прашу Я, але і за тых, хто паверыць у Мяне паводле слова іхняга, каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне <...> каб любоў, якою Ты палюбіў Мяне, у іх была, і Я ў іх» (пар. Ян 17, 20–21, 26).

Ствараючы Апосталаў, майстар прапануе людзям не ідалаў з іх амбітнай прыгажосцю, штучнасць якой усё роўна вылазіць наверх, ён прапануе ўзаемны давер паміж людзьмі, які даскапаліць давер да Бога. Прапануе адносіны з Богам больш спакойныя і больш глыбокія — без здрабнення да прыватных просьбаў.

Набрацца моцы натхнення — вярнуцца ў віленскае барока, замест прыгожага лесу са скульптураў і калонаў стварыць цуд Езусавай Любові!

*Данута Бічэль, Гродна.*

Юры Лаўрык

# МІНСКІЯ БЭРНАРДЫНЫ Ў 1796 ГОДЗЕ

Змены, што пачалі адбывацца ў цэнтральнай Беларусі пасля адыходу гэтых земляў да Расійскай імперыі ў выніку 2-га раздзелу Рэчы Паспалітай, не маглі не закрануць і Касцёл. У прыватнасці, пэўныя змены датычыліся візітавання каталіцкіх касцёлаў і кляштараў. Напрыклад, цяпер па прыбыцці на месца першай справай пасля цэлебрацыі Імшы і агледзінаў Найсвяцейшага Сакрамэнту ад візітатара вымагалася праверка наяўнасці разнастайных, выдадзеных як духоўнай, так і цывільнай уладай, пастановаў ды распараджэнняў; азнаямленне з вядзеннем дакументацыі; урэшце, ледзь не правядзенне дазнання, ці святары і законнікі прысягнулі на вернасць расійскай манархіі. Быў, тым не менш, у гэтым і станоўчы момант: акты візітацый цяпер складаліся вельмі падрабязна, паводле распрацаваных расійскім бюракратычным апаратам схемаў, і па сваёй паўнаце заўважна пераўзыходзілі ранейшыя. Дзякуючы гэтаму мы маем шанец больш дакладна прыгледзецца да жыццядзейнасці таго ці іншага касцёла або кляштара, а часам і заўважыць аспекты, якія не праяўляліся нагэтулькі выразна ў дакументах свайго часу. У гэтым нарысе мы ўбачым, якім паўстае ў святле візітацыйных актаў мінскі канвент бэрнардынаў неўзабаве пасля заканчэння дзялёжкі еўрапейскімі манархіямі земляў Рэчы Паспалітай. Але пачнём з крыху больш адлеглай мінуўшчыны.




Будынак мінскага касцёла бэрнардынаў пасля скасавання кляштара, апошняя трэць XIX ст.
Здымак са збораў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

### Закон бэрнардынаў

У гісторыі заходняга хрысціянства найменне «бэрнардыны» ўжывалася як азначэнне розных законных супольнасцяў. Напрыклад, у Італіі і Францыі так называлі цыстэрсаў (зрэфармаваных бэнэдыктынаў) — у памяць аднаго з найбольш выдатных дзеячаў гэтага закону XII ст. св. Бэрнарда, абата Клерво.

У Рэчы Паспалітай гэтая назва замацавалася за францішканамі-абсервантамі і сваім паходжаннем была звязаная з тытулам іх першага на мясцовых землях касцёла — узнесенай у Кракаве святыні імя св. Бэрнарда з Сіены. Уласна, гэтаму рэфарматару францішканскага закону і абавязанае сваім з’яўленнем адгалінаванне строгай рэгулы.

Св. Бэрнард нарадзіўся ў 1380 г. у італьянскім мястэчку Маса-Марытыма, што каля Сіены, у сям’і старажытнага роду Альбічэскі. Вывучаў права ў Сіенскім універсітэце, які закончыў у 1399 годзе. Паводле легенды, ён змалку выказваў схільнасць да малітвы і пабожнасці, а на 17-м годзе жыцця аддаў свой маёнтак бедным і далучыўся да брацтва «Выха-

**Юры Лаўрык** — старшы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Закончыў бібліятэчна-бібліяграфічны факультэт Мінскага універсітэта культуры, тэалагічны і гістарычны факультэты Люблінскага каталіцкага універсітэта. Даследуе гісторыю беларускай кнігі і бібліятэк.



Бэрнардын (паводле: Wielka encyklopedia powszechna ilustrowana Warszawa, 1892. T. VIII, s. 525).

ванцаў Марыі» (*Disciplinatores Mariae*); падчас пошасці 1400 года апекаваўся хворымі.

У 1402 г. Бэрнард уступіў у закон францішканаў, але ўжо праз два месяцы, незадаволены вольным трактаваннем манахаў прадпісанняў свайго заснавальніка, адышоў з аднадумцамі «на пустыню», у Каламбаё, каб захоўваць у сваім жыцці суворасць нораваў і прытрымлівацца прадпісанай строгасці статуту. На ўзор гэтай супольнасці пачалі ўзнікаць іншыя, а Бэрнард прыняў у 1404 г. святарскае пасвячанне і, дзякуючы сваёй славе казнадзея, неўзабаве стаў на чале рэфармацыйнага руху, які з часам аформіўся ў асобны закон — Ordo Fratrum Minorum Regularis Observantiae. Назву гэтага адгалінавання францішканаў дзеля лаканічнасці зазвычай падаюць як закон мінарытаў-абсервантаў, аднак у літаральным перакладзе яна азначае Ордэн Братоў Меншых Кананічнага (прадпісанага) Статуту.

Уплыў абсервантаў хутка пачаў пашырацца ў Еўропе: ствараліся новыя канвенты,[1] далучаліся да рэформы ранейшыя. У 1452 г. першыя бэрнардыны — Уладзіслаў Венгр з паплечнікамі, прыйшлі ў Кракаў. Годам пазней вучань св. Бэрнард з Сіены св. Ян Капістран, выступіўшы там з палымяным казаннем, здабыў такую вялікую колькасць неафітаў, што гэта абумовіла пабудову ў польскай сталіцы ў 1454 г. адмысловага кляштара, тытул якога і даў абсервантам нашага рэгіёна новую назву.

У 1468 г. паўстае і першы ў Вялікім Княстве Літоўскім ковенскі канвент. З таго часу бэрнардынскія кляштары на нашых землях множацца несупынна: у 1469 г. абсерванты прыбываюць у Вільню, у 1494 г. — у Гродна, у 1498 г. — у Полацак і г.д. Рух гэты быў няўхільны, але павольны, бо ўсё ж большую частку Беларусі насялялі вернікі грэка-візантыйскага абраду, на той час яшчэ прыналежныя да Праваслаўнае Царквы. Таму актывізацыя ў заснаванні бэрнардынскіх канвентаў на Беларусі назіраецца толькі ў XVII ст., калі каталіцызм у Княстве пачынае ўмацоўваць свае пазіцыі: абсерванты асталююцца ў Мінску, Іўі, Друі, Берасці, Слуцку, Магілёве і іншых местах.

**Мінскі бэрнардынскі касцёл**

Францішкане-абсерванты, званыя ў Рэчы Паспалітай бэрнардынамі, з'явіліся ў Мінску раней за большасць іншых законаў — а менавіта ў 1620-х гг. Іх касцёл, узведзены пад тытулам святога Юзафа, сужэнца Найсвяцейшай Панны Марыі, як і канвент пры ім, першапачаткова быў збудаваны з дрэва. У XVII ст., аднак, паўстаў новы мураваны комплекс, які пасля некалькіх пажараў у сярэдзіне XVIII ст. быў істотна рэканструяваны[2].

Досыць поўную інфармацыю пра стан касцёла ў перыяд пасля 3-х раздзелаў Рэчы Паспалітай дае акт яго візітацыі




Касцёл і канвент бэрнардынаў у Мінску на мапе XVIII ст. (паводле: Денисов В. Площадь Свободы в Минске. Минск, 1986, с. 17).

1796 года.[3] У гэты час, як зазначалася вышэй, касцёл быў ужо мураваны. Ён быў крыты гонтай і меў вежачкі, якіх мы ўжо не ўбачым на пазнейшых — пасля скасавання кляштара — здымках будынка. На тых вежачках знаходзіўся адзін вялікі звон і тры меншыя. Святыня была абнесеная часткова мураванаю агароджаю, а часткова — парканам.

Усярэдзіне касцёла мелася 9 мураваных алтароў з ляпнінаю. Алтары былі накрытыя трыма белымі абрусамі і забяспечаныя ўсім неабходным начыннем: апячатанымі партатылямі з рэліквіямі святых, срэбнымі таблічкамі *Sacri Convivii, Lavabo et in Principio* і інш. У галоўным алтары знаходзіўся мармуровы табэрнакулюм пекнай работы, а пад ім — цыборыум: адмысловая скрынка для захавання Найсвяцейшага Сакрамэнту (яна была выробленая са срэбра і пазалочаная).

За алтаром знаходзіліся хоры. Музычнае суправаджэнне св. Імшы ажыццяўлялася пры дапамозе дзесяцігалосых арганаў; арганы былі прыгожа па-




Тытульны аркуш лекцый Д.Эйдымонта.
Кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.
Фота А. Крапіўкі.

фарбаваныя і сваім выглядам расквечвалі ўнутранае ўбранне касцёла. Для прамаўлення навукі бэрнардынскія прапаведнікі ўзыходзілі на мармуровую, упрыгожаную ляпнінай, амбону, а вернікі маглі спавядацца ў адным з васьмі канфесіяналаў – кожны з якіх, як адзначана ў візітацыі, меў краткі і знаходзіўся ў адпаведным месцы[4]. Падлога ў цэнтры касцёла была мармуровая, а ў астатніх месцах – цагляная.

У сакрыстыі панаваў належны парадак. Касцёльная бялізна і патрэбнае для набажэнства начынне, а таксама кнігі былі раскладзеныя па адпаведных шафах. Адзначым, што касцёльны кнігазбор мінскіх бэрнардынаў меў досыць характэрны для такога роду бібліятэк склад: «Xiążki znajdujące się w Zakrystyi są te: Mszały, Rytuały, Graduały, Antyfonarze, Agentki, Ewangeliczki, Brewiarze, y inne służące ku chwale Bożej»[5]. На жаль, нічога нельга сказаць пра яго аб'ём, паколькі колькасць паасобнікаў у акце візітацыі не ўказана і нават не ўсе кнігі пералічаныя. Асобна ў сакрыстыі захоўваліся арнаты з усімі рэквізітамі і капы[6].

Напрыканцы акта візітацыі асобна падкрэслена, што «касцёл ксяндзоў бэрнардынаў у добрым парадку як звонку, так і ўсярэдзіне [ўтрымліваецца], і забяспечаны ўсім, што толькі можа быць выкарыстана для аздобы Дому Божага...»[7].

**Законнікі**

Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай бэрнардынскі канвент быў самым населеным з усіх мінскіх. У 1784 г. у ім налічвалася 13 святароў, 7 клерыкаў і 4 свецкія асобы — у той час як у кляштары дамініканаў пражывалі 6 святароў і 2 браты законныя, у кармэлітаў — 4 святары і 2 браты законныя, а ў бэнэдыктынаў – усяго толькі двое святароў[8].

У 1796 г. у мінскім канвенце было ўжо 14 святароў, 10 студэнтаў філасофіі (клерыкаў) і 5 братоў законных[9]. Кіраванне канвентам ужо другі год ажыццяўляў гвардыян Герардус Батрамей, якому падчас згаданай візітацыі было 42 гады. Ён славіўся сваім прыкладным жыццём, добрай рэпутацыяй сярод гараджанаў, а таксама адукаванасцю — займаючы пасаду лектара філасофіі і тэалогіі, быў абазнаны і ў геаграфіі, касцёльнай і ўсеагульнай гісторыі, матэматыцы і іншых навуках.

Апроч яго найбольш уплывовымі асобамі ў кляштары былі 70-гадовы прадстаўнік славутага роду і *Pater Provintiae* (айцец правінцыял) Пётр Ваньковіч, які жыў у канвенце ўжо 12-ы год, а таксама 65-гадовы *Definitor habitualis* (сталы кіраўнік правінцыі) Апалінары Амэндоўскі, які займаў на працягу свайго жыцця ўсе магчымыя пасады ў законе[10], а ў мінскім кляштары жыў ужо 5-ы год.

Вікарыем быў 56-гадовы немец Эўзебій Прас, а нядзельным казнадзеем 35-гадовы жмудзін Дэмэтры Юндзіл, у абавязак якога ўваходзіла яшчэ і спавяданне манашак з мінскага кляштара бэнэдыктынак. Мінскіх жа бэрнардынак спавядаў 44-гадовы Элеўтэрый Бальцэвіч.

Пасаду лектара філасофіі займаў 32-гадовы Фелікс Савіцкі (ён навучаўся ў Генеральных студыях ордэна ў Гродне),[11] а магістрам філасофіі і прафесарам маральнай тэалогіі быў 34-гадовы Гілярый Сперскі. Як бачым, выкладчыцкі корпус мінскіх студыяў быў досыць малады.

Рознага роду прапаведніцкія пасады займалі 29-гадовы Фартунат Чарноцкі (народны казнадзей), 42-гадовы Валерый Мяшкоўскі (казнадзей экстраардынарны) і 31-гадовы Амброзій Навіцкі (казнадзей-катэхет), у абавязкі якога ўваходзіла навучаць парафіянаў «Асновам веры святой каталіцкай з выкладаннем Святога Пісання»[12]. Усе казнадзеі канвента мусілі перад тым, як распачаць абвяшчэнне Божага слова, скласці перад афіцыялам вызнанне веры[13].

Частка бэрнардынаў, прыпісаных да канвента, жыла па-за ягонымі сценамі. У прыватнасці, 63-гадовы Трыфан Бражкоўскі быў капеланам у маёнт-

ку яснавяльможнага ваяводы мінскага Хмары, а 40-гадовы Гіяцынт Вайцэхоўскі служыў у Койданаве пры парафіяльным касцёле[14]. Для накіравання на капеланства ці ў парафію па запрашэнні плябана законнік павінен быў вылучацца ўзорнасцю паводзінаў і незаплямленасцю біяграфіі, а таксама здаць экзамен на, так бы мовіць, «прафпрыдатнасць»[15].

З усіх законнікаў, што жылі пры канвеце, не ўказаныя толькі абавязкі 72-гадовага Тодара Кані — магчыма, з увагі на пашанотны век і стан здароўя[16]. Амаль усе пералічаныя вышэй святары мелі апрача філасофскай яшчэ і тэалагічную адукацыю, а некаторыя вылучаліся веданнем гісторыі, матэматыкі і моваў (пераважна жмудскай, што гаворыць пра іх паходжанне або папярэдняе месца пражывання).

Калі казаць пра студэнтаў філасофіі, дык наймаладзейшым з іх быў 19-гадовы Людвік Шэфертштыдт, які жыў у канвенце другі год; старэйшым жа — 33-гадовы Ігнат Кадэла. Астатнія судэнты былі ва ўзросце 23–29 гадоў, але асноўная іх маса мела па 23–24 гады. Пералічым іх імёны: Геранім Буйноўскі, Язэп Білецкі, Габрыэль Нарэйка, Антон Мірановіч, Урбан Прывадковіч, Каэтан Шышкевіч, Мікалай Залатагорскі, Тодар Амбразовіч... Усе яны навучаліся на 2-м курсе, спасцігаючы навуку «філасофіі, дыялектыкі, логікі, метафізікі»[17].

На падставе агульнай інфармацыі можна прыблізна абмаляваць мадэль «кар'еры» бэрнардына на Беларусі. Паступіць у канвент ён мог з 18 гадоў, але зазвычай гэта здаралася пазней — пасля 20-ці. На працягу трэцяга ўзроставага дзесятка ён праходзіў фармацыю, атрымліваў веды філасофіі — апошняе звычайна займала гады тры, а затым, найчасцей, прыступаў да вывучэння тэалогіі. Бліжэй да трыццаці гадоў ён быў ужо здатны да выканання той ці іншай працы ў кляштары і пачынаў паўнавартаснае служэнне Богу ды людзям, падобна вайскоўцу, якога часта пераводзілі з аднаго месца на другое, адпаведна надзённым патрэбам закона.

Што датычыць братоў законных, дык у іх абавязкі ўваходзіла, перадусім, звычайная фізічная праца. Адзін з іх — вядомы сваёй дасведчанасцю, чысцінёй жыцця і цвярозасцю брат Зянон Сідаровіч, веку 44 гадоў — высылаўся на квэсту па паветах (збіраць ахвяраванні на кляштар — гэты звычай яскрава апісаў у сваіх творах беларускі польскамоўны пісьменнік XIX ст. Ігнат Ходзька). Астатнія чатыры браты — Дамінік Сняжко, Максіміліян Тэльцэ, Адорык Буда і Пётр Кандрацкі — былі ва ўзросце ад 26 да 54 гадоў і выконвалі розныя гаспадарчыя абавязкі, як, напрыклад, па ўтрыманні парадку ў сакрыстыі, рэфектары і інш[18].

Агульныя сходы, на якіх прысутнічалі ўсе браты, адбываліся ў сталоўцы-рэфектары — адзіным вялікім памяшканні канвента, дзе можна было сабраць усіх разам.

**Праца ў парафіі**

Усе тагачасныя касцёлы ў Менску ў пэўным сэнсе залежалі ад фары, якая карысталася прыярытэтам у вырашэнні пытанняў, звязаных з духоўным жыццём парафіі. Менавіта менскі пробашч вырашаў — каб не было шкоды для парафіяльнай тацы, — у якія гадзіны найлепш служыць набажэнства, якія сакрамэнты і дзе можна адпраўляць і да т.п. На той час Менск быў ужо вялікім местам, і хоць сярод яго насельніцтва пераважалі грэка-католікі, аднак нешматлікі клер фарнага касцёла не мог задавальняць усе патрэбы нават парафіянаў, рассеяных на досыць абшырнай прасторы. Таму бэрнардыны мелі дазвол удзяляць пэўныя сакрамэнты (як, напрыклад, наведванне хворых) не толькі ў сваім касцёле, але і ў цэлым месце і нават на тэрыторыі парафіі па-за яго межамі. Апрача таго, яны павінны былі асыставаць святарам фары — гучна называнай у дакументах *Matris Ecclesiae Parochialis* (Парафіяльная Маці-Касцёл) — у правядзенні публічных працэсій на свята Божага Цела, у Вялікую суботу і іншыя ўрачы-




Ілюстрацыі да курсу алгебры і пачатак курсу метафізікі са скрыпту лекцый, чытаных на студыях філасофіі мінскага бэрнардынскага канвента. Кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Фота А. Крапіўкі.



Разгортка з ілюстрацыямі да філасофскіх курсаў, чытаных на студыях філасофіі мінскага бэрнардынскага канвента. Кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Фота А. Крапіўкі.

стасці.[19] Аднак бэрнардыны ніколі не давалі шлюбаў у сваёй святыні, а Імшу цэлебравалі толькі ў вызначаныя гадзіны[20].

Чужыя святары дапускаліся да адпраўлення набажэнства ў касцёле бэрнардынаў — як і ва ўсіх іншых святынях Менска — толькі з дазволу афіцыяла (прынамсі, так сцвярджае акт візітацыі)[21]. Гэта быў яшчэ адзін знак часу: царызм пільнаваў, каб не дапускаць да багаслужбы — а тым самым, не даць сродкаў для існавання — патрыятычна настроенае каталіцкае духавенства, якое адмовілася прысягаць расійскаму трону.

Набажэнства распачыналася ў касцёле пасля медытацыі, а 6-й гадзіне раніцы, і гэта была чытаная Імша. Пасля яе адбывалася другая, на якую збіраліся ўсе законнікі і падчас якой спяваліся малітвы *Sub Tuum Praesidium* («Тваёй абароне...»), *Deus noster refugium* («Бог — наш прытулак»). І гэтак, адна за другой, Імша цэлебравалася ажно да 12-й гадзіны. У нядзелі і ўрачыстыя святы пасля чытанай Імшы дадаваліся суплікацыі, а ў часе самога набажэнства пасля вызнання веры казнадзей гаварыў пропаведзь на чытаны ўрывак з Евангелля, у якой тлумачылася Святое Пісанне і выводзілася мараль дзеля «выпраўлення сэрцаў людскіх ды скіравання іх на захаванне абавязкаў і сапраўднай Боскай рэлігіі»[22]. У гэтыя дні набажэнствы адпраўляліся да 10-й гадзіны.

Выстаўленне Найсвяцейшага Сакрамэнту адбывалася ў нядзелі і ўрачыстыя святы, падчас спявання суплікацый, *Sub Tuum Praesidium* і *Deus noster refugium*. Выстаўляўся Найсвяцейшы Сакрамэнт і падчас публічных працэсіяў на ўрачыстасці *cum Indulgentiis plenariis* (з поўным дараваннем грахоў), у прыватнасці, на свята Беззаганнага Зачацця Панны Марыі, а таксама — святога Антонія, Парцыюнкулы і святога Францішка[23].

У парафіі існаваў пэўны звычай справавання экзарцызмаў, які, на жаль, не апісаны дакладна : у акце толькі адзначана, што па-за гэтым звычаем бэрнардыны адпраўлялі экзарцызмы для дзяцей і слабых людзей *iuxta Rituale Romanum*[24] — паводле «Рытуала» ў яго рымскай пострыдэнцкай рэдакцыі.

Стараючыся выконваць Божыя запаведзі, бэрнардыны заўсёды накіроўвалі свайго святара на святую Імшу і казанне навукі ў шпіталь, дзе ляжала найболей хворых, і ў лазарэты. Яны наведвалі зняволеных і прысутнічалі на судах, прычым там мусіў знаходзіцца «прытомны» святар — трэба разумець, такі, які ведаў законы[25].

Катэхеза для парафіянаў і студэнтаў адбывалася ў нядзелю па абедзе. У форме пытанняў і адказаў выкладаліся Божыя запаведзі і касцёльныя пастановы.

### *Studium Philosophicum*

Нягледзячы на тое, што вучэнне св. Францішка — гэта, перад усім, «тэалогія сэрца», бэрнардыны нямала ўвагі надавалі адукацыі. Гэта, зрэшты, і не дзіўна, бо абавязак прамаўлення казанняў патрабаваў немалых ведаў, уменняў і навыкаў. Яны неслі асвету, даючы вышэйшую адукацыю сваім клерыкам, гэтак і навучаючы просты люд, таму вельмі праўдападобнай здаецца некалі выказаная гіпотэза пра тое, што ў школцы пры полацкім канвенце вучыўся будучы беларускі першадрукар Францішак Скарына — на гэта выразна ўказвае ягонае імя, вельмі характэрнае для бэрнардынскага асяродку. Дарэчы, асяродак беларускіх бэрнардынаў даў пекнаму пісьменству і такіх папулярных у свой час не толькі ў Княстве, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай аўтараў-казнадзеяў як, напрыклад, Францішак Прылуцкі ці Міхал Пашкевіч, а таксама шэраг іншых, менш вядомых пісьменнікаў. На вялікі жаль, беларуская літаратура не залічвае іх сёння да грона сваіх творцаў — яны забытыя нашымі даследчыкамі, бо пісалі па-польску. Але ці не надышоў ужо час вярнуць іх імёны з нябыту?

Згадаем, што пры мінскім



Пачатак курсу «Preliminaria in Philosophiam» М. Дамашэвіча.
Кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.
Фота А. Крапіўкі.

канвенце была «Studium Philosophicum» — своеасаблівая вучэльня для законнікаў, і выкладаўся курс філасофіі, пра які мы ведаем і з архіўных дакументаў[26], і з загалоўкаў рукапісных канспектаў гэтага перыяду (напр.: «Philosophia Rationalis veterum recentior[u]$^{m}$q[ue] Sententiis Accommodata et a M.V.P. Dominico Eydim[on]tt Philosophiae Lectori Generali Ord[inis]: Minor[itu]m Observan[tiae]: Regular[is]: Religiosae Juventuti in Conventu Minscensi ad Sanctum Josephu[m] Nutritium Extradita»)[27]. Звернем увагу на тое, што ў пададзенай вышэй цытаце выкладчык філасофіі Дамінік Эйдымонт называе сябе лектарам генеральным; гэтаксама тытулуе сябе і аўтар курсу метафізікі Даміцый Булгароўскі («Philosophia Mentis sive Metaphysica Methodo Clarissimi Fortunati A BRIXIA ADORNATA et in Conventu Mniscensi [sic!] ad S[anctum]. Josephum Spon[sorem]. B[eatae]. V[irginis]. M[ariae]. Per me Fratrem Domitium Bułharowski Lectorem Philosophiae Generalem Religiosis Seraphici institute Alumnis. TRADITA. Inchoata vero Anno D[omi]ni 1781. D[ie]. 7. Men[sis]: 7bris.»). Па-за тым, як мы бачылі вышэй, некаторыя з прафесараў выкладалі тэалогію. Ці не азначае гэта, што мінскае «Studium Philosophicum» у канцы XVIII ст. ператварылася ўжо ў «Studium Generale» — ордэнскі універсітэт? Калі так, дык гэта б сведчыла пра набыццё мінскім канвентам выключнага значэння сярод іншых бэрнардынскіх кляштараў Літоўскай правінцыі. Аднак, на жаль, мы пакуль не маем адказу на гэтае пытанне.

У беларускіх і замежных навуковых бібліятэках і музеях захоўваецца значная колькасць нататак па розных прадметах (тэалогіі, філасофіі, рыторыцы), напісаных студэнтамі ордэнскіх вучэльняў — прычым не толькі бэрнардынскіх[28]. Яны адрозніваюцца ад сучасных студэнцкіх канспектаў сваёй дбайнасцю, завершанасцю думак і сказаў, наяўнасцю ілюстрацый. І гэта не дзіўна: у кляштарных студыях на Беларусі яшчэ да канца XVIII ст. захоўваўся сярэднявечны спосаб выкладання, калі прафесар надыктоўваў свае лекцыі студэнтам, а тыя запісвалі слова ў слова, ствараючы г. зв. «скрыпты»[29], — методыка, ад якой у Заходняй Еўропе пачалі адмаўляцца ўжо ў эпоху Рэнесанса.

Паводле традыцыі Арыстоцелевай школы, філасофія падзяляецца на тэарэтычную і практычную. Тэарэтычная філасофія, у сваю чаргу, дзеліцца на матэматыку, фізіку і метафізіку[30]. Паколькі Арыстоцелева філасофія ў інтэрпрэтацыі Тамаша з Аквіна лягла з часам у аснову каталіцкага светапогляду, дык не дзіўна, што такое ж дзяленне мы нярэдка назіраем і ў згаданых скрыптах, якія адлюстроўваюць бэрнардынскую методыку выкладання філасофіі.



Ілюстрацыі да скрыпту М. Дамашэвіча.
Кніга захоўваецца ў зборах Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.
Фота А. Крапіўкі.

Напрыклад, зробленыя клерыкам Сікстам Фрэйдыфертам нататкі лекцый у мінскім канвенце, пачынаючы з 1781 г., змяшчаюць пяць частак, што ахопліваюць чатыры курсы філасофіі, чытаныя Д. Эйдымонтам, Д. Булгароўскім і, верагодна, іншымі лектарамі. Першы з іх, як мы ўжо бачылі з пададзенай вышэй цытаты, прысвечаны «рацыянальнай філасофіі» (логіцы, якая выконвае ролю ўводзінаў у спосаб філасофскага разважання), наступныя ж ахопліваюць матэматыку (алгебру), метафізіку і фізіку.

Не менш цікавым у гэтым сэнсе з'яўляецца яшчэ адзін скрыпт па філасофіі, які, хоць і быў створаны ў іншым месцы, аднак доўгі час захоўваўся ў бібліятэцы мінскага канвента, і трэба думаць, быў там скарыстаны. Гэта канвалют нататак з лекцый па філасофіі, чытаных Марыянам Дамашэвічам на Генеральных студыях у Гродне ў 1786–1788-х гг.[31] Кніга мае загаловак, агульны для ўсяго манускрыпта: «Institutiones Philosophiae Ad Rationis Et Experientiae Dictum Conscriptae Atq[ue] In praelectionibus Scholasticis Juxta Dispositionibus Capituli Provincialis A[o] 1783 Vilnae Celebrati Explicari caeptae. In Conventu S[anct]ae Crucis Inventae Grodnensi Per Patrem Marjanum Domaszewicz Lectorem Philosophiae Generalem Anno D[omi]ni 1786», з якога мы бачым, што праграма лекцый была складзена на падставе распараджэнняў капітулаў Літоўскае правінцыі — то бок, заснаваная на прынцыпах, абавязковых для ўсіх бэрнардынскіх вучэльняў краю. Такім чынам, мы можам бачыць структуру філасофскіх ведаў, паводле якой вялося выкладанне ў бэрнардынскіх студыях пасля 1783 г. (зрэшты, яна не надта розніцца ад ранейшай). Гэты канвалют складаецца, як і першы, з пяці частак, што ахопліваюць чатыры курсы. Так, у прыватнасці, змест першага алігату — гэта «Уводзіны ў філасофію» («Praeliminaria in Philosophiam»). Ён уключае ў сябе агульныя звесткі па філасофіі і асновы логікі («Philosophiae Rationalis sive Logicae Prolegomena»), а таксама школьныя прыклады па логіцы («Exertationes Scholastica Ex Logicae»). Другая частка («Tomus secundus») прысвечаная асновам метафізікі з разглядам анталагічнага, касмалагічнага і іншых аспектаў, кожны з якіх вылучаны ў асобны раздзел («Institutiones Methaphisicae, Ontologiam, Cosmologiam, Psychologiam et Theologiam Naturalem Complexae ... seu Tomus 2dus Philosophiae»). Дзве часткі ахопліваюць курс фізікі («Institutiones Philosophiae Naturalis sive Phisica. Tomus 3us Philisophiae" ды "Institutio[n]um Philosophiae Naturalis Pars Posterior. sive Phisica Specialis Philisophiae Tomus 4us.») і апошняя — асновы этыкі («Institutiones Philosophiae seu Aethicae»).

У 1796 г. у бібліятэцы мінскага канвента было адзінаццаць такіх рукапісаў па філасофіі («Philosophia scripta libri — 11»)[32], што, трэба разумець, у належнай ступені забяспечвала патрэбы студэнтаў, колькасць якіх, звычай, не перавышала дзесятка. А паколькі адукацыя, асабліва ў канцы XVIII ст., не магла ўжо абмяжоўвацца аднымі лекцыямі, самы час перайсці да разгляду бібліятэкі канвента. Аднак кнігазборы абсервантаў — гэта тэма асобнай і працяглай гутаркі, таму на гэтым месцы мы з бэрнардынамі часова развітаемся, каб ізноў сустрэцца з імі ў адным з наступных артыкулаў цыкла "Кніжныя скарбы".

---

[1] Манаскія дамы жабрачых ордэнаў, да якіх належаць і францішкане розных адгалінаванняў, традыцыйна завуцца канвентамі. У айчынных актах XVIII ст., аднак, для іх азначэння найчасцей ужываецца тэрмін «кляштар». У сувязі з гэтым я буду ўжываць абедзве згаданыя назвы як ўзаемазамяняльныя.

[2] Гл.: Денисов В. Н. Площадь Свободы в Минске. Мінск, 1985, с. 49.

[3] Act Wizyty u Jchmsc Xięży Bernardynów Mińskich… // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ): ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 24–25. (У назвах і цытатах захоўваецца правапіс арыгіналу).

[4] Тамсама, арк. 24.

[5] Act Wizyty u Jchmsc Xięży Bernardynów Mińskich... // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 24 адв.

[6] Тамсама, арк. 24 адв.

[7] Тамсама, арк. 25 адв.

[8] Akt Wizyty Generalney Dziekańskiey … w Kościele i Plebanii Mińskiey // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 116.

[9] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znaydujących się w Klasztorze XXży Bernardynów Mińskich // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 26–27.

[10] Тамсама, арк. 26.

[11] Гл. спіс студэнтаў філасофіі Гродзенскіх генеральных студыяў (Scholastici Philosophi) на адвароце форзацнага аркуша ў кнізе: Domaszewicz M. Institutiones Philosophiae... Grodnae, 1786-1788. (Захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі пад шыфрам: КП 523).

[12] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znaydujących się w Klasztorze XXży Bernardynów Mińskich // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 27.

[13] Act Wizyty u Jchmsc Xięży Bernardynów Mińskich... // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ): ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 25.

[14] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znaydujących się w Klasztorze XXży Bernardynów Mińskich // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 26 адв.

[15] Act Wizyty u Jchmsc Xięży Bernardynów Mińskich... // Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ): ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 25.

[16] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znaydujących się w Klasztorze XXży Bernardynów Mińskich // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 26 адв.

[17] Тамсама, арк. 27.

[18] Wiadomość o wszystkich Kapłanach y Klerykach, znaydujących się w Klasztorze XXży Bernardynów Mińskich // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 26 –27 адв.

[19] Тамсама, арк. 25 адв.

[20] Тамсама, арк. 24 адв.

[21] Act Wizyty u Jchmsc Xięży Bernardynów Mińskich... // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 256, арк. 24 адв.

[22] Тамсама, арк. 25.

[23] Тамсама, арк. 24 адв. — 25. Апошнія тры святы былі францішканскімі.

[24] Тамсама, арк. 25.

[25] Тамсама, арк. 25–25 адв.

[26] Гл., напр.: Akt Wizyty Generalney Dziekańskiey … w Kościele i Plebanii Mińskiey // НГАБ: ф. 1781, воп. 27, спр. 220, арк. 117.

[27] Гл.: Eydimontt D. Philosophia Rationalis... Minscae, circa 1781. (Захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі пад шыфрам: КП 13624).

[28] На некаторыя з тых канспектаў, што знаходзяцца ў Вільні, напр., спасылаецца Э. К. Дарашэвіч у сваёй працы «Философия эпохи Просвещения в Белоруссии» (Мінск, 1971); падобныя матэрыялы захоўваюцца ў калекцыі рукапісных і старадрукаваных кніг Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і іншых айчынных кнігасховах.

[29] Ад лац. *scriptum* — запісанае.

[30] Пар.: Трубецкой С.Н. История древней философии. Ч.2. Москва, 1908, с. 61.

[31] Domaszewicz M. Institutiones Philosophiae... Grodnae, 1786–1788. (Захоўваецца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі пад шыфрам: КП 523).

[32] Regestra Bibliotek po Klasztorach w Guberny Mińskiey leżących Znaydujących się 1796 rok // НГАБ: ф. 1781, воп. 32, спр. 186, арк. 7 – 18 адв.



Ф. Шапэн.
Фота 1846 года.

# Да сустрэчы ў небе

*Фрыдэрык Францішак Шапэн. Дзякуючы сваёй геніяльнай творчасці ён узышоў на вяршыню сусветнай славы. У 160-ю гадавіну смерці гэтага вялікага кампазітара варта бліжэй прыгледзецца да апошніх хвілінаў яго зямнога жыцця.*

З надыходам 1849 года стан здароўя Фрыдэрыка Шапэна стаў моцна пагаршацца. Аднак хворага больш клапаціла не гэта, а фатальная матэрыяльная сітуацыя. Ён ужо не мог даваць заняткі, якія былі асноўнаю крыніцаю яго існавання. Не мог ужо і пісаць музыку. У лісце да сям'і ад 25 чэрвеня, адчуваючы, што ўжо нядоўга яму засталося цярпець зямныя пакуты, Фрыдэрык пісаў: «Калі можаце, прыедзьце. Я вельмі слабы, і ніякія дактары не дапамогуць мне так, як вы...»

Восенню дактары раілі яму выехаць у Італію, але ён ужо не скарыстаўся гэтаю парадаю. Апошнюю восень у сваім жыцці Фрыдэрык Шапэн правёў у Парыжы, вільготным і душным. Калі з Варшавы прыехала сястра кампазітара Людвіка Енджэевіч з мужам і 15-гадоваю дачкою, Фрыдэрык вельмі ўсцешыўся, хоць яго мучылі ліхаманка і кашаль. Каля ложка хворага знаходзіліся блізкія сябры і вучні. Сярод іх былі вядомы мастак Эжэн Дэлакруа, Цыпрыян Каміль Норвід, ксёндз Аляксандр Ялавецкі, Войцех Гжымала, княгіня Марцэліна Чартарыйская, Багдан Залескі, графіня Дэльфіна Патоцкая. Па яго настойлівай просьбе графіня, вядомая сваёй прыгажосцю, са слязьмі на вачах праспявала некалькі арый. Як распавядаў адзін са сведкаў, Фрыдэрык «слухаў апошнія гукі гэтага свету ў малітоўнай засяроджанасці». Калі графіня спявала «голасам, расчуленым слязьмі, прысутныя ўпалі на калені, стрымліваючы плач. Кс. Ялавецкі наблізіўся да ложка і ўдзяліў яму сакрамэнты ў належнай цішыні, сярод змрочнага супакою». У той самы дзень, 15 кастрычніка 1849 года, Шапэн папрасіў спаліць усе нявыдадзеныя і незавершаныя творы. Гэты радыкальны акт паміраючы кампазітар тлумачыў «вялікаю пашанаю да публікі».

Наступная ноч была надзвычай цяжкая. Хворы не спаў, моцна пакутаваў і толькі пад раніцу адчуў пэўную палёгку. Ён сказаў сябрам: «Іграйце потым у маю памяць, і я буду чуць вас адтуль!» «Мы будзем іграць тваю санату», — прамовіў адзін з сяброў. «О не! — адказаў Фрыдэрык, — у маю памяць іграйце Моцарта. Гэта прынясе мне суцяшэнне!» Кампазітар паспавядаўся перад кс. А. Ялавецкім, сваім сябрам з дзяцінства, і, вельмі ўзрушаны, прыняў святую Камунію. Супакоіўшыся, ён выказаў шчырую радасць ад таго, што паяднаўся з Богам. Потым развітаўся са сваімі блізкімі сябрамі і, бачачы слёзы ў іх вачах, спакойна сказаў: «Добра, што я так паміраю... Дарагая мая сястра, не плач! І вы таксама не плачце, сябры мае, бо я шчаслівы!.. Адчуваю, што ўжо паміраю... Маліцеся за мяне... Да сустрэчы ў небе...»

Моцная вера Фрыдэрыка Шапэна была нанава адшуканым скарбам, бо загубілася на эміграцыі, хоць кампазітар не раз згадваў Бога-Стварцу. Пра гэтую веру кс. Ялавецкі ў лісце да графіні Ксавэрыі Грахольскай пісаў: «Ужо шмат гадоў жыццё Шапэна трымалася на валаску. Яго цела, заўсёды кволае і слабое, усё больш знемагала ад агню яго генія. Усе дзівіліся, што ў такім знясіленым целе яшчэ жыве душа, што яно не траціць хуткасці розуму і палкасці сэрца. Яго твар быў халодны, як алебастр, бледны і празрысты, а вочы, звычайна затуманеныя,

час ад часу іскрыліся бляскам пагляду. Здавалася, што ён, заўсёды прыемны і мілы, жартаўлівы, празмерна чуллівы, ужо слаба быў звязаны з гэтым светам. Але, на жаль, пра неба ён не думаў. У яго было мала добрых сяброў, а дрэнных, якія не мелі веры, вельмі шмат. <...> Трыумфы ў яго надзвычай праніклівым мастацтве заглушалі ў сэрцы кампазітара голас Святога Духа. Пабожнасць, якую ён увабраў у сябе з малаком маці, была ўжо толькі сямейным успамінам. А бязбожнасць таварышаў апошніх гадоў жыцця Шапэна ўсё больш усмоктвалася ў яго ўчэпісты розум, а на душы легла свінцоваю хмараю сумнення. І толькі дзякуючы яго вытанчанай прыстойнасці ніколі не здаралася, каб ён насміхаўся ці кпіў са святых справаў...» У далейшай частцы свайго ліста кс. Ялавецкі ўзгадваў пра тое, як ён усё часцей наведваў свайго сябра, даведаўшыся пра дрэнны стан яго здароўя, як з даверам маліўся, «каб гэтая душа не загінула». Паведамляючы пра чарговы візіт да Шапэна, кс. Ялавецкі пісаў: «Дрыжучы ад узрушанасці, я стаў пад дзвярыма, якія ўпершыню былі замкнёныя перада мною. Праз некалькі хвілін ён загадаў мяне ўпусціць, але толькі для таго, каб пацінуць мне руку і сказаць: „Я вельмі люблю цябе, але нічога не гавары, ідзі спаць”. Назаўтра прыпадаў дзень св. Эдварда, апекуна майго любімага брата. Я ахвяраваў за яго душу святую Імшу і адначасова прасіў у Бога: „О Божа, злітуйся! Калі Табе мілая душа майго брата Эдварда, дай мне сёння душу Фрыдэрыка!” З двайной занепакоенасцю я пайшоў да Шапэна. Заспеў яго пры сняданку і пасля яго запрашэння сказаў: „Дарагі мой сябра, сёння імяніны майго брата Эдварда”. Шапэн уздыхнуў, а я працягваў: „У свята майго брата дай мне абяцанне”. „Дам табе, што пажадаеш”, — адказаў Шапэн. Я папрасіў: „Дай мне сваю душу!“ „Так, разумею цябе. Вазьмі ж яе!” — сказаў Шапэн і сеў на ложак. Тады мяне агарнула невымоўная радасць, але ў той жа час і трывога. Як жа ўзяць гэтую мілую душу, каб аддаць яе Богу? Я ўпаў на калені і ў сэрцы ўсклікнуў да Бога: „Вазьмі яе сам!“ Пасля працягнуў Шапэну Пана Езуса Укрыжаванага, маўкліва кладучы Яго сябру на далоні. У мяне пацяклі слёзы. „Ці верыш?” — запытаў я. „Веру”, — адказаў Фрыдэрык. „Так, як цябе навучыла маці?” — „Так, як мяне навучыла маці!” І, гледзячы на Пана Езуса Укрыжаванага, ён скрозь слёзы прыступіў да святой споведзі. Пасля прыняў Віятык і апошняе намашчэнне, аб чым сам папрасіў. З той хвіліны, пераменены Божаю ласкаю — безумоўна, самім Богам — ён стаў нібы іншым чалавекам <...>.



Апошнія хвіліны жыцця Ф. Шапэна. З карціны Т. Кватюўскага. Каля 1850 г.

Перад самым скананнем Шапэн яшчэ раз паўтарыў наймілейшыя імёны Езуса, Марыі і Юзафа, прытуліў Крыж да сваіх вуснаў і сэрца — і на апошнім уздыху вымавіў: „Я ўжо каля крыніцы шчасця!”»

Паводле сямейнай традыцыі, апошнія словы Шапэна датычыліся яго маці: «Мама, бедная мая мама». Ён памёр у дзве гадзіны ночы з 16 на 17 кастрычніка 1849 года. На пахаванні, якое адбылося 30 кастрычніка ў парыжскім касцёле святой Марыі Магдалены, прысутнічала мноства прыхільнікаў яго таленту. Згодна з пажаданнем Шапэна, у яго памяць быў выкананы «Рэквіем» В. А. Моцарта з удзелам салістаў і сяброў «Societe des Concerts». У пахавальным шэсці на могільнік Пэр-Лашэз крочыў амаль увесь Парыж. На чале пахавальнай працэсіі ішоў ксёндз Адам Ежы Чартарыйскі. Калі труну апусцілі ў магілу, на яе высыпалі жменю роднай польскай зямлі, той самай, якую 2 лістапада 1830 года яму перадалі сябры з пажаданнем вярнуцца на вольную Бацькаўшчыну. Згодна з воляю кампазітара, сястра Людвіка прывезла яго сэрца ў Варшаву і як бясцэнную рэліквію захавала ў касцёле Святога Крыжа на Кракаўскім прадмесці.

*Падрыхтавала і пераклала з польскай мовы Ганна Серэхан.*

*Паводле тэксту Яна Урыгі, час. «•ród³o», 11 кастрычніка 2009 г.*

## CONTENTS

The article by art critic Valery Buival named «Joachim Patinir. Rest on the Flight from Egypt» opens this edition of *Our Faith*. Here the author tells us about one of the masterpieces of the Netherlands art, which is kept in Prado Museum in Madrid (p. 2-3).

«It is a big luck — to serve to people» — that is the name of the interview by our editor-in-chief Krystyna Lyalko with Metropolitan Tadeush Kandrusevich on the occasion of the 20th anniversary of his consecration (p. 4-8).

We also call your attention to the interview by Franz Siuko with the Ordinary of the Diocese of Vitebsk bishop Uladyslau Blin on the occasion of the 10th anniversary of his consecration (p. 9-11).

Zmicier Tsehanovich offers the readers some aphorisms from the works and speeches of the prominent priest and public figure of Belarusian Revival Adam Stankevich (p. 12-13).

In column *Translations* we continue publishing «The Flowers of St Francis» translated by Aksana Danilchyk (p. 14-15).

In column *Ad Fontes* we offer you the continuation of a famous work by Thomas a Kempis «The Imitation of Christ» translated into Belarusian by d. Stanislau Grynkevich in the 30-es of the XX century (p. 16-17).

Under the title «During the Epoch of Changes» we publish the extracts from the press conference of archedeacon Andrey Kuraev, which took place in Minsk before the visit of His Holiness Kirill, Patriarch of Moscow and All Russia to Belarus (p. 18-21).

«The Letter of St. Bruno Boniface to the King Henryck II» translated from Latin by famous Latin scholar Ales Zhlutka is published in this edition of the magazine (p. 22-25).

In column *Faith and Culture* we offer you the article by Piotra Rudkouski OP «"The Way of Cross" of European Freedom» (p. 26-30).

The article by brother Atanasy is dedicated to the bonifratres (Brothers Hospitallers of St. John of God) activity (p. 31-34).

In column *Poetry* we publish some poetry of Belarusian poet Aksana Danilchyk (p. 35-37).

The article by Peter Wail «In the Beginning — Giotto» translated into Belarusian by Lydia Kaminskaya and tells about the famous italian renaissance artist (p. 38-42).

Iryna Bagdanovich, a literary expert, in her issue «On the Way of National and Spiritual Revival» researches the activity of Belarusian patriot Branislau Epimah-Shypila and offers you a publication of the verse «Ten Commandments of God» from the collection of the scientist (p. 43-46).

In column *Our Shrines* we publish Alena Karpenka's research «Concerning the History of the Altar of Our Lady of Rosary in the Church of the Assumption of the Most Holy Virgin Mary in Pinsk» (p. 47-51).

«I'll Go on Foot, Mum» — that's the title of a chapter from the recent book by Franz Siuko, a writer (p. 52-56).

We offer our readers an interview with the Austrian organist Johann Trumer «The Life Would Be Empty without Music...» (p. 57-59).

In column *Art* you can find an essay by Danuta Bichel devoted to the craftsman Kazimir Misura, who at the time works on the renewal of the burned parts of the main altar in Grodna Cathedral of Saint Francis Xavier (p. 60-62).

Researcher Jury Lauryk in column *From the Visitator's View* offers his article «St. Bernard Brothers in Minsk in 1796» (p. 63-69).

«See You in Heaven» — that is the article by Jan Uryga, where he tells about the last days of the earth life of Frederick Chopin on the occasion of the 160th anniversary of the composer's death (p. 70-71).

## RESÜMEE

Diese Nummer der Zeitschrift beginnt mit dem Artikel vom Kunstwissenschaftler Walery Bujwal „Joachim Patinir. Ruhe auf der Flucht nach Ägypten", wo der Autor über eines der Meisterwerke der holländischen Malerei erzählt, das in Madrid im Prado aufbewahrt wird (S. 2-3).

„Es ist ein großes Glück, den Menschen zu dienen" – so heißt das Interview der Chefredakteurin der Zeitschrift Kristina Ljalko mit dem Metropoliten Tadeusz Kondrusiewicz, das dem 20.Jahrestag seines Bischofsdienstes gewidmet ist (S. 4-8).

Der Aufmerksamkeit der LeserInnen wird auch das Interview von Franz Siuko mit dem Ordinarius der Diözese Witebsk Bischof Wladislaw Blin anlässlich des 10.Jahrestages seit der Gründung der Diözese und seines Bischofsdienstes angeboten (S. 9-11).

Smizer Zechanowitsch hat für die LeserInnen die Aphorismen aus den Arbeiten und den Vorworten des hervorragenden Priesters und Funktionärs der belarussischen Wiedergeburt Adam Stankewitsch vorbereitet (S. 12-13).

In der Rubrik *Übersetzungen* ist die Fortsetzung des Werkes „Die Blümchen des heiligen Franziskus" in der Übersetzung von Aksana Daniltschyk angeboten (S. 14-15).

In der Rubrik *Ad fontes* befindet sich die Fortsetzung des berühmten Werkes von Thomas von Kempen „Nachfolge Christi" in der belarussischen Übersetzung, die von Dr. Stanislau Grynkewitsch in den 30er Jahren des vorigen Jahrhunderts gemacht wurde (S. 16-17).

Unter dem Titel „In der Epoche der Veränderungen" sind die Fragmente aus der Pressekonferenz des Protodiakons A. Kurajew veröffentlicht, die in Minsk am Vorabend des Besuches vom Patriarchen von Moskau und ganz Russland Kyrill in Belarus stattgefunden hat (S. 18-21).

„Der Brief des heiligen Bruno Bonifatius an den König Heinrich II." ist in der Übersetzung aus dem Lateinischen des bekannten Latinisten Alesj Shlutka gedruckt (S. 22-25).

In der Rubrik *Glaube und Kultur* ist der Artikel von Pjotr Rudkouski OP «"Der Kreuzweg" der europäischen Freiheit» veröffentlicht (S. 26-30).

Der Tätigkeit der Bonifrater (der Kongregation des heiligen Johannes von Gott) ist der Artikel vom Bruder Athanasius „Die Seelen heilen, indem man den Körper gesund macht" gewidmet (S. 31-34).

In der Rubrik *Poesie* sind die Gedichte der belarussischen Poetin Aksana Daniltschyk gedruckt (S. 35-37).

Der Artikel von Pjotr Wajlja „Zu Beginn: Giotto", der ins Belarussische von Lidzia Kaminskaja übersetzt wurde, erzählt über den italienischen Maler der Renaissance (S. 38-42).

Die Literaturwissenschaftlerin Iryna Bagdanowitsch erzählt im Artikel „Auf dem Weg der nationalen und der geistigen Wiedergeburt" über die Tätigkeit des Funktionärs der belarussischen Wiedergeburt Branislaw Epimach-Schypila und publiziert das Gedicht „Zehn Gebote des Herrn" aus der Sammlung, die vom Wissenschaftler zusammengestellt wurde (S. 43-46).

In der Rubrik *Unsere Heiligtümer* ist die Studie von Alena Karpenka „Zur Geschichte des Altars der Gottesmutter vom Rosenkranz in der Pinsker katholischen Kirche der Himmelfahrt der Heiligsten Jungfrau Maria" gedruckt (S. 47-51).

„Ich gehe zu Fuß, Mutter" – so heißt ein Abschnitt aus dem neuesten Buch des Schriftstellers Franz Siuko (S. 52-56).

Den LeserInnen ist das Interview mit dem österreichischen Organisten Johann Trummer unter dem Titel „Ohne Musik wäre mein Leben leer…" angeboten (S. 57-59).

In der Rubrik *Kunst* ist der Essay von Danuta Bitschel über den Meister Kasimir Misjura gedruckt, der sich mit der Erneuerung der abgebrannten Teile des Hauptaltars der Grodnoer Basilika des heiligen Franzisk Xaver beschäftigt (S. 60-62).

Der Forscher Jury Lauryk bietet in der Rubrik *Mit den Augen des Visitators* den Artikel „Minsker Bernhardiner im Jahre 1796" an (S. 63-69).

„Auf Wiedersehen im Himmel" – so heißt der Artikel von Jan Uryga, in dem über die letzten Tage des irdischen Lebens von Friedrich Chopin erzählt wird und der dem 160.Todestag des Komponisten gewidmet ist (p. 70-71).

## PODSUMOWANIE

Niniejszy numer czasopisma otwiera artykuł historyka sztuki Waleryja Bujwała pt. „Joachim Patinir. Odpoczynek podczas ucieczki do Egiptu" w którym autor opowiada o jednym z dzieł sztuki holenderskiej, znajdującym się w mediolańskim Muzeum Prado (s. 2-3).

„To wielkie szczęście — służyć ludziom" — pod taką nazwą ukazuje się wywiad redaktora naczelnego „NW" Krystyny Lalko z Metropolitą Tadeuszem Kondrusiewiczem poświęcony 20. rocznicy jego sakry biskupiej (s. 4-8).

Również uwadze Czytelników proponuje się wywiad Franca Siwko z ordynariuszem diecezji witebskiej biskupem Władysławem Blinem z okazji 10-lecia utworzenia diecezji i sakry biskupiej jej pasterza (s. 9-11).

Zmicier Ciechanowicz przygotował dla Czytelników czasopisma aforyzmy z prac i przemówień wybitnego księdza i działacza odrodzenia białoruskiego Adama Stankiewicza (s. 12-13).

W rubryce *„Tłumaczenia"* proponuje się ciąg dalszy „Kwiatków świętego Franciszka" w tłumaczeniu Aksany Danilczyk (s. 14-15).

Rubryka *„Ad fontes"* zawiera ciąg dalszy słynnej pracy Tomasza a Kempis „O naśladowaniu Chrystusa", która została przetłumaczona na język białoruski przez dra Stanisława Hrynkiewicza w latach 30-tych minionego stulecia (s. 16-17).

W artykule „W epoce przemian" drukują się fragmenty konferencji prasowej prawosławnego diakona Andrzeja Kurajewa, która miała miejsce w Mińsku w przeddzień wizyty Patriarchy Moskwy i Wszechrusi Cyryla na Białoruś (s. 18-21).

„List świętego Brunona Bonifacego do króla Henryka II" drukuje się w tłumaczeniu z języka łacińskiego znanego latynisty Alesia Żłutki (s. 22-25).

W rubryce *„Wiara & Kultura"* ukazuje się artykuł Piotra Rudkouskiego OP pt. «„Droga krzyżowa" wolności europejskiej» (s. 26-30).

Działalności Bonifratrów (Zakonu Szpitalnego św. Jana Bożego) poświęcony jest artykuł brata Atanazego „Uzdrawiając ciała, leczyć dusze" (s. 31-34).

W rubryce *„Poezja"* drukują się wiersze białoruskiej poetki Aksany Danilczyk (s. 35-37).

W artykule Piotra Wajla „Na początku: Giotto di Bondone" przetłumaczonym na język białoruski przez Lidię Kamińską opowiada się o włoskim artyście Renesansu (s. 38-42).

Znawca literatury Iryna Bahdanowicz w artykule „Na drodze narodowego i duchowego odrodzenia" opowiada o działalności białoruskiego odrodzeniowca Bronisława Epimacha-Szypiły i publikuje wiersz „Dziesięć przykazań Bożych" z jego zbiorów (s. 43-46).

W rubryce *„Nasze świątynie"* drukują się badania Aleny Karpenki pt. „O historii ołtarza Matki Bożej Różańcowej w pińskim kościele pw. Wniebowzięcia Najświętszej Maryi Panny" (s. 47-51).

„Ja pieszo, mamo" — taki tytuł ma rozdział nowej książki pisarza Franca Siwko (s. 52-56).

Czytelnikom proponuje się wywiad z austriackim organistą Johannem Trummerem zatytułowany „Bez muzyki życie było by puste…" (s. 57-59).

W rubryce *„Sztuka"* umieszczony został esej Danuty Biczel o Kazimierze Misiurze, który zajmuje się odnowieniem spalonych części ołtarza głównego katedry grodzieńskiej pw. św. Franciszka Ksawerego (s. 60-62).

Badacz Jury Lauryk w rubryce *„Oczyma wizytatora"* proponuje artykuł „Mińskie Bernardyni w 1796 r." (s. 63-69).

„Do zobaczenia w niebie" — pod takim tytułem ukazuje się artykuł Jana Uryhi o ostatnich dniach życia ziemskiego Fryderyka Chopina, poświęcony 160. rocznicy śmierci kompozytora (s. 70-71).

## SOMMARIO

Questo numero della rivista inizia con la pubblicazione dell'articolo del critico d'arte Valery Bujval "Joachim Patinir. Riposo durante la fuga in Egitto", in cui l'autore racconta di una delle opere della pittura olandese che attualmente si trova al Museo di Prado di Madrid (p. 2-3).

L'intervista fatta dalla Direttrice della rivista Krystyna Lalko al Mitropolita Tadeusz Kondrusiewicz e dedicata al 20ş anniversario della sua consacrazione vescovile s'intitola „Servire la gente è una grande felicità" (p. 4-8).

All'attenzione dei lettori si sottopone anche l'intervista fatta da Franz Siuko al ordinario della Diocesi di Vitebsk Vescovo Uladzislau Blin e dedicata al 10ş anniversario della creazione della Diocesi di Vitebsk e della sua consacrazione vescovile (p. 9-11).

Zmizer Zekhanovič ha preparato per i lettori della rivista gli aforismi tratti dalle opere e dagli interventi del sacerdote e dell'esponente del rinascimento bielorusso Adam Stankevič (p. 12-13).

Continua la pubblicazione della traduzione dei *Fioretti* di San Francesco fatta da Aksana Danilchyk (p. 14-15).

Nella rubrica *Ad fontes* all'attenzione dei lettori si sottopone la parte successiva del famoso saggio di Tommaso da Kempis l'*Imitazione di Cristo*, di cui traduzione è stata effettuata negli anni trenta del secolo scorso dal Dottore Stanislau Grynkevič (p. 16-17).

Sotto il titolo „Nell'epoca dei cambiamenti" si pubblicano i brani della conferenza stampa del Protodiacono Andrei Kuraev organizzata a Minsk alla vigilia della visita in Bielorussia del Patriarca di Mosca e di tutta la Russia Cirillo (p. 18-21).

Si pubblica „La lettera del San Bruno-Bonifacio al re Enrico II" tradotta dal latino dal famoso latinista Ales Žlutka (p. 22-25).

Nella rubrica *Fede e cultura* è pubblicato l'articolo di Piotr Rudkouski OP "La Via Crucis della libertà europea" (p. 26-30).

All'attività di Buoni Fratelli (congregazione ospedaliera di S. Giovanni di Dio) è dedicato l'articolo del frate Atanasio "Curare l'anima risanando i corpi" (p. 31-34).

Sotto la rubrica *Poesia* si pubblicano i versi della poetessa bielorussa Aksana Danilchyk (p. 35-37).

Nell'articolo di Peter Vail "All'inizio: Giotto" tradotto in bielorusso da Lidia Kaminskaja si racconta del pittore italiano dell'epoca del Rinascimento (p. 38-42).

Il critico di letteratura Iryna Bagdanovič nell'articolo "Sul percorso del rinascimento nazionale e spirituale" racconta dell'attività dell'esponente del rinascimento bielorusso Branislau Epimakh-Šypila e pubblica la poesia "Dieci comandamenti di Dio" dalla raccolta fatta dallo scienziato (p. 43-46).

Sotto la rubrica *I nostri sacrari* si pubblica lo studio di Alena Karpenka "Sulla storia dell'altare della Madonna del Rosario della Chiesa cattolica dell'Assunzione della Madonna di Pinsk" (p. 47-51).

Il capitolo del nuovo libro di Franz Siuko si chiama "Vengo a piedi, mamma" (p. 52-56).

All'attenzione dei lettori si sottopone anche l'intervista con l'organista austriaco Johann Trumer intitolata "Senza musica la vita sarebbe vuota…" (p. 57-59).

Sotto la rubrica *Arte* si pubblica il saggio di Danuta Bicel dedicato al maestro Kasimir Misiura che si occupa del restauro delle parti bruciate dell'altare maggiore della Cattedrale di San Francesco Xavier di Gronda (p. 60-62).

Il ricercatore Jury Lauryk nella rubrica *Con occhi del visitatore* propone l'articolo "I frati Bernardini di Minsk nel 1796" (p. 63-69).

"Ci vediamo nel cielo" č il titolo dell'articolo di Jan Uryga in cui si racconta degli ultimi giorni della vita terrena di Fryderyk Chopin dedicato al 160ş anniversario dalla morte del compositore (p. 70-71).

---

На 1-й старонцы вокладкі — Нараджэнне Хрыстова. Сярэдзіна XVIII ст., з вёскі Латыгава Віцебскай вобл., НММ Рэспублікі Беларусь.


*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 4 (50)/2009.*

*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*

*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія. Плошча Свабоды, 9, 220030, г. Мінск.*

*Часопіс зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйны № 224.*

*Падпісаны да друку 15.12.2009 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 500 экз. Зак №        .*

*Надрукавана ў друкарні ТАА«Прамкомплекс» ЛП № 02330/0494121 ад 25.02.2009.*

*вул. Бехцерава, 10-402, 220021 г. Мінск.*

# Да гісторыі алтара Маці Божай Ружанцовай у пінскім касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі.

(артыкул А. Карпенкі чытайце на старонках 47–51)



Хрыстус юнак са Знакамі Мукі.
XVII (?) ст.
Адваротны бок карціны «Маці Божая Ружанцовая».
Публікуецца ўпершыню.



Алтарная карціна «Святая Сям'я з Францішкам».
Канец XVI – пачатак XVII ст.



Рэканструкцыя алтара Маці Божай Ружанцовай на 1730-я гг.



Рэканструкцыя алтара Маці Божай Ружанцовай на канец XVIII–XIX ст.



Алтарная карціна «Маці Божая Ружанцовая».
XVII (?) ст.